WWW.NGO.UNIBEL.BY

Травень '2002

# БЮЛЕТЭНЬ

АСАМБЛЕІ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ НЯЎРАДАВЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ БЕЛАРУСІ

**ХТО І КОЛЬКІ**
парады грантаатрымальнікам

**ВАЛЯНТЭР**
ГРАМАДЗТВУ СЯБАР

**ЛАМАЦЬ- НЕ БУДАВАЦЬ**
"вежу" зачынілі

**ЩЕ НЕ ВМЕРЛІ**
ўкраінскія нда на выбарах



# ГРОШЫ
## І ГРАМАДЗКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ

# ПРАЗЬ ЦЕРНІ – ДА ГРАМАДЗТВА

## ТАКІ ШЛЯХ МОЛАДЗЕВЫЯ НДА ВЫЗНАЧАЮЦЬ ЯК ПРЫЯРЫТЭТНЫ

*Алёна ВАЛЫНЕЦ*

**20 красавіка ў Менску пад эгідай Выканаўчага бюро Асамблеі НДА адбыўся круглы стол "Моладзевыя арганізацыі сёньня і заўтра: магчымасьці ўплыву на грамадзтва". У мерапрыемстве ўзялі ўдзел прадстаўнікі больш як 40 моладзевых грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў з усёй краіны.**

Праблема іміджу "трэцяга сэктару" ў вачох насельніцтва зьяўляецца на сёньняшні дзень адной з самых вострых: беларускае грамадзтва слаба ўяўляе сабе, што такое няўрадавыя арганізацыі, якія яны ставяць перад сабой мэты, якім чынам ГА могуць дапамагчы любому чалавеку і інш. У сваю чаргу "трэці сэктар" сутыкаецца з праблемай размытасьці ўласных мэтаў, з праблемай неадэкватнай ацэнкі інтарэсаў і запытаў грамадзтва і да т.п. Таму ня дзіва, што грамадзкі сэктар Беларусі зараз актыўна шукае шляхі ўплыву на грамадзтва; таму лягічна, што адной з самых важных мэтаў моладзевага круглага стала было выяўленьне самімі арганізацыямі ступені ўласнай гатоўнасьці да супрацоўніцтва з грамадзтвам і магчымасьці ўплыву на яго.

Прээзнтацыя дзейнасьці арганізацыяў, зладжаная на круглым стале, прадэманстравала, што моладзевыя арганізацыі спрабуюць рабіць першыя - пасьпяховыя і ня вельмі - крокі па шляху да фармаваньня станоўчага іміджу НДА ў грамадзкай сьвядомасьці. Удзельнікі распавялі пра праведзеныя сацыяльныя, культурніцкія акцыі, якія дазволілі прынамсі заявіць розным мэтавым групам пра існаваньне ГА.

Дыскусія на тэму "Адносіны грамадзтва і моладзевага трэцяга сэктару: праблемы і пэрспэктывы" паказала, што моладзевыя арганізацыі выйшлі на той узровень, калі яны здольныя бачыць рэальныя праблемы грамадзкага сэктару:
- недавер грамадзтва да НДА;
- адсутнасьць стратэгіі разьвіцьця;
- няведаньне сацыяльных праблемаў сваёй мясцовасьці;
- нежаданьне супрацоўнічаць міжсобку;
- слабы PR і недахоп інфармацыі аб дзейнасьці НДА;
- канфлікт каштоўнасьцяў у грамадзтве;
- блытаніна палітычнай і грамадзкай дзейнасьці часткай НДА, іх палітызаванасьць.

Як адзін са шляхоў вырашэньня пералічаных праблемаў удзельнікі назвалі правядзеньне супольных акцыяў, якія, з аднаго боку, дапамогуць пераадолець недавер да НДА з боку грамадзтва, а з другога, наладзіць супрацоўніцтва паміж самімі грамадзкімі арганізацыямі і ініцыятывамі на мясцовым і нацыянальным узроўнях.

Як адзін са шляхоў вырашэньня пералічаных праблемаў удзельнікі назвалі правядзеньне супольных акцыяў, якія, з аднаго боку, дапамогуць пераадолець недавер да НДА з боку грамадзтва, а з другога, наладзіць супрацоўніцтва паміж самімі грамадзкімі арганізацыямі

Удзельнікі выказаліся за правядзеньне супольнай нацыянальнай моладзевай акцыі. Ахвотныя ўзяць удзел у яе распрацоўцы ўвайшлі ў Рабочую групу, якая складаецца з 24 чалавек - прадстаўнікоў арганізацыяў з розных рэгіёнаў Беларусі (Гомель, Наваполацак, Гародня, Барысаў, Магілёў, Бабруйск, Віцебск, Крычаў, Ваўкавыск, Ворша, Жодзіна, Менск, Берасьце, Асіповічы, Шаркаўшчына, Слонім).

Ужо 12 красавіка адбылося першае паседжаньне Рабочай групы. На ім былі зробленыя першыя захады дзеля распрацоўкі нацыянальнай моладзевай акцыі: вызначаны характар магчымых акцыяў, прызначаная дата правядзеньня, складзены графік далейшай працы. Удзельнікі групы адзначылі, што пэрспэктыўнымі ўяўляюцца тыя акцыі, якія будуць арыентаваныя непасрэдна на грамадзтва, будуць мець выразна сацыяльную скіраванасьць; акцыі, вынікі якіх будуць відавочныя для насельніцтва і шырокія паводле геаграфіі (вялікае кола гарадоў-удзельнікаў, статус нацыянальнай дазволіць прыцягнуць да акцыі ўвагу вялікай колькасьці электронных СМІ).



Галоўнай мэтай для НДА былі прапанаваныя усталяваньне зваротнай сувязі з грамадзтвам і закладаньне трывалых стасункаў паміж самімі грамадзкімі арганізацыямі.

**Прынцыпамі** рэалізацыі акцыі будуць:
- адначасовасьць і скаардынаванасьць па краіне;
- легальнасьць акцыяў;
- шырокая інфармацыйная кампанія;
- прамоцыя арганізацый-удзельнікаў, Асамблеі, NGO;
- супрацоўніцтва;
- арыентацыя на канкрэтныя лякальныя праблемы;
- чыннасьць і выніковасьць.

Адкінуўшы ўсе ілюзіі, варта сказаць, што правядзеньне нацыянальнай акцыі можа стаць пачаткам доўгатэрміновай моладзевай праграмы, якая сапраўды выкліча цікавасьць з боку грамадзтва і паўплывае на стварэньне станоўчага іміджу НДА. Плянуецца, што акцыя адбудзецца пад адзіным лёзунгам і лягатыпам 30 чэрвеня ў Дзень моладзі.

*P.S. Моладзевыя арганізацыі, якія жадаюць далучыцца да акцыі, просім зьвяртацца ў ВБ.*

# КАЛЕКТЫЎНАЯ АБАРОНА НДА

## ЯК РЭЦЭПТ АД ХВАРАВІТАЙ УВАГІ ЎЛАДАЎ

***У мінулым нумары "Бюлетэню" мы паведамлялі, што напачатку гэтага году пры Асамблеі НДА Беларусі была створаная Рабочая група па калектыўнай абароне арганізацыяў. Сытуацыя, калі "першы сэктар" прымае актыўныя захады па выцясненьні беларускіх НДА зь юрыдычнага поля, падштурхнула юрыстаў аб'яднаць намаганьні па зборы інфармацыі па парушэньні правоў ГА, па яе аналізе, па выпрацоўцы агульных падыходаў па абароне правоў арганізацыяў, у тым ліку ў судзе. Балазе, падзеі вакол ЗБС, "Вежы", "Грамадзкіх ініцыятываў" даюць "ежу" юрыстам, якія працуюць з НДА.***

***Пра дзейнасьць Рабочай групы па калектыўнай абароне аглядальнік "Бюлетэню" Ян Міхевіч гутарыць з Барысам ЗВОСКАВЫМ, адным зь ініцыятараў яе стварэньня.***



- Апошнім часам дзяржава праяўляе павышаную, надта нездаровую цікавасьць да дзейнасьці НДА. Задачы, якія стаяць перад уладамі, зводзяцца не да таго, каб дапамагчы, падказаць, як правільна працаваць ГА, каб ператварыцца ў моцныя, карысныя для грамадзтва структуры, а да звычайнага пакараньня. Пакараньне чакае нават за нязначныя памылкі: напрыклад, за недахопы ў справаводзтве можа быць вынесена папярэджаньне, а два пісьмовыя папярэджаньні вядуць да закрыцьця.

Больш за тое, зь мінулай восені пачалася вялікая кампанія па перасьледзе арганізацыяў, якія выяўлялі актыўнасьць падчас выбарчай кампаніі. У розных рэгіёнах - дзе з дапамогай падатковай інспэкцыі, дзе з дапамогай КДБ, міліцыі - арганізацыі перасьледаваліся, на іх афармляліся нейкія справы, перадаваліся ў суд. Апошняя, як вядома, у нашай краіне не зьяўляюцца незалежнымі, непрадузятымі, таму судовыя разьбіральніцтвы заканчваліся канфіскацыямі маёмасьці, вялікімі штрафамі і да т.п.

**- Складаецца такое ўражаньне, што і адмова ў рэгістрацыі стала абсалютна нармальнай працэдурай.**

- Па сутнасьці, рэгіструючыя органы створаныя для таго, каб падказаць, дапамагчы прыбраць недахопы ў статуце, а ў выніку атрымліваецца, што людзі ствараюць арганізацыю, а іх не рэгіструюць, спасылаючыся на нейкія парушэньні. З 1999 году зьменены прынцып рэгістрацыі - зараз ён дазваляльны: створана рэспубліканская камісія, якая прымае заключэньне, паводле якога арганізацыя рэгіструецца ці не рэгіструецца.

***Калі нешта здараецца, вы атрымліваеце нейкае папярэджаньне ня толькі ад рэгіструючага органа, але і ад пажарных службаў, санэпідэмслужбаў, ад Камітэту па архівах і справаводзтве, - дасылайце такую інфармацыю Рабочай групе па калектыўнай абароне.***

**- Сп. Барыс, а што гэта за камісія, якія заключэньні яна дае?**

- Што за заключэньне - пра гэта не гаворыцца нават у Дэкрэце №2, які рэглямэнтаваў перарэгістрацыю ГА. Дазвол на рэгістрацыю ідзе ад нейкай камісіі, якая дзейнічае негалосна, закрыта, яна не зьяўляецца ні юрыдычнай асобай, ні нейкім дзяржаўным органам, ня мае юрыдычнага адрасу. Дзеяньні гэтай камісіі ня могуць быць абскарджаныя, бо яна - не юрыдычная асоба. Карацей, гэтая арганізацыя знаходзіцца па-за кантролем і грамадзтва, і дзяржавы.

**- Што ўяўляе зь сябе мэханізм калектыўнай абароны арганізацыі?**

- Упершыню ён быў выкарыстаны ў 1999 годзе, калі ішла перарэгістрацыя грамадзкіх аб'яднаньняў. Юрысты выяжджалі ў рэгіёны і рэкамэндавалі, якія зьмены ў статут трэба ўнесьці, каб прайсьці перарэгістрацыю.

Зараз, у 2002 годзе, гаворка ідзе пра тое, як дапамагчы зарэгістраваным арганізацыям выжыць. Гэта зьвязана з тым, што ГА рэдка калі маюць свайго юрыста, які мог бы кваліфікавана параіць, што трэба рабіць, як трэба рабіць, каб застацца ў рамах закону. Таму ўсе прэтэнзіі ад дзяржорганаў заснаваныя на тым, што ў ГА нейкіх спэцыфічных заканадаўчых актаў могуць і ня ведаць, гэта не зьяўляецца іхным абавязкам. Яны ведаюць Закон аб грамадзкіх аб'яднаньнях, Дэкрэты №2, 8 - астатняе застаецца па-за іхнай увагай. Напрыклад, ведамасная інструкцыя МУС, якая тычыцца выгляду пячаткі арганізацыі.

**- У такім выпадку, што робіць Рабочая група па калектыўнай абароне?**





- Тут можна казаць пра тры роўні. Першы - непасрэдная дапамога арганізацыям у адстойваньні іхных законных інтарэсаў, іх правоў у судовых інстанцыях. Другі - збор, аналіз інфармацыі па схеме "дзе, што, калі і з кім здараецца", на аснове чаго распрацоўваюцца рэкамэндацыі агульнага пляну, каб давесьці іх да ведама ўсіх арганізацый-сябраў Асамблеі. Гэта робіцца, каб хаця б павярхоўна, у агульных рысах выклясьці патрабаваньні заканадаўства, спосабы, з дапамогай якіх дзяржава можа зьдзяйсьняць перасьлед арганізацый.

Трэці ровень - гэта праца па дапаўненьні, зьменах існага заканадаўства, якое занадта расплывістае, зьмяшчае зашмат адсылкавых нормаў і інш. У нас няма заканадаўства, якое б усеабʼёмна апісвала, стварала заканадаўчую базу для арганізацыяў "трэцяга сэктару". Няма закону аб гуманітарнай дзейнасьці, аб дабрачыннай дзейнасьці, незразумелае і расплывістае заканадаўства аб падатках і падаткаабкладаньні грамадзкіх аб'яднаньняў. У гэтым пляне варта адзначыць працу Незалежнага таварыства прававых дасьледаваньняў, якое інфармуе пра навіны ў заканадаўстве, працуе над распрацоўкай законапраектаў, спрабуе давесьці іх да заканадаўчага органа, каб гэта было прынята.

**- Якім чынам працуе калектыўная абарона ў рэгіёнах?**

- Мы ствараем своеасаблівую сетку, якая складаецца зь юрыстаў, што займаюцца праблемамі "трэцяга сэктару". Пры рэгіянальных рэсурсавых цэнтрах можа быць адзін-два юрысты ці юрыдычныя службы, якія будуць займацца праблемамі ГА. Яны дапамагаюць складаць іскавыя заявы, адстойваць інтарэсы непасрэдна на судовых паседжаньнях.

У Менску група, у якую ўваходзіць шэсьць чалавек - Уладзімер Лабковіч, Юрась Чавусаў, Натальля Казлоўская, Алена Танкачова і я - паставіла задачу зьбіраць інфармацыю, дакумэнты для аналізу, на аснове якога будуць выпрацоўвацца памяткі, буклеты, брашуркі, якія можна будзе перадаваць праз Выканаўчае бюро ўсім сябрам Асамблеі.

Уся інфармацыя, якая трапляе да Рабочай групы, перадаецца сябрам абарончай сеткі.

**- Ці гатовыя самі арганізацыі перадаваць вам такую інфармацыю?**

- Складанасьць у тым, што арганізацыі недастаткова адказна ставяцца да гэтай праблемы. Нешта здарылася: арганізацыі дасылаюць прэс-рэліз, дзе эмоцый праз край, але юрысты працуць не з эмоцыямі, а з дакумэнтамі. У гэтым пляне Віктар Андрэеў з Воршы падышоў да справы вельмі адказна, ён сабраў і перадаў нам усе дакумэнты.

Таму мы просім усе арганізацыі: калі нешта здараецца, вы атрымліваеце нейкае папярэджаньне ня толькі ад рэгіструючага органа, але і ад пажарных службаў, санэпідэмслужбаў, ад Камітэту па архівах і справаводзтве, - дасылайце такую інфармацыю Рабочай групе па калектыўнай абароне. Бо адзін змаўчаў - другі атрымаў гэткае самае папярэджаньне і ня ведае, што рабіць у такім выпадку. Навошта ствараць сабе непатрэбныя праблемы?

***Чыноўнік, які патрабаваў закрыцьця "Вежы", папросту выконваў загад. Хаця, хто ведае: ягоны пункт погляду часам быў спэцыфічны. Напрыклад, ён настойваў на тым, што тэрміну "валянтэр" няма. Дзіўна, як чалавек з вышэйшай адукацыяй ня ведае, што ААН мінулы год абвесьціла годам валянтэрства.***

**- Спадар Барыс, чаму, на Вашую думку, не ўдалося адстаяць "Вежу"?**

- Справа "Вежы" - адказ уладаў на актыўнасьць арганізацыі, якая не залежыць ад волі, ад рашэньняў, ад намераў органаў улады. Для мяне з самага пачатку было зразумела, што суд перадузяты. Ёсьць два бакі, якія спрачаюцца: Упраўленьне юстыцыі і ГА "Вежа". Яны прыводзяць свае аргумэнты, у іх ёсьць пытаньні адно да аднаго, і задача суду - ацаніць важкасьць довадаў, даць ім ацэнку, выслухаць думку пракурора і пасьля прымаць рашэньні. У нашым выпадку судзьдзя сам задаваў пытаньні сьведкам, сам прымаў рашэньні пра выклік таго ці іншага сьведкі і сам задаваў свае пытаньні. Ён выяўляў актыўнасьць. На сёньняшні дзень гэта састарэлая норма: судзьдзя, як і арбітар, мусіць ацэньваць.

Перасьлед "Вежы", відавочна, не ініцыятыва Упраўленьня юстыцыі. Складаецца ўражаньне, што гэта робіцца па чыёйсьці камандзе зьверху. Чыноўнік, які патрабаваў закрыцьця "Вежы", папросту выконваў загад. Хаця, хто ведае: ягоны пункт погляду часам быў спэцыфічны. Напрыклад, ён настойваў на тым, што тэрміну "валянтэр" няма. Дзіўна, як чалавек з вышэйшай адукацыяй ня ведае, што ААН мінулы год абвесьціла годам валянтэрства. Довады Ўпраўленьня юстыцыі досыць наіўныя.

Калі б не было пастаўлена задачы зьнішчыць "Вежу", справу можна было выйграць. На жаль, гэта стала сумнай практыкай. Тое самае можна сказаць пра суд над ГА "Грамадзянскія ініцыятывы".

***Адпаведнасьць дзейнасьці арганізацыі заканадаўству правярае Пракуратура, але ніяк не Ўпраўленьне юстыцыі. 4 частка Закону аб грамадзкіх аб'яднаньнях гаворыць, што іншае ўмяшаньне Ўпраўленьня юстыцыі ў дзейнасьць грамадзкіх аб'яднаньняў за-ба-ра-ня-ецца!***

**- Як Вы ацэньваеце дзейнасьць Упраўленьня юстыцыі?**

- Закон аб грамадзкіх аб'яднаньнях вызначае тры суб'екты, якія могуць кантраляваць дзейнасьць ГА: рэгіструючы орган, Пракуратура, падатковая інспэкцыя. Рэгіструючы орган - Упраўленьне юстыцыі - кантралюе дзейнасьць арганізацыяў на адпаведнасьць іх статуту. У той жа час мы ведаем процьму выпадкаў, калі рэгіструючы орган кантралюе дзейнасьць ГА на адпаведнасьць чаму заўгодна - Закону аб друку, Закону аб справаводзтве - апроч статуту. Але гэта не яго кампэтэнцыя. Адпаведнасьць дзейнасьці арганізацыі заканадаўству правярае Пракуратура, але ніяк не Упраўленьне юстыцыі. 4 частка Закону аб грамадзкіх аб'яднаньнях гаворыць, што іншае ўмяшаньне Упраўленьня юстыцыі ў дзейнасьць грамадзкіх аб'яднаньняў за-ба-ра-ня-ецца!

# УНЁСКІ ДЛЯ СЯБРАЎ АСАМБЛЕІ:
## мроі ці рэальнасьць?

***На апошнім паседжаньні Рабочай групы Асамблеі Сяргей Мацкевіч агучыў падрыхтаваны ім па даручэньні РГ аналіз магчымасьцяў увядзеньня інстытуту сяброўскіх складак як аднаго з варыянтаў фінансаваньня некаторых відаў дзейнасьці працы Асамблеі. На думку сп. Мацкевіча і іншых сяброў Рабочай Групы, падтрымка такой ідэі на Кангрэсе сьведчыла б пра новы, больш высокі ровень разьвіцьця Асамблеі. Таму пераважная большасьць прагаласавала за неабходнасьць распрацоўкі мэханізму па зборы складак.***
***Ніжэй мы падаем першыя вынікі працы адмысловай Рабочай групы "па ўнёсках", у склад якой увайшлі Сяргей Мацкевіч ("Цэнтар Супольнасьць"), Алена Анісім (Менская арганізацыя ТБМ) і Ірына Жыхар (БАПЖ).***
***Дадзены матэрыял – толькі спроба зартэкуляваць пытаньне ўнёскаў, якое плянуецца падняць на чарговым Кангрэсе. Зьвяртаем вашую ўвагу на тое, што аб'ект атрыманьня ўнёскаў (адпаведна, і справаздачнасьці) у артыкуле дакладна не пазначаны. Нашая мэта – пачуць, што вы, сябры Асамблеі, думаеце на гэты конт.***
***Мы чакаем вашых водгукаў.***

Існуе некалькі агульнавядомых мэханізмаў фінансаваньня грамадзкай дзейнасьці. Самыя распаўсюджаныя сярод іх гэта:
1. Дзяржаўная падтрымка (рэспубліканскія і мясцовыя бюджэты);
2. Спонсарская дапамога мясцовага бізнэсу (у тым ліку праз сумесныя праекты);
3. Добраахвотныя ахвяраваньні насельніцтва і прыватнага бізнэсу (акцыі па зборы сродкаў, скрыні для ахвяраваньняў, арганізацыя дабрачынных мерапрыемстваў, артыкулы ў прэсе, ліставаньне і г.д.);
4. Спонсарская дапамога дабрачынных фондаў (мясцовых і замежных);
5. Сяброўскія ўнёскі;
6. Платныя паслугі і прадпрымальніцкая дзейнасьць.

Выкарыстаньне таго ці іншага спосабу залежыць ад жаданьня і арганізацыйных магчымасьцяў саміх арганізацыяў. Відавочна, што ня ўсе з прапанаваных магчыма зрэалізоўваць у існых беларускіх умовах, але відавочна і тое, што некаторыя з гэтых спосабаў неапраўдана забытыя грамадзкімі арганізацыямі - сябрамі Асамблеі.
У структуры крыніцаў фінансаваньня грамадзкага сэктару разьвітых краінаў інстытут унёскаў выкарыстоўваецца досыць актыўна. У такім выпадку, чаму беларускія NGOs ставяцца да гэтага насьцярожана?

Якія станоўчыя моманты могуць адбыцца ў дзейнасьці грамадзкай арганізацыі (у прыватнасьці, Асамблеі, якая зьяўляецца асацыяцыяй грамадзкіх аб'яднаньняў і ініцыятываў) збор сяброўскіх унёскаў?
- Зьяўляецца дадатковая (і пастаянная) крыніца фінансаваньня. Ва ўмовах татальнага недахопу сродкаў для вядзеньня грамадзкай дзейнасьці гэта вельмі істотна.
- Арыентацыя на адну-дзьве крыніцы фінансаваньня ствarae небясьпеку моцнай залежнасьці ад гэтых крыніцаў. Таму зьбіраньне сяброўскіх унёскаў дапамагае захоўваць самастойнасьць (незалежнасьць ад вонкавых крыніцаў фінансаваньня).
- Рэгулярны збор унёскаў дае магчымасьць спраўдзіць рэальны колькасны склад арганізацыі, што важна для плянаваньня і эфэктыўнай дзейнасьці.
- Натуральна, што тых, хто здае ўнёскі, будзе цікавіць, куды пайшлі сабраныя сродкі і чаму менавіта туды. Гэта заангажоўвае ў працэс кіраваньня сябраў (для арганізацыі) альбо нізавыя арганізацыі (для асацыяцыі).
- Гэты ж чыньнік дадатковага кантролю прымушае выканаўчыя структуры эфэктыўна выкарыстоўваць сродкі.
- Дзеля прыцягненьня новых сродкаў грамадзкія арганізацыі павінны будуць займацца рэклямай дзейнасьці, і, паралельна, папулярызацыяй усяго "трэцяга сэктару".
- Кожны з тых, хто дае сродкі, будзе патрабаваць нешта ўзамен. Адпаведна, зьявіцца сьпіс паслугаў (ільготаў) для сябраў.

Зразумела, што ня толькі плюсы суправаджаюць увядзеньне такога мэханізму, але і пэўныя мінусы. Паспрабуем гэтыя мінусы сфармуляваць у дачыненьні да канкрэтнага выпадку - Асамблеі ДНА.
- Канешне, гэта дадатковы аб'ём працы, які патрабуе ад нас дадатковых людзкіх рэсурсаў і часу. Гэта і бухгальтар, і скарбнік, і рэвізор.
- Гэта магчымы адыход сябраў з-за адсутнасьці сродкаў, калі ўнёскі будуць абавязковыя.
- Сябры Асамблеі - як зарэгістраваныя, так і незарэгістраваныя - уваходзяць у асацыяцыю на роўных правах. Паўстае дылема: хто павінен ўносіць сяброўскія ўнёскі, каб захаваць гэтыя роўныя правы? *Фізычныя асобы ці арганізацыі? Афіцыйна можна працаваць альбо з фізычнымі асобамі, альбо з зарэгістраванымі арганізацыямі.*
- Арганізацыі, якія ўваходзяць у Асамблею, моцна адрозьніваюцца па колькасьці сябраў (ад адзінак да тысячаў). Таму цяжка вызначыць прынцып здачы ўнёскаў - роўны ці прапарцыйны - і памер унёскаў.
- Трэба мець на ўвазе, што пры малым памеры ўнёскаў выдаткі на арганізацыю збору складак могуць перавысіць аб'ём сабраных сродкаў. Дзеля эфэктыўнасьці патрэбны даволі значны памер унёскаў.
- Тое, што зьяўляецца станоўчым фактарам - прадастаўленьне паслугаў - адначасова прымушае скласьці рэальны рэестар гэтых паслугаў. Спачатку трэба нешта прапанаваць, а потым зьбіраць сродкі.
- Для таго, каб стаць сябрам Асамблеі, арганізацыі дастаткова прадставіць пратакол сходу, дзе пацьвярджаецца, што дадзеная арганізацыя ўступае ў Асамблею на аснове ўхваленьня сваімі сябрамі чатырох асноўных прынцыпаў: незалежнасьць, дэмакратыя, рынкавыя рэформы і правы чалавека. Няма ніякай неабходнасьці ўводзіць дадатковыя абмежаваньні для сябраў Асамблеі і немагчыма прымяненьне штрафных санкцыяў за няўплату сяброўскіх унёскаў.
- Важна ўлічваць псыхалягічны момант: калі выканаўчая структура "выбівае" ўнёскі, адбываецца пагаршэньне адносінаў, памяншаецца колькасьць кантактаў між структурай і сябрамі Асамблеі.
- Калі арганізацыя зарэгістраваная, зьбіраньне ўнёскаў прыцягвае дадатковую ўвагу падатковых органаў. Акром таго, адпаведна заканадаўству, дзякуючы гэтаму магчымая ідэнтыфікацыя тых, хто робіць унёскі.
- Выкарыстаньне сродкаў абмежаванае статутнымі мэтамі, якія мінімізаваныя дзеля таго, каб вырашыць праблемы з рэгістрацыяй.

Як бачым, непераадольных цяжкасьцяў у сьпісе няма, і таму пры распрацоўцы прынцыпаў і мэханізму збору сродкаў трэба проста мінімізаваць праблемы і захаваць закладзеныя пры стварэньні Асамблеі прынцыпы.

Адным з варыянтаў можа быць наступны:
1. Прымяняюцца два віды ўнёскаў: уступныя (аднаразовыя і абавязковыя) і рэгулярныя (не часьцей 1 разу на квартал і не радзей 1 разу на год).
2. Адпаведна існуюць два пакеты паслугаў для арганізацыяў-сябраў Асамблеі: базавы і пашыраны. Магчымыя паслугі можна падзяліць на 4 кірункі:

Інфармацыйныя:
- атрымліваць інфармацыйную рассылку (як мінімум, штотыднёва),
- карыстацца базай дадзеных арганізацыяў, СМІ, фундатараў,
- рабіць web-старонка арганізацыі на сайце Асамблеі,
- зьмяшчаць абвесткі ў рассылцы,
- штомесяц атрымліваць інфармацыйна-аналітычны "Бюлетэнь".

Адукацыйна-мэтадычны:
- мэтадычныя распрацоўкі,
- трэнэрскія паслугі,
- кантакты з адукацыйнымі арганізацыямі.

Юрыдычныя:
- рэгістрацыя,
- абарона,
- аўдыт.

Кансультацыйныя:
- па праектах,
- па навучаньні,
- па арганізацыйным разьвіцьці,
- па інфармацыйным забесьпячэньні.

Магчымае разьмеркаваньне ў залежнасьці ад відаў унёскаў прыведзена ў табліцы.

| *Паслугі* | *Інфармацыйныя* | *Кансультацыйныя* | *Адукацыйна-мэтадычныя* | *Юрыдычныя* |
|---|---|---|---|---|
| *Базавы пакет* | *Рассылка, абвесткі* | *Па інфармацыйным забесьпячэньні* | *Кантакты* | *Кантакты* |
| *Пашыраны пакет* | *Базы дадзеных, "Бюлетэнь", web-старонка* | *Па навучаньні, Па праектах, па арганізацыйным разьвіцьці* | *Трэнэры, мэтадычныя распрацоўкі* | *Рэгістрацыя, абарона, аўдыт* |

3. Рэгіянальныя філіі рэспубліканскіх і абласных арганізацыяў самастойна вырашаюць свой статус (ці ўваходзяць як раўнаправныя арганізацыі і атрымліваюць паслугі, ці працуюць праз свае цэнтральныя арганізацыі).
4. Паколькі сябрамі Асамблеі ёсьць арганізацыі, то і паслугі прадстаўляюцца арганізацыям, а не асобным сябрам.
5. Памер унёскаў аднолькавы для ўсіх сябраў.
6. Уступны ўнёсак можа складаць каля 10.000 рублёў, рэгулярны - 20.000-50.000 рублёў на год.
7. Збор унёскаў ажыцьцяўляецца цэнтралізавана (без раёнаў і абласцей), праз перадаплату.
8. Мэты, на якія выкарыстоўваюцца сродкі, вызначаюцца Рабочай Групай.
9. Адказны за выкарыстаньне сродкаў - Старшыня Выканаўчага бюро.
10. Штрафныя санкцыі за нявыплату ўнёскаў - неаказаньне паслугаў.

Падсумоўваючы, адзначым, што эфэктыўнасьць дзейнасьці *арганізацыяў "трэцяга сэктару"* найпрост залежыць ад цэлага шэрагу фактараў:
- Устойлівыя крыніцы фінансаваньня;
- Стан матэрыяльна-тэхнічнай базы NGOs;
- Інфармацыйнае забесьпячэньне дзейнасьці NGOs;
- Ровень падрыхтоўкі супрацоўнікаў;
- Узаемадзеяньне паміж арганізацыямі "трэцяга сэктару".

Першы і апошні з гэтых фактараў атрымліваюць сваё разьвіцьцё пры ўвядзеньні мэханізму збору сяброўскіх унёскаў. Ускосна паляпшаецца і інфармацыйнае забесьпячэньне праз аказаньне абавязковых паслугаў. Такім чынам, збор сяброўскіх унёскаў сьведчыць пра больш высокую арганізацыйную структуру і зьяўляецца крокам наперад у разьвіцьці арганізацыі.

# ГРАШОВАЕ АПЫТАНЬНЕ

**Адсутнасьць грошай – пытаньне, якое можна аднесьці да шэрагу адвечных для "трэцяга сэктару". Па дадзеных сацыёлягаў, 23,7% рэспандэнтаў-сябраў НДА вызначылі самай галоўнай рызыкай унутранага асяродку арганізацыі недахоп / адсутнасьць фінансаў. А насамрэч, наколькі важныя грошы ў дзейнасьці вашай арганізацыі? Ніжэй – вынікі нашага "Грашовага апытаньня", падчас якога рэспандэнтам задавалі наступныя пытаньні:**

***1. Як адсутнасьць грошай уплывае на дзейнасьць Вашай арганізацыі?***

***2. Ці можаце Вы прывесьці прыклад дзейнасьці сваёй арганізацыі пры адсутнасьці бюджэту?***

***3. Як па-Вашаму, ці можа быць бюджэт арганізацыі празрыстым для сябраў арганізацыі, для грамадзтва?***

**Віктар Андрэеў, старшыня ГА "Цэнтар імя Філона Кміты" (Ворша)**



1. Асноўнымі кірункамі працы нашай арганізацыі зьяўляюцца выдавецкі і адукацыйны. Акрамя таго, мы аказваем розныя паслугі арганізацыям: ксэракапіяваньне, выданьне газэт і бюлетэняў, інтэрнэт і да т.п. Таму адсутнасьць грошай значна ўплывае на нашую дзейнасьць. Заўсёды патрэбныя расходныя матэрыялы, папера, памяшканьне, аплата камунальных паслугаў, тэлефона і г.д.

2. Для нас гэта пытаньне неадназначнае. Бясплатна для арганізацый па іх жаданьні мы праводзім навучаньне (гэта часьцей за ўсё адбываецца ў нашым памяшканьні), даем прававыя і іншыя кансультацыі, робім макеты да друку і г.д. Абсалютна бясплатна разносім і раздаем друкаваную прадукцыю, бярэм удзел у правядзеньні якіх-небудзь акцыяў і мерапрыемстваў.

3. Я лічу, што ўсе сябры арганізацыі павінны ўдзельнічаць і прымаць рашэньні па размеркаваньні бюджэту. Інакш будзе адбывацца так, як адбываецца ў нашай дзяржаве, часьцяком - і ў асяродку НДА, і ў партыях, і ў прафсаюзах. Вельмі зручна спасылацца на палітычныя ўмовы ў краіне лідэрам арганізацый і пад гэта быць адзінымі асобамі, якія валодаюць фінансавай інфармацыяй.

Наконт шырокага кола грамадзтва? Толькі са зьменай палітычнай сытуацыі, хаця гэта таксама зьменшае шанцы на зьмены, таму што няма пэўнага даверу з боку людзей.

**Сяргей Адзінец, старшыня Гомельскага моладзевага цэнтру "Гарт"**

1. У апошні час у нашай арганізацыі ёсьць дастаткова фінансавых рэсурсаў для выкананьня задачаў.

2. Любая дзейнасьць патрабуе рэсурсаў. Іншая справа, што рэсурсы бываюць ня толькі грашовыя, але й іншыя: людзкія, тэхнічныя, тэхналягічныя. У нашай арганізацыі быў пэрыяд, калі мы цэлы год працавалі зь мінімальным бюджэтам. За гэты час было зладжана шмат мерапрыемстваў: бардаўскія канцэрты, сустрэчы моладзі з палітыкамі й пісьменьнікамі, мы выдавалі газэты, рабілі візыты на цікавыя мерапрыемствы.

3. У цывілізаваных краінах бюджэт і ёсьць празрыстым і для сябраў, і для грамадзтва. У Беларусі законы, як заўжды, адмысловыя, і арганізацыі вымушаныя іх абыходзіць. Да таго ж, ва ўмовах супрацьстаяньня дзяржавы і прадэмакратычнага "трэцяга сэктару" рабіць бюджэт празрыстым сама мала небясьпечна.

**Валянціна Трыгубовіч, старшыня Міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня "Беларуская пэрспэктыва" (Менск)**

1. Колькі існуе нашая арганізацыя, грошы мы мелі мінімальныя. Гэта значыць, грошы ад ахвярадаўцаў ці па грантах нам удавалася здабываць вельмі рэдка. Яны пускаліся на аплату таго, што цалкам падкантрольнае, напрыклад, білетаў. Нашая арганізацыя з самага пачатку стваралася як валянтэрская, мы ніколі не працавалі па схеме "спачатку атрымаем грошы, а потым пачнем дзейнічаць". Мы пачыналі дзейнічаць, калі былі перакананыя, што трэба нешта зрабіць, а грошы, скажам, на паштовыя выдаткі браліся з уласнай кішэні. Калі мы бачылі, што з уласных сродкаў ня можам нешта аплаціць, то вельмі часта гэта не рабілася.

2. У нашай арганізацыі практычна ніколі не было офіса па той прычыне, што ў нас няма магчымасьці яго аплачваць. Паскольку большая частка нашае працы праходзіць у рэгіёнах, то мы з гэтым зьмірыліся. Наяўнасьць офіса ня ёсьць для нас абавязковай умовай. Гэтаксама для кожнай арганізацыі тэхніка. Так сталася, што ў нашай арганізацыі людзі дарослыя, яны маюць пэўны сацыяльны статус, таму ў большасьці зь іх кампутары стаяць дома свае. І, такім чынам, уся грамадзкая праца робіцца на прыватнай тэхніцы нашых сяброў. А калі нейкая праграма атрымлівала грантавае фінансаваньне, то адказны за грант разьбіраўся з фінансамі самастойна, на ўсю арганізацыю гэта ніяк не распаўсюджвалася.

Амаль штомесяц выходзіць інфармацыйна-мэтадычны бюлетэнь "Беларуская Перспектыва", які мы выдаем для сябраў нашай арганізацыі. На тое, каб гэта ўсё зрабіць - і надрукаваць, і разаслаць, - усё адно патрэбныя нейкія грошы. Але мы гэта робім самі. У скрайнім выпадку разавыя ахвяраваньні (у нас у статуце няма паняцьця "складкі") на выдаткі прыходзяць ад нейкага нашага чытача з замежжа.

Але бяз грошай гэта робіцца ў мінімальным аб'ёме. Калі б існавала нейкая падтрымка гэтых праектаў, натуральна, мы б тады змаглі як грамадзкая арганізацыя рабіць больш.

3. Мы ў сваёй арганізацыі заўсёды выступаем за адкрытасьць і празрыстасьць усіх нашых фінансавых выдаткаў. Калі адкрытасьці няма, у межах арганізацыі пачынаюцца нейкія падазрэньні, прэтэнзіі. Кожны раз, калі ў нас нехта спрабаваў засакрэціць фінансавую інфармацыю, скончалася тым, што пасьля нейкіх разборак нехта мусіў сыходзіць.

Тут маем адзін далікатны момант. Калі нехта атрымлівае грант, то, маё глыбокае перакананьне, ён справаздачны толькі грантадаўцу. Ніхто іншы ня можа ўмешвацца ў гэтыя ўзаемадачыненьні, сябры арганізацыі ў тым ліку, маўляў, вось ты грант атрымаў, ты мусіш патраціць грошы інакш. Хто дае грошы, той кантралюе. Калі пачынаюць шчыраваць не выканаўцы гэтага гранту, людзі збоку, пачынаюцца сваркі, і заканчваецца гэта кепска.

**Іна Кулей, старшыня Рады ГА "Берасьцейскі абласны цэнтар падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў "Вежа"**

1. Нашая арганізацыя мае сваю расплянаваную місію, якая прадугледжвае доўгатэрміновы працэс. Таму мы падыходзім да гэтага навукова, складаем плян дзеяньняў, пішам інстытуцыйны бюджэт і актыўна займаемся фандрайзынгам, таму што плянаваць сваю доўгатэрміновую дзейнасьць бяз грошай немагчыма.

2. Гэта могуць быць разавыя акцыі, яны могуць паўтарацца ў часе, але насіць часовы характар. Напрыклад, нядаўна мы праводзілі акцыю "Берасьцейцы берасьцейцам", мэтай якое была падтрымка перасяленцаў, якія прыехалі ў Берасьце і яшчэ ня маюць такіх жа правоў, як сталыя месьцічкоўцы. Мы зьбіралі адзеньне, цацкі, кніжкі, прадукты харчаваньня і гэтак далей.
Зараз мы каардынуем і бярэм удзел у акцыі "Вясновы тыдзень дабрыні". Усё гэта робіцца сіламі нашых людзей і сябрамі іншых арганізацый.

3. Часткова. Умовы краіны вымагаюць ня быць да такой ступені адкрытымі, бо ўвага да дзеяньняў грамадзкіх арганізацыяў трошкі трансфармаваная ў бок уціску. Унутры, для сябраў - так, асабліва для тых, хто выконвае дасканалую справу, а ня проста зьяўляецца валянтэрам ці бярэ ўдзел, а для шырокага кола грамадзкасьці - часткова.



**Алена Анісім, старшыня Менскай гарадзкой арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы"**

1. Грошы самі па сабе ня надта ўплываюць на актыўнасьць. Я ня зьвязваю наяўнасьць грошай з актыўнасьцю сяброў. Іншая рэч, што грошы дапамагаюць ажыцьцяўляць нейкія праекты і такім чынам выконваць розныя задачы.

2. Нашая арганізацыя жыве за кошт ахвяраваньняў і складак сваіх сяброў, таму мы ўтрымліваем сядзібу, таму ў нас няма бюджэтных сродкаў - толькі ўласныя.

3. Лепш за ўсё, калі бюджэт арганізацыі празрысты і для сяброў арганізацыі, і для грамадзтва. Калі гэта магчыма. Лепей, калі людзі давяраюць свайму кіраўніку, калі людзі выконваюць тыя праекты, за якія яны адказваюць.

**Ігар Тышкевіч, старшыня Рады ГА "Агенцыя рэгіянальнага разьвіцьця "Варута"**

1. Натуральна, у кожнай арганізацыі ёсьць праекты, якія вымагаюць фінансавых выдаткаў, у выпадку адсутнасьці фінансаваньня іх рэалізацыя прыпыняецца, а не ажыццяўляецца. Але я б не сказаў, што адсутнасьць грошай цалкам тармозіць працу "Варуты". Штогод мы мінімум па тры-чатыры месяцы працуем фактычна на энтузіязме, бо зь пяці асноўных праграмаў арганізацыі, якія былі прынятыя на агульным сходзе, на тры сёньня фінансы не выдаткоўваюцца. Таму праца ідзе.

2. Зараз аднавіўся выпуск часопіса "Рэгіён". Сродкі на яго не запытваліся, і ён выдаецца за кошт сяброўскай дапамогі іншых арганізацый. У фізічным выглядзе грошы на яго выданьне не былі выдаткаваны. Другое - распрацоўка сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця Баранавіцкага рэгіёну. Эканаміст, які заангажаваны ў гэтую праграму, працуе зараз на грамадзкіх пачатках. Наступнае: сумесна зь мясцовай газэтай мы ладзім найпрасцейшыя тэлефонныя лініі з кіраўнікамі розных палітычных партыяў.

3. У нашай арганізацыі бюджэт для сяброў адназначна празрысты. Калі бюджэт закрыты, то варыянты два: кіраўніцтва арганізацыі штосьці робіць з гэтым бюджэтам, што рабіць ня варта, ці ў арганізацыю прыйшло шмат сяброў, якім нельга паказваць бюджэт. Але ў такім выпадку кепска спрацавала кіраўніцтва арганізацыі - ня трэба прымаць такіх людзей, якім не давяраеш. Што тычыцца грамадзтва, на сёньня ў Беларусі гэта зрабіць нерэальна, бо ня ўсе сродкі, ня ўсю тэхнічную дапамогу можна паказваць з пункту гледжаньня бясьпекі бізнэсу, калі гэта беларускі фундатар.

**Аляксей Колчын, старшыня Рады Магілёўскага абласнога аддзяленьня ГА "Праваабарончы цэнтар "Вясна"**

1. Хутчэй адмоўна, чым фатальна. Уплывае не на актыўнасьць, а на эфэктыўнасьць: справы робяцца павольна, большымі высілкамі. Рэсурсы фінансавыя замяняюцца нейкімі іншымі.

2. Нашая арганізацыя займаецца ў тым ліку інфармацыйнай дзейнасьцю: рассылаем паведамленьні, абнаўляем свой інтэрнэт-сайт. Гэта, праўда, мае свае адмоўныя вынікі: сайт зроблены саматугам, нерэгулярна абнаўляецца, адпаведна мала наведвальнікаў і г.д.

3. Бюджэт можа быць празрыстым, але, зважаючы на пэўныя нюансы нашага заканадаўства, ён можа быць празрыстым толькі ў выпадку, калі ён афіцыйны, то бок грошы прыходзяць праз рахунак. Для сяброў ён мусіць быць празрыстым.

**Вітаўт Руднік, старшыня праўленьня ГА "Цэнтар інфармацыйнай падтрымкі грамадзкіх ініцыятываў "Трэці сэктар"**

1. На актыўнасьць нашай арганізацыі адсутнасьць грошай, можна сказаць, асабліва не ўплывае, бо мы перажылі ўжо той этап, калі б такое магло быць. Як правіла, уплывае, калі арганізацыя была заснаваная, пражыла "мядовы месяц", і народ жадае стымулаў, у тым ліку грашовых. Мы, дзякуй Богу, з 1997 году існуем, перажывалі розныя часы, і адсутнасьць грошай не ўплывае на актыўнасьць арганізацыі, таму што касьцяк ёсьць, працуе не дзеля грошай, ставіцца да іх па-філязофску.

2. Прыклад дзейнасьці безь бюджэту я, напэўна, не прывяду. Але калі вы маеце на ўвазе заробкі, дык цягам апошняга году мы фактычна працуем без заробкаў. Так сталася, што з розных крыніцаў прафінансаваная праграмная дзейнасьць, а адміністратыўная... У лепшым выпадку ўдаецца наскрэбці толькі на арэнду офіса. Сказаць, што мы можам існаваць цалкам бяз грошай, немагчыма, бо мы маем офіс і мусім выдаваць той самы часопіс, іншыя прадукты арганізацыі. Вядома ж, калі б грошай не было, то дзейнасьць, не скажу, што была б паралізаваная, але на пэўны час нам давялося б рэарганізаваць тое, што мы маем.

3. Ён можа быць і ёсьць празрыстым. Апошнія два гады мы працавалі праз рахунак, і банк не дазваляе нам нават пры жаданьні зрабіць крок убок. Тое самае тычыцца і сябраў арганізацыі, у якіх на вачох адбываецца дзейнасьць, запаўняюцца справаздачныя дакумэнты і інш.

Разам з тым я абсалютна дапускаю сытуацыю, што хтосьці зь сябраў арганізацыі і тым больш з прадстаўнікоў грамадзкасьці можа і ня ведаць некаторых дэталяў фінансавай палітыкі асобных арганізацыяў. Тут толькі пытаньне бясьпекі.

**Ірына Кашталян, прэзыдэнт МГА "Гісторыка" (Менск)**



1. З грашыма было б значна лепей, але прынамсі тое, што мы працуем, ужо сьведчыць на карысьць таго, што бяз грошай можна нешта зрабіць. Больш чым два гады мы працуем бяз грошай. Некаторыя ахвяраваньні прыходзілі, гэта былі невялікія сумы - мы не атрымлівалі нейкіх грантаў.

2. Напрыклад, усе мерапрыемствы з нагоды сьвяткаваньня Міжнароднага дня помнікаў і мясьцінаў, - а яны адбываліся ў васьмі гарадох Беларусі, у тым ліку ў Менску, дзе мы прыбіралі Лошыцу, Кальварыю, Шчорсаў, - мы рабілі з дапамогай выключна валянтэраў.

3. Для сябраў арганізацыі - так. Але рабіць празрыстымі для грамадзтва нейкія фінансавыя дзеяньні ў цяперашніх умовах досыць праблемна. Гэта першае, што можа паспрыяць закрыцьцю, унутраным спрэчкам. Я лічу, што гэта павінна быць унутранай справай арганізацыі.

## MONEY QUESTION: як зь фінансамі ў іх?

***Нашае "грашовае" пытаньне мы адрасавалі некальнім замежным партнэрам Асамблеі. Атрыманыя адказы ілюструюць прынцыпы фінансаваньня няўрадавых арганізацыяў з розных рэгіёнаў сьвету (Заходняй і Цэнтральнай Эўропы, а таксама Амэрыкі), зь якімі, спадзяемся, будзе цікава і карысна пазнаёміцца нашым чытачам.***

### ШВЭЦЫЯ

*Forum Syd*, швэдзкая грамадзкая арганізацыя, зьяўляецца каардынацыйным органам для НА краіны. У склад *Forum Syd* уваходзіць 150 арганізацыяў-сябраў. Адна з функцыяў *Forum Syd* - гэта адміністраваньне фондаў, атрыманых ад *Sida* (Швэдзкая агенцыя па разьвіцьці міжнароднага супрацоўніцтва). *Forum Syd* таксама праводзіць праграмы падтрымкі ў краінах, якія разьвіваюцца; рэалізуе праекты ў краінах Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы; мае спэцыяльную праграму для Беларусі.

*Forum Syd* не зьбірае грошы ад швэдзкіх і замежных прыватных фундацыяў мэтанакіравана, бо такім чынам арганізацыя стварае канкурэнцыю сваім сябрам. На 98% Forum Syd фінансуецца Sida (апошняя фінансуе і заробкі супрацоўнікам Forum), якая зьяўляецца дзяржаўнай установай. Аднак за некаторыя праграмы і віды дзейнасьці, напрыклад, сэмінары, *Forum Syd* павінен плаціць 20% іх кошту.

Толькі невялікую частку бюджэту арганізацыі складаюць сяброўскія складкі: ад 50 да 500 даляраў на год з арганізацыі, у залежнасьці ад таго, колькі сябраў яна мае ў сваім складзе. Невялікі прыбытак складаюць адміністрацыйныя паслугі (аплата за сэмінары і навучальныя курсы, найманьне супрацоўнікаў і інш.), якія Forum Syd аказвае іншым арганізацыям.

Асноўныя артыкулы выдаткаў *Forum* складаюць адміністраваньне заявак ад іншых НА.

Гадавы бюджэт *Forum Syd* роўны прыкладна 18.000 далярам, уключна з 11.000 даляраў, якія ідуць іншым швэцкім арганізацыям на зьдзяйсьненьне іх праектаў. Пры гэтым штогадовая справаздача арганізацыі публічная.

### ЧЭХІЯ

Грамадзкая дабрачынаая арганізацыя *People in need* фінансуецца мясцовымі і замежнымі прыватнымі фундацыямі *Nadace, VIA, OSI, Mott*, а таксама Міністэрствам замежных справаў Чэскай Рэспублікі.

*People in need* працуе ў рамах эўрапейскіх праграмаў *PHARE, EIDHR*, міжнародных праграмаў *UNHCR, WFP, UNMIK, UNICEF*, а таксама на ахвяраваньні *NED, Canada Fund, Westminster Foundation*.

У арганізацыі адсутнічае інстытут сяброўскіх складак.

Асноўныя артыкулы выдаткаў *People in need* складаюць гуманітарная дапамога (матэрыяльная, паслугі, харчаваньне), падарожныя выдаткі і выдаткі на транспарт, выплата заробкаў, арэндная плата.

Заробкі каардынатараў праектаў *People in need* уключаюцца ў праектныя заяўкі на грант. Кожны праект таксама абавязкова ўтрымлівае пэўныя фонды, якія выкарыстоўваюцца на агульны мэнэджмэнт арганізацыі. Заробкі мэнэджэраў і іншых супрацоўнікаў (бухгальтар, дырэктар, PR-шчыкі) пакрываюцца з г.зв. "вольных" фондаў (грошы, якія могуць выкарыстоўвацца на любыя патрэбы) ці з прыбытку, атрыманага ад дзейнасьці арганізацыі. Маюцца таксама некалькі грантаў на агульны мэнэджмэнт арганізацыі, але колькасьць такіх грантаў вельмі абмежаваная.

Штогадовыя справаздачы *People in need* публічныя, бо зьяўляюцца абавязковымі для арганізацыяў такога тыпу ў Чэхіі. Яны таксама ўтрымліваюць незалежны аўдыт.

### ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЭРЫКІ

Збор сродкаў амэрыканскія арганізацыі зьдзяйсьняюць:

*Праз прыватных асобаў*: рэгулярна зарганізоўваюцца банкеты, на якія ў якасьці ганаровых гасьцей запрашаюцца вядомыя багатыя жыхары гораду ці штату, і сярод іх ладзіцца збор ахвяраваньняў для арганізацыяў.

*Праз ананімныя ахвяраваньні*: для распаўсюду буклетаў з інфармацыяй пра арганізацыю з указаньнем банкаўскіх рахункаў для пераліку грашовых сродкаў на дзейнасьць арганізацыі выкарыстоўваюцца масавыя скапленьні людзей, у першую чаргу - кропкі гандлю і грамадзкага харчаваньня.

Апроч таго, збор сродкаў на дзейнасьць арганізацыяў ажыцьцяўляецца праз карпаратыўныя ахвяраваньні, празь сяброўскія ўнёскі і інш.





# ХТО, КАЛІ, КОЛЬКІ

## *шэраг практычных парадаў грантаатрымальнікам*

*Выканаўчае бюро Асамблеі*

***Адной з асноўных праблемаў, зь якой сутыкаюцца беларускія грамадзкія арганізацыі ў сваёй дзейнасьці – гэта недахоп сродкаў: рэсурсы для НДА ў самой Беларусі не "гумовыя". Таму для атрыманьня поўнай інфармацыі пра спонсараў, якія працуюць у Беларусі, часьцей за ўсё зьвяртаюцца да даведнікаў пра фундацыі кшталту United Way. Перавага падобных даведнікаў у тым, што яны даюць найбольш поўную інфармацыю і максымальную колькасьць дэталяў для падаўцоў грантаў. Але ў той жа час у падобнага кшталту даведкавай літаратуры не вядзецца пра фундатараў, якія найбольш актыўна працуюць у нашай краіне. У выніку чытач, асабліва непадрыхтаваны, папросту ня ведае, што і як рабіць з гэтай інфармацыяй.***

Паспрабуем аблегчыць задачу: у гэтым артыкуле вы знойдзеце больш-менш поўную інфармацыю пра фундатараў для пэрспэктыўных грантаатрымальнікаў. Па вядомых прычынах некаторыя лічбы ці тэрміны могуць быць недакладнымі, таму раім абавязкова зьвяртацца да першакрыніцаў.

Асноўнымі практычнымі парамэтрамі для выбару спонсара ёсьць:

1. Накірунак працы вашай арганізацыі;
2. Памер бюджэту праекту;
3. Юрыдычны статус арганізацыі;
4. Досьвед арганізацыі.

Што тычыцца першага, то дзеля разуменьня, на падтрымцы якіх накірункаў працы спэцыялізуецца фундатар, лепей зьвяртацца да першакрыніцы. Па астатніх парамэтрах паспрабуем адзначыць найбольш важныя моманты.

Калі вашая арганізацыя толькі пачынае працу са спонсарамі, то варта паспрабаваць паўдзельнічаць у конкурсах малых грантаў, што праводзяцца беларускімі арганізацыямі. Звычайна сярэднія памеры грантаў у такіх конкурсах не сягаюць больш за USD 1.500, але ільвіная доля падтрыманых праектаў не перавышае ў бюджэце рамаў USD 500. Апошнія гады падобнага кшталту конкурсы ладзілі абласныя рэсурсавыя цэнтры (для рэгіянальных арганізацыяў) і Моладзевы інфармацыйны цэнтар (гл. рубрыку "Інфарматар"). Абласныя конкурсы рэсурсавых цэнтраў праводзяцца некалькі разоў на год, таму адказ на сваю заяўку вы можаце атрымаць у залежнасьці ад датэрміну падачы заяўкі цягам 1,5-6 месяцаў. Некаторыя рэсурсавыя цэнтры спрабуюць перайсьці на пастаянны разгляд праектаў - аўтаматычна тэрміны разгляду мінімізуюцца.

Такія конкурсы разьлічаныя на шырокае кола арганізацыяў. Акрамя падтрымкі дзейнасьці, гэтыя конкурсы маюць дадатковую адукацыйную функцыю: яны дазваляюць навучыць арганізацыі-пачаткоўцаў з рэгіёнаў ажыцьцяўляць мэнэджмэнт, рабіць справаздачы за гэтыя праекты. Конкурс МІЦу разьлічаны на моладзевыя арганізацыі, перш за ўсё на тыя, якія працуюць на тэрыторыі канкрэтнага гораду, раёну, вёскі, а не нацыянальныя арганізацыі. Структура конкурсаў МІЦу падобная да рэсурсавых цэнтраў. Памеры грантаў звычайна эквівалентныя USD 1.500.

Конкурс таварыства EEDC-IDEE (Варшава) таксама разьлічаны на фінансаваньне невялікіх па фінансах праектаў, але на гэты конкурс можна дасылаць заяўкі ня толькі рэгіянальным, але й нацыянальным арганізацыям. Памеры фінансаваньня - да USD 1.500, але тут больш шая, у адрозьненьне ад рэсурсавых цэнтраў, магчымасьць атрымаць грант памерам USD 1.000-1.500.

Наступны крок - гэта конкурсы канадзкай і галяндзкай амбасадаў у Польшчы. Звычайна ў гэтых праграмах арганізацыя можа быць падтрыманая толькі адзін раз.

Канадзкая амбасада падтрымлівае праекты зь бюджэтам да USD 5.000. Дакладнага тэрміну падачы і разгляду заяўкі няма, але працягласьць разгляду залежыць ад якасьці пададзенага праекту. Практыка паказвае, што гэта 1-2 месяцы. Для падтрымкі важна, каб праект меў вельмі канкрэтны і вымяральны вынік, таму больш падыходзяць лякальныя праекты, але абстрактныя фармулёўкі кшталту "актывізацыя грамадзкасьці вобласьці (раёну, гораду)" альбо "прапаганда правоў чалавека" ў дадзеным выпадку непрымальныя.

Галяндзкая амбасада падтрымлівае звычайна толькі 60-70% бюджэту праекту. На астатнія 30-40% патрабуецца альбо ўласны ўнёсак арганізацыі, альбо падтрымка іншага спонсара. Адміністратыўныя выдаткі - перш за ўсё заробкі выканаўцаў - звычайна не падтрымліваюцца. Тэрмін разгляду заяўкі - мінімум тры месяцы. Памеры - да USD 7.000.

Калі вашая арганізацыя ўжо мела досьвед працы па конкурсах малых грантаў альбо па конкурсах амбасадаў Канады і Нідэрляндаў і вы лічыце, што маеце рэсурсы (перш за ўсё інтэлектуальныя і чалавечыя) для ▸▸

ажыцьцяўленьня праектаў з большым памерам бюджэту, то вы можаце падаць заяўкі ў фонды *Open Society Institute, Freedom House* ці ў Камісію па дэмакратыі пры Амбасадзе Злучаных Штатаў.

*Open Society Institute* працуе зь беларускімі арганізацыямі праз Сафію (Баўгарыя) і на дадзены момант знаходзіцца на этапе перагляду сваёй стратэгіі працы ў нашай краіне. Пакуль цяжка сказаць, якой яна будзе надалей. Па досьведзе мінулых гадоў адзначым, што памеры бюджэтаў праектаў нейкімі мінімальнымі і максымальнымі рамкамі не абмяжоўваліся. Вядома, калі вы падаеце праект першы раз, то ня варта перавышаць бюджэт у USD 5.000-6.000. Для некаторых катэгорый арганізацыяў, што патрапляюць у прыярытэты працы OSI і па нейкіх прычынах ня маюць падтрымкі зь іншых крыніцаў, супрацоўніцтва з дадзеным фундатарам можа быць сталым пры ўмове выкананьня ўсіх дамоваў. Але гэта хутчэй выключэньне з правілаў. Тэрмін разгляду заявак, пададзеных у *OSI*, звычайна ня меншы за тры месяцы. Пры шчыльным і сталым супрацоўніцтве з фундацыяй, пры якасным выкананьні працы памеры асобных грантаў могуць сягаць USD 40.000 - 50.000.

*OSI* патрабуе высокі ровень напісаньня праектаў, таму будзьце гатовыя да працяглай перапіскі са спонсарам.

*Freedom House* працуе зь беларускімі арганізацыямі з Будапэшту (Венгрыя). Памеры грантаў звычайна сягаюць да USD 10.000. Прыярытэт пры падтрымцы аддаецца арганізацыям, якія працуюць на разьвіцьцё дэмакратыі і правоў чалавека ў рэгіёне. Варта адзначыць, што ў выніку перагляду канцэпцыі працы з нашай краінай Freedom House спыніў "беларускую праграму", таму беларускія арганізацыі могуць выступаюць у якасьці партнэраў у міжнародных праектах.

Камісія па дэмакратыі Амбасады Злучаных Штатаў мае абмежаваньні ў бюджэтах праектаў да USD 24.000. Тэрмін разгляду прыкладна тры месяцы, але практыка паказвае, што ён можа даходзіць і да 6 месяцаў. Нельга сказаць, што перавагу пры разглядзе маюць "вялікія" ці "малыя" праекты, але варта памятаць, што чым большы праект, тым большая ступень яго абгрунтаванасьці мусіць быць.

Пры наяўнасьці замежных партнэраў для вашай арганізацыі адкрываюцца новыя магчымасьці. Фонд Стэфана Баторыя і праграма "Regions in Transition" Фонду Свабоды могуць вам дапамагчы ў выпадку наяўнасьці польскага партнэра, досьвед якога карысны беларусам. Праекты ў гэтыя фонды падаюцца польскім бокам, а беларуская арганізацыя мае статус "партнэру". Звычайна фондамі праводзяцца 1-2 разгляды на год. Тэрміны разгляду глядзіце ў абвестках.

Калі вы працавалі па праграме Нідэрляндзкай амбасады, апошняя можа дапамагчы знайсьці вам галяндзкага партнэра. У выніку ваш сумесны праект варта адпраўляць на адрас праграмы Міністэрства замежных справаў Нідэрляндаў *МАТРА*. Памеры бюджэту - у межах USD 20.000 - 30.000.

Зусім можа быць, што вашая арганізацыя, якая пасьпяхова зрэалізавала не адзін праект і мае багаты досьвед, якая працуе ў "трэцім сэктары" не адзін год, цалкам "дарасла" да маштабных праектаў. Тады акром згаданага *OSI*, "вашым" фундатарам могуць стаць *Westminster Foundation for Democracy* (Вялікабрытанія) ці *National Endowment for Democracy* (ЗША). Дадзеныя фонды аддаюць перавагу праектам, арыентаваным на разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці і ўмацаваньне правоў чалавека. *Westminster Foundation* збольшага працуе з арганізацыямі, што падтрымліваюць сувязі з адной ці некалькімі канкрэтнымі палітычнымі партыямі, хаця партыйнасьць ня ёсьць першым крытэрам. Памеры падтрымкі - у сярэднім USD 10.000 - 30.000 - канкрэтных абмежаваньняў няма. Адміністрацыйныя выдаткі могуць быць уключаныя.

*NED* мае дакладна вызначаныя тэрміны разгляду заявак - 4 разы на год. Працэдура працы па праекце і яго фінансавы мэнэджмэнт патрабуюць высокай кваліфікацыі і досьведу. Як правіла *NED* падтрымлівае праекты, што маюць сыстэмны характар, напрыклад, разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці і яе элемэнтаў у асобным горадзе, раёне і вобласьці. Калі ў рэгіёне працуе некалькі амаль роўна моцных НДА, звычайна патрабуецца, каб усе яны былі ўключаныя ў працу па праекце. Дапускаецца наяўнасьць суб-грант-атрымальнікаў у праекце. Адміністрацыйныя выдаткі могуць быць уключаныя ў праект.

Для зарэгістраваных арганізацыяў даступнымі зьяўляюцца конкурсы грантаў Эўрапейскага Зьвязу. Памеры фінансавай падтрымкі вар'іруюцца.

Толькі адзінкавыя арганізацыі могуць працаваць з Фондам Мота, які падтрымлівае зарэгістраваныя арганізацыі з гадавым бюджэтам ня меншым за USD 50.000. Працэдура разгляду праекту можа займаць да 1-2 гадоў.

У якасьці заканчэньня хацелася б нагадаць, што міжнародны мовай зносінаў зьяўляецца ангельская, а таму ўсе з прыведзеных фундатараў прымаюць толькі англамоўныя заяўкі.

Больш падрабязную інфармацыю па працы са спонсарамі глядзіце на сайце Асамблеі:

***www.ngo.unibel.by***





# СТРАТЭГІЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*Раіса Сінельнікава,*
*мэнэджэр праграмы САР*

**Гістарычна склалася так, што некамэрцыйныя арганізацыі (НКА) зьяўляюцца дабрачыннымі і арыентаваныя на донарскія рэсурсы. Аднак часта гэта ставіць НКА ў вызначаную залежнасьць ад донараў і пазбаўляе іх мабільнасьці і свабоды выбару. У сувязі з гэтым востра паўстае пытаньне пра неабходнасьць распрацоўкі такой стратэгіі, якая дазволіла б НКА быць больш незалежнымі ў фінансавых адносінах. Сусьветны досьвед паказвае, што такой стратэгіяй можа стаць сацыяльнае прадпрымальніцтва, г.зн. занятак НКА прадпрымальніцкай дзейнасьцю ў рамках сваёй місіі.**

Ідэя сацыяльнага прадпрымальніцтва цалкам адпавядае нашаму часу. У ёй выдатна спалучаюцца сацыяльная місія і дзелавая ініцыятыва, наватарства і дысцыпліна. Без сумневу, прыйшоў час прадпрымальніцкага падыходу да праблемаў, бо часта арганізацыі "трэцяга сэктару" ўспрымаюцца як неэфэктыўныя, недзелавыя і нягнуткія. Сацыяльныя прадпрымальнікі мусяць прапанаваць новыя мадэлі для новага стагодзьдзя.

Відавочна, што камэрцыйная арганізацыя бачыць сваю мэту ў атрыманьні прыбытку, то бок у зарабленьні грошай, тым часам як для некамэрцыйнай арганізацыі галоўнай ёсьць сацыяльная мэта, для дасягненьня якое трэба зарабляць грошы. Большасьць НКА арыентаваныя на незабясьпечаныя слаі насельніцтва, якія не могуць заплаціць за паслугі. Таму толькі невялікая частка паслугаў, якія прадастаўляюць НКА, можа прадавацца насельніцтву. Гэта могуць быць вельмі простыя паслугі, якія не патрабуюць вялікіх выдаткаў і могуць вырабляцца вялікім аб'ёмам. Такія паслугі могуць прадавацца звычайным кліентам, іншым НКА, камэрцыйным арганізацыям, дзяржаўным органам.

Калі арганізацыя становіцца на шлях камэрцыялізацыі, яна мусіць па-новаму зірнуць на сваю штодзённую дзейнасьць. Ёй трэба ацаніць, колькі насамрэч каштуе канкрэтная паслуга, ці здольная гэтая паслуга патэнцыйна стаць самаакупляльнай, наколькі яна працаёмкая і якіх рэсурсаў патрабуе. НКА мусяць прааналізаваць і знайсьці шляхі лепшага выкарыстаньня людзкіх і фінансавых рэсурсаў, абсталяваньня, памяшканьняў і іншых актываў. Акром таго, трэба будзе разьвіваць сыстэму фінансавага мэнэджмэнту і мець штат, які здольны ацэньваць дзейнасьць з пункту погляду прыбыткаў / выдаткаў і прэзэнтаваць інфармацыю, на аснове якой можна будзе прыняць рашэньні кіраўніку.

Але пры ўсім гэтым НКА мусяць па-ранейшаму выконваць сваю сацыяльную задачу. Большая фінансавая незалежнасьць ня ёсьць самамэтай і не абазначае, што незабясьпечанае насельніцтва абслугоўваецца блага ці менш, чым астатняе. Яна дазваляе забясьпечыць выкананьне місіі арганізацыі і абслугоўваньне незабясьпечаных кліентаў у большым маштабе.

# "САЦЫЯЛЬНАЯ" ЦЫРУЛЬНЯ

*Дзьмітры Станюта*

**Не адну сотню кліентаў абслужыла новая цырульня ў Клецку. Гэтае сацыяльнае прадпрыемства было створана па ініцыятыве Клецкай раённай аргінзацыі "Беларуская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам" (БАДДІМІ) з мэтай уладкаваньня на працу інвалідаў і аказаньня ільготных паслугаў цырульні асобным катэгорыям насельніцтва.**

Да сьнежня 2001 году на ўвесь Клецак была ўсяго толькі адна цырульня. Таму арганізатары прадпрыемства не сумняваліся ў тым, што яго паслугі будуць запатрабаваныя насельніцтвам. Упершыню ў горадзе цырульня прапануе поўны сэрвіс, які ўключае афарбоўку валасоў, меліраваньне, вячэрнія прычоскі, мадэльныя стрыжкі.

Пасьля аналізу ўсіх арганізацыйна-прававых нормаў, якім адпавядала б новае прадпрыемства, было вырашана стварыць яго як структурнае падразьдзяленьне тэрытарыяльнага Цэнтру сацыяльнага абслугоўваньня сям'і і дзяцей Клецкага раёну. Клецкая арганізацыя БАДДІМІ заключыла з Цэнтрам дамову па супрацы на пэрыяд першага году працы прадпрыемства. Арганізацыя атрымала фінансаваньне на закуп абсталяваньня ў памеры 900 даляраў ад ЮНІСЭФ, а таксама 300 тыс. рублёў на рамонт памяшканьня з Фонду прэзыдэнцкіх праграмаў. Былі выдзеленыя сродкі зь мясцовага бюджэту.

На момант адкрыцьця цырульні ў раёне было 130 маладых інвалідаў, 74 зь якіх нідзе не працавалі. Напачатку цырульня дала працу чатыром інвалідам. Мэдычныя паказаньні дазволілі навучацца працы цырульніка двум інвалідам 2-й групы з дыягназам "алігафрэнія". Гэтыя дзяўчыны прынятыя сюды ў якасьці тэхнічных работнікаў. Валянціна Русенчык, старшыня мясцовай арганізацыі БАДДІМІ, зьяўляецца загадчыцай цырульні і навучае майстэрству цырульніка.

Вялікая колькасьць кліентаў забясьпечаная ня толькі за кошт значнага попыту на паслугі цырульні, але й з-за 30-адсоткавых зьніжак інвалідам, малазабясьпечаным, шматдзетным сямейнікам і ўдзельнікам вайны. А гэта блізу 4 000 чалавек, то бок кожны дзясяты жыхар раёну. Прыбытак прадпрыемства дазволіць набываць расходныя матэрыялы і новае абсталяваньне, выплочваць заробкі майстрам і працаўнікам-інвалідам. 40-50% выручкі пойдзе на заробак пэрсаналу. Пра прыбытак пакуль казаць рана.

Бізнэс-плян прадугледжваў таксама адкрыцьцё ў цырульні манікюрнага салёну, але пакуль адсутнічае фінансавая магчымасьць. Разьлічвалі, што Фонд садзейнічаньня разьвіцьцю занятасьці насельніцтва кампэнсуе прадпрыемству сродкі, якія яно патраціла на набыцьцё і мантаж абсталяваньня. Але для атрыманьня кампэнсацыі неабходна атэставаць новыя працоўныя месцы на іхную адпаведнасьць нормам. Парадокс у тым, што атэстацыя патрабуе новых фінансавых выдаткаў, якія ў лепшым выпадку будуць вымяральныя з той сумай, якую будуць кампэнсаваць.

Замест чаканых паступленьняў даводзіцца прадбачыць новыя выдаткі. Паколькі абсталяваньне цырульні знаходзіцца ва ўласнасьці грамадзкай арганізацыі, яно выкарыстоўваецца прадпрыемствам на правах арэнды. Ці будзе грамадзкае аб'яднаньне плаціць падатак з прыбытку, які яно атрымае ад здачы ў арэнду абсталяваньня? Пытаньне застаецца адкрытым.

"Сацыяльная цырульня" - гэта не адзіны праект, з дапамогай якога Тэрытарыяльны цэнтар сацыяльнага абслугоўваньня сям'і і дзяцей спадзяецца прыцягнуць да працоўнай дзейнасьці маладых людзей "групы рызыкі". Дырэктар цэнтру Ала Мілюк распавядае пра праекты працоўнай рэабілітацыі, якія пакуль ніхто не падтрымаў. "Цяжкія" падлеткі маглі б вырошчваць кветкі ў цяпліцы-аранжарэі і пасьля прадаваць іх. Ясна, што будаваць цяпліцу вельмі дорага, але ёсьць і больш "танны" варыянт. Напрыклад, індывідуальны прадпрымальнік мог бы задарма прадаставіць маладым інвалідам месца ў краме для працы ў якасьці афармляльнікаў падарункаў.

*Кантакты: Ала Мікалаеўна Мілюк, дырэктар Тэрытарыяльнага цэнтру сацыяльнага абслугоўваньня сям'і і дзяцей Клецкага раёну: вул. Школьная, 18, 222640, Клецак, Менская вобл., тэл. 55-9-12.*

*Валянціна Уладзімераўна Русенчык, старшыня Клецкай раённай арганізацыі БАДДІМІ: вул. Партызанская, 6, 222640, г. Клецак, Менская вобл., тэл. 32-5-99.*

**Бюлетэнь "Новы рэсурс", http://cap.iatp.by/**

# ВАЛЯНТЭР ГРАМАДЗТВУ СЯБАР

## А ТЫМ БОЛЬШ ГРАМАДЗКІМ АРГАНІЗАЦЫЯМ

Ірына Віданава

***Валянтэрства і валянтэры апошнім часам сталі даволі моднымі паняцьцямі. Яны часта гучаць з вуснаў грамадзкіх лідэраў, а таксама і дзяржаўных чыноўнікаў. Адны зьедліва заўважаюць, што з большага ўсе грамадзяне Беларусі зьяўляюцца валянтэрамі, паколькі працуюць практычна бясплатна. Другія перакананыя, што валянтэрства ў нашай беднай краіне, дзе людзі вымушаныя думаць пра тое, як выжыць і мінімальна забясьпечыць свае сем'і, наогул немагчымае. Трэція называюць валянтэрамі супрацоўнікаў і актывістаў сваіх грамадзкіх аб'яднаньняў. А некаторыя ўжо некалькі год працуюць з добраахвотнікамі па праграмах, падобных да тых, што ўжо не адно дзесяцігодзьдзе разьвіваюцца ў сьвеце як валянтэрскі рух. Вось і атрымліваецца, што ў паняцьце "валянтэрства" мы ўкладваем вельмі розныя, часам супярэчлівыя значэньні, а таму часта папросту не разумеем адзін аднога.***

Звычайна выдзяляюць два тыпы валянтэрства - фармальнае, калі людзі ахвяруюць свой час на працу ў пэўнай грамадзкай арганізацыі, і нефармальнае, калі людзі дапамагаюць іншым людзям, напрыклад, даглядаюць суседзкую кватэру па просьбе гаспадароў, як тыя зьяжджаюць, купляюць прадукты знаёмай бабце і да т.п. І тыя, і другія зьяўляюцца добраахвотнікамі, бо іх ніхто не прымушае рабіць гэтыя рэчы. У гэтым і ёсьць сутнасьць валянтэрства - асабісты выбар кожнага чалавека.

Аднак грамадзкія арганізацыі, якія аб'ядноўваюць найбольш актыўную частку грамадзян і ствараюцца часьцей за ўсё дзеля вырашэньня нейкай актуальнай праблемы, могуць заахвочваць іншых грамадзян да больш актыўнай жыцьцёвай пазыцыі праз выкананьне валянтэрскай працы. Зразумела, што, па-першае, ня ўсе людзі захочуць зрабіцца валянтэрамі, а, падругое, іх неабходна зацікавіць. Калі вам некага ўдалося пераканаць выканаць валянтэрскую працу на карысьць супольнасьці, то гэтым чалавекам трэба апекавацца.

Такім чынам, валянтэрства - гэта ня простая дэкларацыя аб намеры зрабіць сьвет лепей. Для арганізацыі, якая прыцягвае да працы валянтэраў, гэта сур'ёзная праграма і вялікая адказнасьць. Таму гэты артыкул - своеасаблівыя ўводзіны ў арганізацыю працы валянтэраў для тых, хто задумаўся аб неабходнасьці такога роду дзейнасьці сваёй арганізацыі ці робіць першыя крокі ў працы з добраахвотнікамі.

### ШТО ГЭТА ТАКОЕ?

Валянтэрства зьяўляецца вельмі важным выражэньнем грамадзкай актыўнасьці і неад'емным кампанэнтам дэмакратыі. Валянтэрства ўяўляе сабой выдаткаваньне часу і энэргіі на карысьць грамадзтва і супольнасьці і можа зьдзяйсьняцца ў розных формах. Валянтэрства - асабісты выбар кожнага чалавека і не прадугледжвае атрыманьня грашовай узнагароды за выкананую працу (акром кішэнных выдаткаў).

Калі вы ўпершыню вырашылі прыцягнуць да працы ў вашай арганізацыі валянтэраў ці распрацоўваеце новыя валянтэрскія праекты, то вам неабходна задумацца над некаторымі, здаецца, простымі, але вельмі істотнымі пытаньнямі:

1. Навошта арганізацыі патрэбныя валянтэры?
2. З кім неабходна пракансультавацца перад тым, як распачаць працу з валянтэрамі?
3. Чаму людзі жадаюць быць валянтэрамі (матывацыя)?
4. Распрацоўка магчымасьцяў.
5. Пошук і адбор валянтэраў.
6. Падтрымка - дапамога, кіраўніцтва і ўхваленьне.

### НАВОШТА АРГАНІЗАЦЫІ ПАТРЭБНЫЯ ВАЛЯНТЭРЫ?

Перад тым, як запрасіць валянтэраў, вельмі важна дакладна ўсьвядоміць, навошта арганізацыі гэта патрэбна. Валянтэрства патрабуе пэўных укладаньняў з боку арганізацыі, паколькі валянтэраў трэба будзе падрыхтаваць, забясьпечыць абсталяваньнем, выплаціць кішэнныя выдаткі, імі трэба будзе кіраваць і апекавацца. Для працы з валянтэрамі неабходна валодаць такімі пэрсанальнымі якасьцямі, як камунікабельнасьць, уменьне слухаць і весьці перамовы, быць добрым арганізатарам і адміністратарам, мець навыкі напісаньня справаздачаў, арганізацыі сустрэчаў і вырашэньня канфліктаў. Таму, калі шляхам прыцягненьня валянтэраў вы хочаце сэканоміць грошы ці зрабіць больш таннымі вашыя паслугі, то, магчыма, вам варта падумаць яшчэ раз!

**Калі шляхам прыцягненьня валянтэраў вы хочаце сэканоміць грошы ці зрабіць больш таннымі вашыя паслугі, то, магчыма, вам варта падумаць яшчэ раз!**

Разуменьне, дзеля чаго вы прыцягваеце валянтэраў, дапаможа вам пры:
- распрацоўцы працы, якую будуць выконваць валянтэры;
- вызначэньні ролі валянтэраў у арганізацыі і таго, што яны дадуць арганізацыі;
- стварэньні лепшага паразуменьня сярод аплочваемага пэрсаналу і вашых кліентаў;
- вызначэньні, дзе і як знайсьці людзей, якія б хацелі стаць валянтэрамі.

Некаторыя прычыны, па якіх арганізацыі прыцягваюць валянтэраў:
- спрыяньне разьвіцьцю супольнасьці;
- стварэньне магчымасьці для актывізацыі супольнасьці;
- прадастаўленьне дадатковых паслугаў, калі для гэтага няма іншых рэсурсаў;
- асабістае стаўленьне да кожнага кліента;
- наладжваньне сувязяў зь іншымі групамі/кліентамі;
- павышэньне эфэктыўнасьці (у тым ліку фінансавай);
- магчымасьць хуткай рэакцыі на зьмену патрэбаў ці на крызысныя сытуацыі;
- адказ на патрэбу ў нейкай спэцыфічнай паслузе;
- вера ў тое, што кожны мае права зрабіць свой унёсак у разьвіцьцё грамадзтва.

### З КІМ НЕАБХОДНА ПРАКАНСУЛЬТАВАЦЦА ПЕРАД ТЫМ, ЯК РАСПАЧАЦЬ ПРАЦУ З ВАЛЯНТЭРАМІ?

Перш за ўсё неабходна пракансультавацца зь людзьмі, якія так ці інакш уцягнутыя ў дзейнасьць арганізацыі. Гэта дапаможа ня толькі пераканацца, што ўсе ў курсе справаў і падтрымліваюць вашыя пляны, але й сфармуляваць ідэі пра тое, якога кшталту працу будуць выконваць валянтэры.

Спачатку паразмаўляйце з супрацоўнікамі вашай арганізацыі, паколькі іх удзел у распрацоўцы валянтэрскіх праграмаў, гэтаксама як і іхная падтрымка, зьяўляюцца неабходнымі ўмовамі посьпеху. Высьветліце, як ставяцца супрацоўнікі да ідэі прыцягнуць валянтэраў, наколькі валянтэрства, на іх погляд, будзе карысным самой арганізацыі. Для сяброўскай размовы з вашымі супрацоўнікамі запрасіце сябра арганізацыі, якая мела досьвед пасьпяховай працы з валянтэрамі. Даведайцеся, хто з вашых супрацоўнікаў калі-небудзь быў валянтэрам і што яму гэта дало. Важна паказаць, што арганізацыя сапраўды высока ацэньвае валянтэрства.

Другім крокам можа стаць высьвятленьне таго, якую карысьць атрымае арганізацыя ад прыцягненьня валянтэраў, і вызначэньне працы, якую яны будуць выконваць. Для гэтага задайце супрацоўнікам наступныя пытаньні:
- Якая частка вашай працы вам сапраўды падабаецца?
- Якая не падабаецца?
- Што б вы яшчэ хацелі рабіць ці якія праекты рэалізоўваць, але вам не хапае на гэта часу?
- Што б яшчэ вы хацелі бачыць зробленым, але ніхто зараз ня мае неабходных навыкаў?

Такая падрыхтоўка супрацоўнікаў дае своеасаблівую гарантыю, што праца валянтэраў будзе інтэграваная ў працу ўсёй арганізацыі, што ўсе супрацоўнікі будуць паважаць і падтрымліваць дзейнасьць валянтэраў.

Калі вашая арганізацыя працуе з пэўнай групай кліентаў ці прадастаўляе пэўныя паслугі, то важна ведаць погляды гэтых людзей адносна валянтэраў. Спытайце ў вашых кліентаў, якія вашыя паслугі могуць быць палепшаныя. Гэта дапаможа выпрацаваць больш адэкватныя і цікавыя ідэі для валянтэрскіх праграмаў. З той жа мэтай паразмаўляйце з насельніцтвам вашай мясцовасьці.

І, нарэшце, пракансультуйцеся з фундатарамі, каб не рызыкаваць як ужо заключанымі, так і будучымі грантавымі дамовамі. Гэта таксама дапаможа вам згенэраваць новыя праекты і атрымаць дадатковае фінансаваньне!

### МАТЫВАЦЫЯ ВАЛЯНТЭРАЎ

Разуменьне таго, што вымушае людзей працаваць безь фінансавай узнагароды, ёсьць вырашальным пры распрацоўцы плянаў працы валянтэраў. Ёсьць два фактары, што ўплываюць на "задавальненьне ад працы", якога прагнуць людзі ад валянтэрства. Гэта пэрсанальная матывацыя і арганізацыя працы.

**Ёсьць два фактары, што ўплываюць на "задавальненьне ад працы", якога прагнуць людзі ад валянтэрства. Гэта пэрсанальная матывацыя і арганізацыя працы.**

#### *Прычыны, па якіх людзі робяцца валянтэрамі*

Было бы надта проста заявіць, што людзі жадаюць зрабіцца валянтэрамі дзеля таго, каб зрабіць гэты сьвет лепшым. Гэта можа быць толькі адным з фактараў, але большасьць людзей мае іншыя, больш асабістыя матывы і будуць шукаць магчымасьцяў для іх задавальненьня. Ёсьць шмат прычынаў для валянтэрства:

- набыць навыкі і досьвед;
- набыць кваліфікацыю;
- знайсьці новых сяброў;
- працаваць з грамадзтвам;
- быць часткай грамадзтва;
- працаваць з пэўнай групай людзей;
- сысьці ад праблемаў;
- сустрэць новых людзей;
- аказаць паслугі;
- набыць статус;
- набыць прызнаньне;
- выкарыстаць свае навыкі найлепшым чынам;
- пабавіць час;
- выйсьці з дому;
- палепшыць грамадзкую (лякальную) супольнасьць;
- прыняць выклік;
- зьмяніць статус карыстальніка паслугаў на статус чалавека, які робіць свой унёсак;
- павесяліцца;
- надаць сэнс жыцьцю;
- быць карысным.

Пры распрацоўцы новых магчымасьцяў для валянтэрскай працы вельмі важна разумець пэрсанальную матывацыю валянтэраў, каб праца прыносіла ім асалоду і адпавядала асабістым чаканьням. Напрыклад, калі нехта хоча быць валянтэрам, каб знайсьці новых сяброў, то ён наўрад ці будзе шчасьлівым, калі яму прапануюць працу сам-насам з кліентам без кантактаў зь іншымі валянтэрамі і супрацоўнікамі арганізацыі.

#### *Матывацыя праз арганізацыю*

Ня толькі асабістыя чаканьні валянтэра павінны быць задаволеныя, каб яго праца была пасьпяховай. Дасьледаваньні паказалі, што ёсьць яшчэ шэраг дадатковых фактараў па арганізацыі працы, каб узмацніць матывацыю.

Адказны за нейкую спэцыфічную частку праграмы (падзею, кліента, прадукт, геаграфічны раён), валянтэр, тым ня менш, павінен мець уяўленьне пра ўсю праграму, каб разумець сваю ролю і значэньне працы, якую ён выконвае. Таксама дайце валянтэру магчымасьць плянаваць сваю працу самастойна ў рамках заключаных пагадненьняў. Мэнэджэры праграмы могуць дапамагчы паставіць задачы, але валянтэр можа сам вырашаць, як іх дасягнуць. Валянтэр у той жа час зьяўляецца адказным за вынікі сваёй працы. Посьпех праграмы шмат у чым залежыць ад таго, як валянтэры

ТЭМА

ацэньваюць сваю дзейнасьць. Калі валянтэр ня будзе бачыць вынікаў сваёй працы, то ён паступова страціць да яе цікаўнасьць. Як арганізатар валянтэраў вы павінны адказаць на пытаньні: "Якая інфармацыя пакажа, што праект рэалізуецца пасьпяхова? Як мы можам сабраць гэтую інфармацыю?". Рашэньне, чаму вы хочаце прыцягнуць валянтэраў, і высьвятленьне прычынаў, па якіх людзі робяцца валянтэрамі - гэта два першыя крокі ў стварэньні валянтэрскай стратэгіі. Наступны этап - распрацоўка магчымасьцяў, якія задаволяць патрэбы вашай арганізацыі, і ў той жа час працы для выкананьня.

## РАСПРАЦОЎКА МАГЧЫМАСЬЦЯЎ

Праца, якую вы плянуеце для валянтэраў, павінна быць перадвызначаная мэтамі і задачамі вашай арганізацыі. Валянтэры - гэта адзін з мэханізмаў, які арганізацыя выкарыстоўвае для дасягненьня пастаўленых мэтаў. Аднак калі вы проста заявіце, што вашай арганізацыі патрэбныя валянтэры, то ў лепшым выпадку вы атрымаеце водгук ад вельмі абмежаванай групы людзей, якія дакладна ўсьведамляюць, што такое валянтэрская праца і маюць адпаведны досьвед. Таму, каб прыцягнуць больш людзей, пры распрацоўцы валянтэрскіх магчымасьцяў пастаўце сябе на месца патэнцыйнага валянтэра і запытайце ў сябе:

- Чаму б я хацеў гэтую працу?
- Што я буду ад гэтага мець?
- Які досьвед/навыкі/адукацыя мне для гэтага патрэбныя?
- Як я іх магу атрымаць?
- Як я зразумею, што ўжо атрымаў неабходныя для дадзенай валянтэрскай працы навыкі і веды?

Калі вы адкажаце на гэтыя пытаньні, то пераходзьце да апісаньня работ, якія будуць выконваць валянтэры. Гэта, у сваю чаргу, дапаможа вам уявіць тых людзей, якія будуць выконваць валянтэрскую працу, вызначыць іх ролю ў арганізацыі, надаць ім статус, зраўняць іх пазыцыі з аплочваемымі супрацоўнікамі, акрэсьліць ступень іх адказнасьці. "Апісаньне працы" мусіць утрымліваць наступныя пункты:

- Назва;
- Прызначэньне (мэта). Гэта найбольш важная частка апісаньня працы, паколькі яна ўказвае на цэннасьць працы, якую вы просіце людзей выконваць. Напрыклад, вы жадаеце знайсьці чалавека, які б выгульваў сабаку старога чалавека. Але калі вызначэньне дадзенай паслугі будзе агучана як клопат аб адзінокіх старых людзях і дапамога ім па хатняй гаспадарцы, то патэнцыйныя валянтэры могуць ацаніць, наколькі гэтая праца ёсьць важнай.
- Прапанаваная дзейнасьць (прыклады таго, што трэба будзе рабіць). Слова "прапанаваная" прадугледжвае, што валянтэр таксама можа прапанаваць і прыўнесьці нешта сваё ў тую працу, якую ён будзе выконваць. Аднак гэта павінна быць узгоднена з арганізатарамі праграмы;
- Крытэры ацэнкі працы;
- Графік працы (колькасьць гадзінаў і працягласьць праграмы);
- Месца працы;
- Кіраўніцтва. Гэты разьдзел павінен тлумачыць, хто зьяўляецца непасрэдным кіраўніком валянтэра, у якіх адносінах знаходзіцца валянтэр зь іншымі валянтэрамі, супрацоўнікамі арганізацыі. Разьдзел таксама ўтрымлівае працэдуры вырашэньня праблем, якія могуць узьнікнуць у часе працы;
- Кваліфікацыя: якія навыкі, веды і досьвед зьяўляюцца пажаданымі, а таксама іншыя патрабаваньні, такія як форма адзеньня і да т.п.;
- Карысьць, якую атрымае валянтэр. Тут трэба ўказаць такія рэчы, якія дапамогуць выконваць працу. Напрыклад, трэнінгі, страхоўка, прадастаўленьне абсталяваньня і формы, кампэнсацыя дарожных і кішэнных выдаткаў. Укажыце таксама дадатковыя ўзнагароды, такія, як рэкамэндацыі, сэртыфікаты, прызы, мерапрыемствы "падзякі" (вечарыны, банкеты і да т.п.).




## ПОШУК І АДБОР ВАЛЯНТЭРАЎ

### Пошук

Распрацаванае "Апісаньне працы валянтэраў" безумоўна дапаможа вам пры пошуку і адборы валянтэраў. Можна фармалізаваць працэдуру адбору валянтэраў згодна з вызначанымі вамі крытэрамі (навыкі, веды, досьвед і да т.п.). Аднак можа здарыцца так, што людзей, якія будуць адпавядаць усім пералічаным у "Апісаньні" крытэрам, акажацца вельмі мала. Таму пры найме валянтэраў неабходна шукаць тых, хто хацеў бы выконваць прапануемую вамі працу пры ўмове, што вы забясьпечыце іх неабходным навучаньнем і падтрымкай.

Адказ на пытаньне "Дзе шукаць валянтэраў?" таксама залежыць ад таго, ці вам патрэбныя людзі для працы, што патрабуе нейкіх спэцыфічных навыкаў і адукацыі, ці для некваліфікаванай дзейнасьці.

Аднак і тых, і другіх трэба нейкім чынам заахвоціць да валянтэрства. Найбольш пасьпяховымі кампаніямі па найме валянтэраў зьяўляюцца тыя, у якіх выкарыстоўваліся самыя розныя шляхі зацікаўленьня патэнцыйных валянтэраў. Такое пасланьне пры пошуку добраахвотнікаў, як "Патрабуюцца валянтэры" рэдка прыводзіць да жадаемага выніку, паколькі ў ім няма інфармацыі, якая б выклікала ў абываталяў інтарэс. Есьць чатыры рэчы, якія павінны быць у пасланьні:

- Вызначэньне патрэбы - чаму гэтая праца важная, што здарыцца, калі яна ня будзе зробленая;
- Якая патрабуецца праца;
- Якую карысьць ад гэтага атрымае грамадзкая супольнасьць (людзі);
- Якую карысьць атрымаюць ад выкананай працы самі валянтэры.

Аднак дзе і як распаўсюджваць інфармацыю пра тое, што вы шукаеце валянтэраў? Самы стары, але й найбольш эфэктыўны спосаб - гэта вусная агітацыя праз пэрсанальныя кантакты - большасьць людзей становіцца валянтэрамі, таму што нехта іх пра гэта папрасіў. Лепшая рэклама ідзе ад саміх валянтэраў, якія могуць прыцягнуць да валянтэрства сваіх сваякоў, сяброў. Супрацоўнікі арганізацыі, сябры кіруючых органаў арганізацыі, вашыя кліенты і мэтавая група - таксама патэнцыйныя паслы да валянтэраў. У такім спосабе агітацыі існуе адна небясьпека - гэта своеасаблівае "кланаваньне", паколькі людзі будуць рэкрутаваць іншых з аднолькавай базай (сацыяльнай, адукацыйнай, узроставай і г.д.). Таму гэты спосаб агітацыі неабходна спалучаць зь іншымі.

Папулярызаваць валянтэрства і шукаць новых добраахвотнікаў можна праз газэты і іншыя СМІ. Вельмі эфэктыўным шляхам зьяўляюцца прэзэнтацыі і размовы ў школах, каледжах, вышэйшых навучальных установах, бізнэс-колах і г.д. І, вядома, не забывайцеся на інтэрнэт зь яго вялізнай, неабмежаванай і вельмі разнастайнай аўдыторыяй!

### Адбор валянтэраў

Крытэры для адбору валянтэраў павінны быць адкрытымі. Калі вы просіце валянтэраў прадаставіць рэкамэндацыйныя лісты, то будзе добра забясьпечыць тых, хто піша рэкамэндацыю, апісаньнем працы будучага валянтэра і адмысловай анкетай. Могуць быць таксама нейкія спэцыфічныя патрабаваньні для выкананьня той ці іншай працы (напрыклад, мэдычная даведка), пра што вы мусіце адразу паведаміць патэнцыйным валянтэрам. Калі відавочна, што дадзены чалавек не падыходзіць для заплянаванай працы, то пагледзіце, можа, у вашай арганізацыі для яго знойдзецца іншы занятак. Калі нічога вартага яго няма, то вы павінны ў карэктнай форме адмовіць кандыдату і патлумачыць, чаму ня можаце яго ўзяць і, па магчымасьці, падкажыце, у якую яшчэ арганізацыю ён мог бы зьвярнуцца. Галоўнае, каб у чалавека ня зьнікла жаданьне быць валянтэрам!

**Галоўнае, каб у чалавека ня зьнікла жаданьне быць валянтэрам!**

Цяпер, калі вы ведаеце, навошта вашай арганізацыі патрэбныя валянтэры, а таксама чаму людзі жадаюць быць валянтэрамі; калі вызначана праца, якую будуць выконваць добраахвотнікі, а супрацоўнікі арганізацыі ўсьведамляюць, наколькі гэта важна, калі вы знайшлі і нанялі валянтэраў - самы час зрабіць так, каб валянтэры пачуваліся камфортна, іх праца была найбольш эфэктыўнай, а ў арганізацыі пры рэалізацыі гэтай праграмы ўзьнікала б пры гэтым як найменш праблемаў.

## УСЁ ДЗЕЛЯ ВАЛЯНТЭРА!

Ад таго, што валянтэр будзе рабіць у першы дзень, залежыць, ці ён прыйдзе на наступны! Таму першы дзень працы валянтэра павінен быць своеасаблівымі ўводзінамі ў арганізацыю. Уводзіны прадугледжваюць знаёмства зь людзьмі (супрацоўнікамі арганізацыі і валянтэрамі), офісам, асноўнымі накірункамі дзейнасьці арганізацыі, а таксама падпісаньне "Валянтэрскай дамовы", у якой павінны быць указаны асноўныя абавязкі валянтэра і арганізацыі ў адносінах да яго. Абавязкова забясьпечце валянтэра працоўным месцам і неабходнымі матэрыяламі (паперы, асадкі, бэдж і т.п.).

Фармальная частка ўводзінаў уключае ў сябе высьвятленьне патрэбы ў навучаньні валянтэраў (можна зрабіць у форме кароткага трэнінгу) і плянаваньне працы.

Вельмі важна забясьпечыць валянтэраў інфармацыяй, якая дапаможа ім рабіць сваю працу эфэктыўна. Інфармацыйны пакет, падрыхтаваны вамі для валянтэра, павінен уключаць як агульныя зьвесткі пра арганізацыю, так і дэталёвае апісаньне працы, якая будзе выконвацца. Інфармацыйны пакет варта скласьці па наступнай схеме:
- Структура арганізацыі, імёны, адрэсы і тэлефоны кантактных асобаў;
- Задачы валянтэраў (што яны будуць рабіць);
- Пакрокавае апісаньне працы валянтэра для выканананьня пастаўленай задачы;
- Сьпіс дзеяньняў, якія валянтэр ніколі не павінен рабіць;
- Хуткая дапамога ў экстраных выпадках (тэлефоны, імёны);
- Інфармацыя пра кліентаў, зь якімі будзе працаваць валянтэр;
- Інфармацыя, якая датычыцца бясьпекі валянтэра;
- Пералік і кароткае апісаньне трэнінгаў, якія павінен прайсьці валянтэр.

Навучаньне зьяўляецца неад'емнай і вельмі важнай часткай працы з валянтэрамі.

Па-першае, калі вашая арганізацыя не правядзе неабходныя для працы валянтэраў трэнінгі, то вашая арганізацыя будзе несьці адказнасьць за дапушчаныя валянтэрамі памылкі. Аднак падыход да навучаньня валянтэраў павінен быць дыфэрэнцыянаваны. Частка вашых валянтэраў, магчыма, ужо мае досьвед працы з падобнай групай кліентаў і таму ёй будзе нецікава наведваць уводныя сэмінары. Калі ж вы будзеце вымушаць гэтых валянтэраў да абавязковага наведваньня, то яны папросту сыдуць. Зь іншага боку, для некаторых валянтэраў атрыманьне пэўных навыкаў і ведаў падчас сэмінараў было

**Ад таго, што валянтэр будзе рабіць у першы дзень, залежыць, ці ён прыйдзе на наступны!**

асабістай матывацыяй пры рашэньні стаць валянтэрам. Таму для іх абавязкова трэба правесьці некалькі трэнінгаў. Пры плянаваньні навучаньня абавязкова ўлічвайце вынікі інтэрвію і анкетаў валянтэраў, каб дакладна ўяўляць ровень іх падрыхтоўкі і жаданьняў. У першы ж дзень прэзэнтуйце праграму навучаньня і раскажыце, якія з трэнінгаў зьяўляюцца абавязковымі. Такім чынам, у валянтэраў будзе магчымасьць вырашыць, ці жадаюць яны працягваць.

Абавязковыя трэнінгі павінны быць праведзеныя да таго, як валянтэры распачнуць сваю непасрэдную працу. Калі па нейкай прычыне валянтэр мусіць пачакаць пэўны час, пакуль распачнецца адпаведны трэнінгавы курс, то на гэты пэрыяд забясьпечце яго нейкай альтэрнатыўнай працай.
Арганізатары праграмы павінны ў пісьмовай форме весьці ўлік усіх трэнінгаў, якія прайшоў валянтэр!

## НЯ КІДАЙЦЕ ВАЛЯНТЭРА!

Падтрымка валянтэраў - гэта ў першую чаргу пастаянны пэрсанальны кантакт з кожным валянтэрам з мэтай высьвятленьня, як у яго справы, ці ўсё нармальна, ці хапае яму ведаў і навыкаў, ці патрэбна яму нейкая дапамога, ці ня ўзьніклі нейкія праблемы. Гэта ня толькі спросьціць працу самога валянтэра, але дапаможа і вам прасачыць, наколькі пасьпяхова разьвіваецца праграма, ацаніць, ці не патрэбна скарэктаваць яе мэты і задачы. Па сутнасьці, такія размовы дапамогуць вам выпрацаваць стратэгію для выніковай ацэнкі праграмы.

**У заходніх краінах разьвітая сыстэма страховак зьяўляецца гарантыяй бясьпекі валянтэраў. Але яшчэ да пачатку праграмы арганізатары прадумваюць стратэгію па мінімалізацыі магчымай рызыкі.**

І, нарэшце, не забудзьцеся, што ваша арганізацыя нясе адказнасьць за валянтэраў! Вы павінны забясьпечыць іх самым неабходным для працы. У тым ліку, кішэннымі выдаткамі, якімі могуць быць:

- дарога да месца працы валянтэра і назад;
- іншыя падарожныя выдаткі ў рамках дадзенай валянтэрскай праграмы;
- Харчаваньне (звычайна абеды);
- Паштовыя і тэлефонныя выдаткі;
- Спэцвопратка і абсталяваньне (калі неабходна).

Калі пры распрацоўцы вашай праграмы вы ня ўлічыце кампэнсацыю гэтых выдаткаў, то вы значна абмяжуеце кола патэнцыйных валянтэраў, паколькі далёка ня ўсе зь іх будуць у стане самастойна плаціць за дарогу і харчаваньне, працуючы пры гэтым бясплатна. Гэтыя кішэнныя грошы пры пачатку праграмы варта выплаціць усім валянтэрам. Тыя ж зь іх, каму яны ня будуць жыцьцёва патрэбныя, па сваім жаданьні могуць вярнуць гэтыя грошы па заканчэньні праграмы ў якасьці асабістага ахвяраваньня.

Яшчэ адзін важны момант - гэта бясьпека валянтэраў. Безумоўна, ступень рызыкі залежыць ад працы, якую яны выконваюць. У любым выпадку, задача арганізатараў праграмы - забясьпечыць максымальную бясьпеку сваіх валянтэраў і прадумаць адпаведныя мэханізмы! Апошняе датычыць ужо мэнэджмэнту рызыкі, якія таксама зьяўляецца неад'емнай часткай працы з валянтэрамі. У заходніх краінах разьвітая сыстэма страховак зьяўляецца гарантыяй бясьпекі валянтэраў. Але яшчэ да пачатку праграмы арганізатары дэталёва прадумваюць стратэгію па мінімалізацыі магчымай рызыкі, якая ўключае ў сябе:

- Палітыка па ахове здароўя і бясьпекі валянтэраў;
- Адпаведная праграме працэдура адбору валянтэраў;
- Своечасовае інфармаваньне валянтэраў пра тое, што ад іх будзе патрабавацца (асабліва важна, калі іх праца будзе зьвязаная з пэўнымі фізычнымі нагрузкамі ці працай са спэцыфічнай групай людзей);
- Адпаведныя трэнінгі;
- Рэгулярная падтрымка і кантакты з валянтэрамі;
- Пастаянная ацэнка працы валянтэраў і ходу праграмы.

*Спадзяемся, што гэтыя ўводзіны ў асновы кіраваньня валянтрэскімі праграмамі будуць карыснымі тым арганізацыям, якія задумаліся альбо распачалі працу з добраахвотнікамі. Натуральна, што ўвасобіць валянтэрскі праект на практыцы і прыцягнуць людзей да валянтэрства ў Беларусі значна складаней, чым гэта выглядае ў тэорыі. Аднак, як сказала адна зь лідэрак валянтэрскага руху ў Валіі, сакрэт пасьпяховай валянтэрскай праграмы ня ў тым, каб прымусіць людзей нешта рабіць, а ў тым, каб адкрыць для іх новыя магчымасьці. А гэта можна зрабіць у любых умовах!*

*Пры падрыхтоўцы артыкула выкарыстоўваліся матэрыялы, прадастаўленыя WCVA (Валійская Рада Добраахвотнага Дзеяньня)*

**ВАЛІЙСКАЯ БУХГАЛЬТЭРЫЯ**

**82 % жыхароў Валіі ахвяруюць свой час на валянтэрскую працу. Гэта 1,8 мільёна чалавек, якія аддаюць валянтэрству 7 мільёнаў гадзін штотыдня.**

**3,4 млрд. фунтаў-стэрлінгаў штогод прыносяць валянтэры ў дзяржбюджэт Валіі.**

**47 000 дзяцей атрымліваюць дапамогу ў валянтэрскіх дашкольных групах.**

**200 000 маладых людзей карыстаюцца паслугамі 20 тысяч маладых валянтэраў.**

**350 000 грамадзянаў на 90 % бяруць на сябе клопат аб мясцовай грамадзе, чым эканомяць дзяржаве 1,7 мільярды фунтаў штогод.**





## УКАЗ ПРЕЗИДЕНТА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

*27 марта 2002 г. № 160*

ОБ УТВЕРЖДЕНИИ СОСТАВА РЕСПУБЛИКАНСКОЙ КОМИССИИ ПО РЕГИСТРАЦИИ (ПЕРЕРЕГИСТРАЦИИ) ОБЩЕСТВЕННЫХ ОБЪЕДИНЕНИЙ

Утвердить состав Республиканской комиссии по регистрации (перерегистрации) общественных объединений (прилагается).

Президент Республики Беларусь А.ЛУКАШЕНКО

*УТВЕРЖДЕНО*
*Указ Президента*
*Республики Беларусь*
*27.03.2002 № 160*

СОСТАВ

Республиканской комиссии по регистрации (перерегистрации) общественных объединений

Князев Станислав Никифорович - Первый заместитель Главы Администрации Президента Республики Беларусь (председатель комиссии)
Голованов Виктор Григорьевич - министр юстиции (заместитель председателя комиссии)
Подгайный Михаил Васильевич - министр информации (заместитель председателя комиссии)
Данилюк Станислав Евгеньевич - начальник экспертно-правового отдела Государственного секретариата Совета Безопасности Республики Беларусь
Жук Александр Иванович - первый заместитель министра образования
Каменко Василий Борисович - заместитель министра по налогам и сборам
Костян Сергей Иванович - заместитель председателя Постоянной комиссии Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь по международным делам и связям с СНГ
Котляров Игорь Васильевич - председатель Постоянной комиссии Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь по образованию, культуре, науке и научно-техническому прогрессу
Михеев Валерий Михайлович - заместитель начальника главного управления - начальник управления по координации идеологической работы и связям с общественными объединениями главного идеологического управления Администрации Президента Республики Беларусь
Скобелев Эдуард Мартинович - главный редактор Информационного бюллетеня Администрации Президента Республики Беларусь
Чухлей Татьяна Сигизмундовна - заместитель начальника управления подготовки и экспертизы проектов законодательных актов главного экспертно-правового управления Комитета государственного контроля
Щурко Александр Семенович - заместитель министра внутренних дел, начальник милиции общественной безопасности и специальной милиции

*© Национальный центр правовой информации Республики Беларусь, 1998-2002.*

## ПАКЕТ ДАКУМЭНТАЎ ДЛЯ РЭГІСТРАЦЫІ:

- Заява аб рэгістрацыі;
- Статут (у двух асобніках);
- Пратакол установчага сходу;
- Узгодненая каляровая (4 асобнікі) і графічная (1 асобнік) вэрсіі, а таксама апісаньне сімволікі (1 асобнік) з дадаткам заключэньня Дзяржаўнага камітэту па архівах і справаводзтве (Аддзелу па архівах і справаводзтве аблвыканкаму) па кожным яе відзе;
- Дакумэнт блянку, які пацьвярджае аплату рэгістрацыйнага збору (арыгінал);
- Дакумэнт па аплаце за паведамленьне пра дзяржаўную рэгістрацыю аб'яднаньня (арыгінал) і копію дамовы пра публікацыю;
- Графічнае адлюстраваньне арганізацыйных структураў ГА;
- Сьпіс заснавальнікаў;
- Сьпіс сяброў кіраўнічых органаў;
- Сьпіс сяброў кантрольна-рэвізійнага органа;
- Рашэньне вышэйшага органа аб наданьні паўнамоцтваў ня менш чым тром сябрам кіраўнічага органа з наданьнем ім права прадстаўляць ГА ў працэсе рэгістрацыі ці ў выпадку ўзьнікненьня спрэчак у судзе;
- Дакумэнт, які пацьвярджае наяўнасьць месца знаходжаньня кіраўнічых органаў ГА (юрыдычнага адрасу);
- Дакумэнты, якія пацьвярджаюць правамоцтвы на выкарыстаньне ўласнага імя грамадзяніна ў назве (пры неабходнасьці);
- Для рэгістрацыі міжнароднага ГА трэба прадастаўленьне рашэньня пра стварэньне аддзяленьня ГА на тэрыторыі замежнай дзяржавы, а таксама сьпіс сяброў дадзенага аддзяленьня.



## КОМИССАРЫ

*Отдел информации*

**27 марта Александр Лукашенко утвердил новый состав комиссии по регистрации общественных объединений. Прежде эту комиссию возглавлял Владимир Заметалин. Теперь его сменил первый заместитель главы Администрации президента Станислав Князев.**

Комиссия состоит из 12 человек, большая часть из которых входит в ее состав по должности. Например, членами комиссии являются министр юстиции Виктор Голованов, министр информации Михаил Подгайный, заместитель министра образования Александр Жук и заместитель министра по налогам и сборам Василий Каменко.

Однако в комиссии представлены и политические фигуры. Причем их выбор кажется довольно странным. Так, членами комиссии являются депутаты Сергей Костян и Игорь Котляров, а также писатель Эдуард Скобелев, который возглавляет информационно-аналитический бюллетень Администрации президента. Оба депутата являются членами Коммунистической партии Белоруссии. Детский же писатель Эдуард Скобелев в последнее время больше известен своими ультралевыми взглядами.

Непосредственно регистрацией общественных объединений занимается Министерство юстиции. Задача комиссии - определять, может ли та или иная организация в принципе быть зарегистрирована. Члены комиссии должны устанавливать, не несет ли то или иное общественное объединение угрозу целостности и безопасности государства. Правда, персональные качества и особенности политических взглядов некоторых членов комиссии вызывают законные опасения за будущее отечественного третьего сектора. Достаточно вспомнить, что Сергей Костян в свое время в ответ на бомбардировки Югославии предлагал подвергнуть бомбардировке Вашингтон и Нью-Йорк.

# СУПРАЦА ЦІ СЬМЯРОТНЫЯ АБДЫМКІ?

## *ГАРАДЗЕНСКІЯ НДА І ЎЛАДЫ СПРАБУЮЦЬ ПАРАЗУМЕЦЦА*

**Першая з 1999 году сустрэча прадстаўнікоў няўрадавых грамадзкіх арганізацыяў Гарадзеншчыны з прадстаўнікамі мясцовых уладаў адбылася 24 красавіка ў Горадні.**

Сярод удзельнікаў Круглага стала, арганізаванага сябрамі грамадзкіх аб'яднаньняў "Цэнтар "Трэці сэктар" і "Віт", былі сябры НА і незарэгістраваных пакуль ініцыятыўных групаў: ГА "Ветразь", "Воля да разьвіцьця", "Сям'я, дзеці, будучыня" (Слонім), "Хрысьціянскае сяброўства моладзі і дарослых" (Ліда), інфармацыйны рэсурсны цэнтар "Рэгіён" (Ашмяны), Эўрапейскі моладзевы парлямэнт, "Маладая Грамада", "Клюб Unesco" (Горадня). Афіцыйныя ўлады прадстаўлялі Аляксандар Дзікевіч і Робэрт Бражук, кіраўнік і супрацоўнік Аддзелу па справах моладзі пры Аддзеле адукацыі аблвыканкама адпаведна, Тацяна Кулеш, супрацоўніца Ўпраўленьня інфармацыі аблвыканкама, а таксама спэцыялісты сэктараў па справах моладзі Ўпраўленьняў адукацыі Навагрудзкага і Ваўкавыскага райвыканкамаў Іван Грынь і Ігар Кашкевіч.

Мэтай сустрэчы было абмеркаваньне магчымых варыянтаў узаемадзеяньня і супрацоўніцтва паміж абодвума бакамі. Праведзенае напярэдадні Круглага стала анкетаваньне прадстаўнікоў НГА засьведчыла, што праблемаў ва ўзаемаадносінах хапае.

Так, на думку ўдзельнікаў апытаньня, усталяваньню ўзаемавыгоднага супрацоўніцтва паміж сябрамі НГА і прадстаўнікамі ўладаў перашкаджаюць слабая інфармаванасьць уладаў пра дзейнасьць НГА, боязь прадстаўнікоў уладаў супрацоўнічаць з НГА з-за ідэалягічнага ціску "зьверху", недавер актывістаў НГА да чыноўнікаў, а таксама той факт, што, магчыма, улады бачаць у сябрах НГА будучых апанэнтаў.

У якасьці найвялікшых праблемаў у стасунках з уладамі ўдзельнікі апытаньня назвалі складанасьці з рэгістрацыяй грамадзкіх аб'яднаньняў, абмежаваныя магчымасьці для ажыцьцяўленьня грамадзкімі арганізацыямі адукацыйных праграмаў, а таксама абмежаваньне ўладамі права на правядзеньне акцый, сходаў ды іншых мерапрыемстваў

Са свайго боку прадстаўнікі ўлады зазначылі, што наладжваньню супрацоўніцтва перашкаджаюць і шматлікія стэрэатыпы, якія існуюць у дачыненьні да ўлады ў трэцім сэктары. Самы распаўсюджаны зь іх тычыцца нібыта нежаданьня органаў улады супрацоўнічаць зь няўрадавымі моладзевымі аб'яднаньнямі. Разам з тым, абодва бакі яшчэ да пачатку сустрэчы прадэкляравалі жаданьне зьмяніць сытуацыю да лепшага.

**Яшчэ рана казаць пра стварэньне нейкіх Каардынацыйных радаў - гэтае пытаньне ўсур'ёз не абмяркоўвалася. Калі ствараць такую структуру, то яна павінна быць незаангажаванай і быць непадкантрольнай уладам. Яна мусіць быць створаная толькі дзеля лябіяваньня нейкіх пытаньняў на дзяржаўным роўні.**

На думку чыноўнікаў-удзельнікаў Круглага стала, любая арганізацыя мае права атрымліваць зь дзяржорганаў інфармацыю, больш за тое, мае права падаваць заяўкі на дзяржаўнае фінансаваньне пры ўмове, калі арганізацыя зарэгістраваная і яе лідэры "вядомыя прадстаўнікам дзяржструктур".

Узаемная неінфармаванасьць і стэрэатыпы ляжаць у падмурку праблемаў, спосабы вырашэньня якіх і абмяркоўвалі ўдзельнікі Круглага стала. З абодвух бакоў прагучалі прапановы наладзіць абмен плянамі працы, павялічыць колькасьць публікацый пра дзейнасьць ГА ў друку, стварыць адпаведныя перадачы на радыё і тэлебачаньні.

Прагучала таксама прапанова стварыць Каардынацыйную раду з прадстаўнікоў моладзёвых арганізацыяў і прадстаўнікоў улады. Такая Рада мелася б каардынаваць працу па рэалізацыі дзяржаўнай моладзевай палітыкі на Гарадзеншчыне.

Удзельнікі сустрэчы вырашылі сумеснымі намаганьнямі правесьці ўвосень 2002 году Другі Форум моладзевых арганізацыяў і ініцыятываў вобласьці. Нагадаем, першы Форум "ІнфаМІГ-99" адбыўся ў 1999 годзе і сабраў больш за сотню прадстаўнікоў ГА і ўладаў Гарадзеншчыны. Мэтамі гэтага Форуму будуць прэзэнтацыя розных накірункаў дзейнасьці недзяржаўных арганізацыяў і дзяржструктур, якія працуюць з моладзьдзю, распрацоўка стратэгіяў і агульных падыходаў да рэалізацыі моладзевай палітыкі ў вобласьці і вырашэньне праблемаў, якія хвалююць моладзь.

Круглы стол праводзіўся ў межах праекту "Павышэньне эфэктыўнасьці дзейнасьці грамадзкіх аб'яднаньняў Гарадзеншчыны", падтрыманага Праграмай TACIS у Беларусі.

*Паводле "Кронікі грамадзкага жыцьця Гарадзеншчыны"*

**Пракамэнтаваць рашэньні, прынятыя падчас сустрэчы на Круглым стале ў Горадні, мы папрасілі аднаго з арганізатараў, старшыню праўленьня "Трэці сэктар" Вітаўта Рудніка.**

**– Падчас разгляду на Круглым стале розных формаў супрацы моладзевых НДА і дзяржавы ўдзельнікі ў тым ліку прапанавалі стварыць Каардынацыйную раду, адной з мэтаў якое было б каардынаваньне працы *"па рэалізацыі дзяржаўнай моладзевай палітыкі на Гарадзеншчыне"*. На Вашую думку, ці магчымае такое супрацоўніцтва з улікам асноўнага пастуляту дэмакратыі: "трэці сэктар" павінен заставацца незалежным ад "першага". Ці магчымае сапраўднае супрацоўніцтва па вырашэньні нейкіх актуальных праблемаў у краіне зь недэмакратычным рэжымам?**

- Я думаю, што супрацоўніцтва ў такіх умовах можа мець вельмі спэцыфічныя формы з-за ідэалягічнага ціску і на прадстаўнікоў канкрэтных органаў мясцовай улады, і на прадстаўнікоў асобных арганізацыяў. Разам з тым, у прынцыпе, супрацоўніцтва магчымае, і гэта падчас анкетаваньня, праведзенага перад Круглым сталом, адзначалі многія ўдзельнікі апытаньня - сябры розных ГА. Улады зацікаўленыя ў вырашэньні сацыяльных праблемаў рэгіёну. Сваімі сіламі зрабіць яны гэтага ня могуць, і мне здаецца, што ўжо сёньня асобныя чыноўнікі разумеюць, што можна выкарыстоўваць патэнцыял грамадзкіх арганізацыяў. Доказ таму - той будынак, які аддалі гарадзенскія ўлады грамадзкай арганізацыі пад стварэньне прытулку для выпускнікоў дзіцячых дамоў і дзяцей, якія апынуліся ў крытычных сытуацыях. У Смаргоні моладзевыя ГА супрацоўнічаюць зь мясцовымі ўладамі ў рамках сацыяльнай абароны насельніцтва.

Іншая справа, што наўрад ці будзе рэальнае супрацоўніцтва ў такіх сфэрах, як абарона правоў чалавека, у галіне доступу да інфармацыі.

**– Але Вы не адмаўляце, што Рада і яе сябры з моладзевых НДА гатовая была б рэалізоўваць дзяржаўную моладзевую палітыку?**

- Адна справа, калі паглядзець на тыя дзяржаўныя праграмы ў галіне моладзевай палітыкі, якія існуюць, то яны абсалютна пазытыўныя па сваім зьмесьце. Яны прадугледжваюць забесьпячэньне моладзі працоўнымі месцамі, доступ да вучобы, дапамогу ў забесьпячэньні жыльлём, барацьбу са злачыннасьцю і ахову здароўя моладзі.

Пад словам "дзяржаўная" ня маецца на ўвазе "ў рэчышчы існай дзяржаўнай ідэалёгіі". Калі выконваць многія зь беларускіх законаў, то гэта будзе працаваць на карысьць. Іншая справа, як тая ж самая дзяржаўная палітыка трактуецца асобнымі чыноўнікамі ў менскіх "белых" і "чырвоных" дамах.

Яшчэ рана казаць пра стварэньне нейкіх Каардынацыйных радаў - гэтае пытаньне ўсур'ёз не абмяркоўвалася. Калі ствараць такую структуру, то яна павінна быць незаангажаванай і быць непадкантрольнай уладам. Яна мусіць быць створаная толькі дзеля лябіяваньня нейкіх пытаньняў на дзяржаўным роўні. Адным з кірункаў, якім магла б заняцца Рада ў якойсьці пэрспэктыве, магло б быць увядзеньне прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацыяў як незалежных экспэртаў у тыя дзяржаўныя структуры, якія на сёньняшні дзень прымаюць рашэньні, што тычацца грамадзкіх аб'яднаньняў. З боку навагрудзкага чыноўніка гучала інфармацыя, што, маўляў, у іх горадзе такая Рада існуе і ў яе ўваходзяць некалькі прадстаўнікоў ад грамадзкасьці, кшталту дзіцячага клюбу "Зялёная карова". Але інфармацыю цяжка пракамэнтаваць, бо я яе ня спраўджваў.



# ЛАМАЦЬ - НЕ БУДАВАЦЬ

## *БЕРАСЬЦЕЙСКУЮ "ВЕЖУ" ПАСПРАБАВАЛІ ЗЬНЕСЬЦІ*

Барыс Дэпеша

**29 красавіка была пастаўлена кропка ў справе ліквідацыі аднаго з найбольш уплывовых грамадзкіх аб'яднаньняў Берасьцейшчыны – Берасьцейкага абласнога цэнтру падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў "Вежа". Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь не задаволіў скаргу "Вежы" і пакінуў у сіле рашэньне Берасьцейскага абласнога суду.**

Эпапея, якая цягнулася больш за паўгода, нарэшце атрымала сваю лягічную і бадай чаканую развязку. Завеса апусьцілася, акторы сышлі за кулісы, а зьбянтэжаныя гледачы пакідаюць глядзельную залю з адным пытаньнем: што гэта было? Пэўная частка схільная лічыць, што нам усім быў прадэманстраваны доказ на карысьць, здавалася б, вядомай аксёмы: гэтая дзяржава нікому не даруе несанкцыянаванай актыўнасьці. Другая лічыць, што з-за няўменьня прааналізаваць наяўныя на момант пачатку "справы "Вежы" факты "трэці сэктар" у чарговы раз сеў у лужыну. Астатнія маўчаць і спрабуюць зразумець, што зь "Вежай" здарылася насамрэч.

Адкінем убок версіі і зьвернемся да фактаў. Нагадаем фармальныя падставы для ліквідацыі "Вежы", высунутыя Ўпраўленьнем юстыцыі Берасьцейскага аблвыканкама.

### "ІНІЦЫЯТЫВА НА МЕСЦАХ КАРАЕЦЦА"

Першае папярэджаньне ад Упраўленьня юстыцыі "Вежа" атрымала 13 верасьня 2001г., акурат па сканчэньні перадвыбарчае кампаніі, у якой ГА брала актыўны ўдзел. Адным з кірункаў яе актыўнасьці падчас агітацыйнай кампаніі была падтрымка ініцыятывы незарэгістраванай ГА "Дасьледча-аналітычны клюб "Дзедзіч" у правядзеньні сацыялягічнага апытаньня берасьцейцаў. "Вежаўцы", разумеючы, чым для шараговых валянтэраў можа абярнуцца дзейнасьць ад імя незарэгістраванага аб'яднаньня, далі ім "крышу" - магчымасьць выступаць ад імя "Вежы".

Падчас акцыі маладыя людзі абышлі 4 500 кватэр у цэнтры гораду з пытаньнямі хутчэй мабілізацыйнага, чым агітацыйнага характару. Падчас размоваў з жыхарамі раёну дзедзічы тлумачылі, навошта трэба ўдзельнічаць у выбарах, запытваліся, ці дастаткова інфармацыі аб кандыдатах атрымліваюць выбаршчыкі, ці задавальняе іх сацыяльна-эканамічная сытуацыя ў краіне і да т.п.

Магчыма, мясцовыя ўлады палічылі такую форму зносін зь людзьмі занадта актыўнай у тых рамах, якія былі прадастаўленыя апазыцыйным сілам падчас перадвыбарчай кампаніі, магчыма (выбачайце за калямбур) і мае рацыю "радыёкропка", калі сьцьвярджае, што адна з групаў валянтэраў завітала ў госьці аж да самога В.Г. Дзядкова, галоўнага спэцыяліста па рэгістрацыі грамадзкіх аб'яднаньняў Упраўленьня юстыцыі, які не вітае несакцыянаваныя візыты гасьцей. Як бы там ні было, ▸▸

спадар галоўны спэцыяліст як ніхто з рэспандэнтаў зацікавіўся сацыялягічным мерапрыемтсвам: 4 верасьня ён патэлефанаваў у офіс "Вежы" і загадаў спыніць апытаньне, пагражаючы вынясеньнем пісьмовага папярэджаньня. Акцыя, заўважым, была спыненая.

Тым ня менш, 13 верасьня Упраўленьне юстыцыі ўсё ж такі вынесла папярэджаньне цэнтру "Вежа" менавіта за сацыялягічнае апытаньне, "по тематике выходящей за рамки целей создания объединения". Скарга "Вежы" на гэтае папярэджаньне, як, дарэчы, і на ўсе наступныя, засталася незадаволенай. Камэнтар не патрэбны: нават пасьля перамогі жаданьне адпомсьціць тым, "хто быў ня з намі", сьвярбіць, як ні парадаксальна, у слабых.

Другое папярэджаньне, атрыманае літаральна праз 22 дні, можна было б лічыць няўдалым жартам, калі б не было так сумна. Справа ў тым, што падчас перапіскі, якая завязалася паміж цэнтрам "Вежа" і Ўпраўленьнем юстыцыі, сьвярблівае вока В.Дзядкова ўгледзела яшчэ адну незаўважную раней акалічнасьць. На фірмовым блянку "Вежы" стаяў быццам бы несапраўдны адрас: "Берасьце, вул. Савецкіх памежнікаў", замест звыклага русіфікаванага "Брэст, вул. Савецкіх пагранічнікаў". Зачэпка, ня вартая ўвагі? А папярэджаньне! Дробязь? А некаму ж прыемна!

Тое, што Статутам цэнтру "Вежа" пераклад юрыдычнага адрасу на беларускую мову не рэглямэнтаваны, а таму дапускаецца адвольны, тое, што "памылкі" "Вежа" адразу выправіла, тое, нарэшце, што рэгіструючы орган ажыцьцяўляе кантроль за адпаведнасьцю статуту дзейнасьці арганізацыі, а ніяк не за правіламі афармленьня фірмовых блянкаў, пад увагу ніхто ня ўзяў.

І, нарэшце, фінальны акт неаб'яўленай вайны.

У сьнежні на старонках бюлетэню "Каліва", які выдаецца цэнтрам "Вежа", было надрукавана інтэрвію з кіраўнікамі незарэгістраваных моладзевых арганізацыяў Берасьцейшчыны - зноў-ткі засьвяціліся незарэгістраваныя "Дзедзіч" і "Малады фронт". Упраўленьне юстыцыі расцаніла гэта як парушэньне Закону аб СМІ. Маленькі нюанс: наклад "Каліва" - 299 асобнікаў, і ён друкуецца для ўнутранага карыстаньня.

Тым ня менш: Упраўленьне юстыцыі падрыхтавала зыскавую заяву ў абласны суд з патрабаваньнем зьліквідаваць "Вежу" за сыстэматычныя парушэньні Статуту. Да таго ж у "Каліве" была зьмешчаная інфармацыя пра "Прававую клініку" цэнтру "Вежа", якая аказвае юрыдычную дапамогу грамадзянам. А на гэта, як той В.Дзядкоў казаў, "лицензия нужна". Гэ-тае парушэньне таксама было ўказана ў зыску Ўпраўленьня.

Пасьля доўгага судовага разьбіральніцтва абласны суд пацьвердзіў наяўнасьць усіх вы-шэй пералічаных парушэньняў, законнасьць вынясеньня папярэджаньняў і прыняў рашэньне зьліквідаваць "Вежу".

29 красавіка Вярхоўны суд разгледзеў скаргу "Вежы" на рашэньне абласнога суду і не палічыў магчымым адмяніць тое рашэньне. З гэтага часу ў юрыдычнай прасторы краіны пера-стала існаваць яшчэ адна ўплывовая недзяржаўная арганізацыя. Тым часам вялізная колькасьць грамадзкіх арганізацыяў Берасьцейшчыны рызыкуе пазбавіцца магчымасьці працаваць без тэхнічнай і кансультатыўнай падтрымкі "Вежы".

### "ТРЭЦІ СЭКТАР": УКЛ. / ВЫКЛ.

Высновы, якія можна зрабіць з працэсу ліквідацыі "Вежы", не арыгінальныя.

Улады ў чарговы раз прадэманстравалі, што грамадзкія арганізацыі ня ўпісваюцца ў створаную сыстэму інстытутаў беларускага грамадзтва. Калі ў большасьці краінаў Эўропы дзейнасьць грамадзкіх ініцыятываў заахвочваецца, то нашыя рэаліі сьведчаць пра адваротнае. Атмасфэру, якая склалася цягам апошніх гадоў у дачыненьні да трэцяга сэктару, яўна не назавеш здаровай. Дэклярацыі дэклярацыямі, але досьвед паказвае, што дзяржаўныя органы сама мала непрыхавана грэбліва ставяцца да не-дзяржаўнікаў. Сапраўды незразумела: калі ўлады на-самрэч станоўча ставяцца да грамадзкіх арганізацыяў, чаму нязначныя парушэньні робяцца на-годай для закрыцьця? Ці не прасьцей паведаміць аб заўважаных недарэчнасьцях і навучыць, як трэба рабіць, чым чарговы раз заводзіць мэханізм "канвэера сьмерці"?

**Як кажа кіраўнік цэнтру "Вежа" Іна Кулей, галоўнымі супрацоўнікамі кожнай грамадз-кай арганізацыі павінны стаць юрыст, бухгальтар і справаводца. Прафэсіянальныя, адмыслова падрыхтаваныя і адданыя сваёй справе, толькі яны здольныя папярэдзіць меры, якія заўжды напагатове ва ўладаў.**

Як кажа кіраўнік цэнтру "Вежа" Іна Кулей, галоўнымі супрацоўнікамі кожнай грамадз-кай арганізацыі павінны стаць юрыст, бухгальтар і справаводца. Прафэсіянальныя, адмыслова падрыхтаваныя і адданыя сваёй справе, толькі яны здольныя папярэдзіць меры, якія заўжды напагатове ва ўладаў.

Пры распрацоўцы чарговай праграмы трэба ў першую чаргу зрабіць яе экспэртызу пры дапамозе гэтых людзей.

Адмыслоўцы, якім аж карціць папярэдзіць і закрыць усіх адным махам, таксама не арыгінальныя. Складаецца ўражаньне, што апроч тактыкі абвінавачваньня ў падтрымцы неза-рэгістраваных, але актыўна дзейных грамадзкіх арганізацыяў, яны і прыдумаць пакуль нічога ня здатныя. Так, паўтары гады падае дакумэнты на рэгістрацыю грамадзкае аб'яднаньне "Дзедзіч", а тым часам за публікацыю інфармацыі ад яго імя церпіць ужо другое грамадзкае аб'яднаньне. Чарговай мішэньню Ўпраўленьня юстыцыі стала ГА Агенцтва рэгіянальнага разьвіцьця "Варута", якое атрымала папярэджаньне за публікацыю інфармацыі пра дзейнасьць "Дзедзіча".

Што да "Вежы", то, вядома, каманда прафэсіяналаў, якая склалася ў арганізацыі за чаты-ры гады працы, нікуды не падзенецца: людзі жадаюць рабіць сваю справу, нягледзячы на пе-рашкоды...

У зьвяз з усім адзначаным вышэй так і хочацца спытаць: "хто наступны?".

Толькі ў каго пытаць?





# ВІЦЕБСКІ "ПАРАДАК"-
## НА XXI СТАГОДЗЬДЗЕ

*Юрась Сьцяпанаў,*
*моладзевы цэнтар грамадзянскай супольнасьці "Верас"*

**Красавік 2002 году рызыкуе ўвайсьці ў гісторыю віцебскіх НГА як лёсавызначальны месяц: па ініцыятыве ГА "Прыватныя ініцыятывы" была створана кааліцыя "Віцебскі парадак на XXI стагодзьдзе" ("Витебская повестка на XXI век"). Калі азначэньне "лёсавызначальны" падасца запрэтэнцыёзным, то мэту кааліцыі - "распрацоўка і лябіраваньне канкрэтнага пляну ўзгодненых дзеяньняў па разьвіцьці гораду Віцебска, які ўлічвае гарманічнае разьвіцьцё ўсіх сфэраў гарадзкога жыцьця" - прынамсі, можна разглядаць як прэтэнзію на фармаваньне новай сытуацыі разьвіцьця "трэцяга сэктару" рэгіёну.**

У новы альянс увайшло дзесяць самых розных паводле дзейнасьці няўрадавых арганізацый: "Прыватныя ініцыятывы", гарадзкое аддзяленьне Беларускай арганізацыі працоўных жанчын, клюб "Дзеці Сонца", моладзевы цэнтар грамадзянскай супольнасьці "Верас", Віцебская жаночая інфармацыйна-каардынацыйная рада, ГА "Гуманітарная асацыяцыя "Славянскі Дом", арганізацыя "Эўрапейская пэрспэктыва", дэмакратычная арганізацыя "Вэтэран", Рэгіянальнае аддзяленьне Фонду братоў Луцэвічаў, Моладзевы культурна-адукацыйны цэнтар "Ростань".

Удзельнікі "Віцебскага парадку на XXI стагодзьдзе" небеспадстаўна лічаць, што "нашае грамадзтва патрабуе зьменаў у падыходах да плянаваньня і кіраваньня гарадзкім разьвіцьцём". Разасобленасьць усіх сэктараў грамадзтва, адсутнасьць паўнавартаснага ўзаемнага інфармаваньня відавочна вядзе да непаразуменьня, проціборства і канфліктаў.

Кааліцыя ўважае, што прысьпеў час пераходу да ўстойлівага разьвіцьця, пры якім забясьпечваецца рост эканомікі, захоўваецца высокая якасьць навакольнага асяродзьдзя, гарантуецца сацыяльная справядлівасьць і забясьпечваецца ўдзел усіх грамадзкіх груп пры прыняцьці рашэньняў. Альянс намераны наладзіць канструктыўны дыялёг паміж насельніцтвам, бізнэсам, некамэрцыйным сэктарам і органамі ўлады. Вынікам такіх кантактаў павінна стаць распрацоўка бачаньня і стратэгічнага пляну ўстойлівага разьвіцьця гораду Віцебска.

На думку стваральнікаў кааліцыі, няўрадавыя арганізацыі, якія прадстаўляюць самыя разнастайныя слаі грамадзтва, лепей за ўсіх ведаюць праблемы шараговых грамадзян. З тае прычыны, аб'яднаўшыся, недзяржаўныя структуры могуць зрабіцца рэальнай сілай для прасоўваньня сацыяльна важных праграм у межах канцэпцыі ўстойлівага разьвіцьця.

Дарэчы, кажучы пра новую віцебскую кааліцыю, нельга не распавесьці пра сам панятак "Парадак на XXI стагодзьдзе".

10 гадоў таму Канфэрэнцыя Арганізацыі Аб'яднаных Нацый прыняла Парадак дзеяньняў на XXI стагодзьдзе па пераходзе да ўстойлівага разьвіцьця. Дасьледаваньні ў мінулым стагодзьдзі паказалі, што сучасныя тэндэнцыі разьвіцьця цывілізацыі пагражаюць чалавецтву поўным зьнікненьнем - глябальныя экалягічны, сацыяльны і энэргетычны крызысы лепшае гэтаму пацьверджаньне. Канцэпцыя ўстойлівага разьвіцьця ўключае ўсе аспэкты існаваньня і прагрэсу ды патрабуе прыняцьця неадкладных захадаў практычна ва ўсіх сфэрах - адукацыі, вытворчасьці, спажываньні, плянаваньні, энэргетыцы, транспарце, будаўніцтве і гэтак далей.

У 1996 годзе ўрад Беларусі распрацаваў Нацыянальную канцэпцыю і стратэгію ўстойлівага разьвіцьця, якую абяцаў выконваць. Пакуль выкананьне яе "завісла" на роўні дзяржаўных дэклярацыяў.

Як бачым, віцебская ініцыятыва - не арыгінальны прадукт, дый ня гэта галоўнае.

"У грамадзтве ў цэлым і ў "трэцім сэктары" ў прыватнасьці ёсьць патрэба ў нечым новым, канструктыўным, разумным, жывым, творчым, - кажа Людміла Бальшакова, старшыня Віцебскага гарадзкога аддзяленьня БАПЖ., - І вось яно ўзьнікла Адбылося тое, што павінна было нарэшце здарыцца. І ня варта гэтага баяцца".

Сапраўды, некаторыя назіральнікі досыць асьцярожна ставяцца да тэорыі ўстойлівага разьвіцьця, асабліва што тычыцца рэаліяў беларускага "трэцяга сэктару". Яны апасаюцца, што з паняткам "устойлівае разьвіцьцё" можа адбыцца тое, што адбылося зь ідэяй грамадзкай супольнасьці напрыканцы 90-х, калі яна была канчаткова дыскрэдытаванай і ўзгадвалася толькі падчас напісаньня background чарговага праекту.

Вадзім Баршчэўскі, старшыня віцебскага аддзяленьня Беларускай асацыяцыі журналістаў, згодны, што трэба працаваць у розных кірунках, але выказвае апасеньні, што "ўсё можа завяршыцца, як толькі затухне энтузіязм і скончацца грошы".

Нагадаем, што галоўны ініцыятар "Віцебскага парадку на XXI стагодзьдзе" Валеры Журакоўскі, кіраўнік "Прыватнай ініцыятывы" - далёка не апошняя фігура ў АГП: ён узначальвае абласную структуру згаданай партыі. Таму ў цэлым праект утварэньня новай кааліцыі, якая б шчыльна супрацоўнічала з уладамі і бізнэсам, не выходзіць па-за рамкі апошніх ідэй, што выказалі беларускія апазыцыянэры і, асабліва, кіраўніцтва Аб'яднанай грамадзянскай партыі. АГП, як памятаем, апошнім часам дэманструе імкненьне да канструктыўнага дыялёгу і супрацоўніцтва з уладамі. Партыя неаднаразова зьвярталася да дзяржаўных органаў рознага ўзроўню з разнастайнымі прапановамі.

Магчыма, на гэтым палітычная матываванасьць ўзьнікненьня кааліцыі не завяршаецца. Асобныя партыйныя і грамадзкія дзеячы бачаць у стварэньні "Віцебскага парадку на XXI стагодзьдзе" пачатак арганізацыі перадвыбарных блёкаў напярэдадні кампаніі ў мясцовыя Саветы.

Але ініцыятары новага саюзу грамадзкіх арганізацый кажуць, што новая кааліцыя - не палітычнае аб'яднаньне. Ейная мэта - пачаць дыскусію пра пляны на будучыню. Вынікі абмеркаваньня былі б адлюстраваныя ў перадвыбарных праграмах кандыдатаў.

"Калі мы хочам зрабіць працу, то трэба за яе брацца. І ня важна нават, калі гэта будзе зроблена пад выбары. Галоўнае, што гэта пойдзе на карысьць грамадзтву" - упэўненая Людміла Бальшакова.

Сп. Баршчэўскі больш стрыманы ў ацэнках пэрспэктываў: "Я думаю, што гэтая рэч не на выбары. Такая справа наўрад ці каму індывідуальна дапаможа ў перадвыбарнай кампаніі. Мяркую, што "Віцебскі парадак на XXI стагодзьдзе" калісьці нават адцягне ад выбараў".

Апроч таго, кааліцыянты бачаць у пляне ўстойлівага разьвіцьця Віцебска праграму працы для мясцовых дэпутатаў. Такім чынам, гэта будзе інструмэнт уплыву на ўладу ня толькі падчас выбараў, але й пасьля іх.

Так ці інакш, сп. Журакоўскі трымаецца думкі, што распрацоўка праграмы ўстойлівага разьвіцьця Віцебска запатрабуе вялікіх намаганьняў - адно складаньне пляну дзеяньняў зойме ня менш як год.

# ДВАЦЦАЦЬ ГОД ТАМУ
## працяг...

Алесь Бяляцкі

**У ліпені 1981 году нас, студэнтаў, адправілі на практыку ў піянэрскі лягер. У Клёнках пад Гомелем, на беразе Сожа, куды за паўстагодзьдзя да таго на плэнэр выяжджаў драматург, рэжысэр і мастак Уладзіслаў Галубок, я ўпершыню зразумеў, наколькі ўспрымальныя да мовы сямігадовыя дзеці. Праз тыдзень мой самы малодшы атрад на загад выхавацелькі ўзяць з сабой на пляж "полотенца" дружна крычаў у адказ: "Не полотенца, а ручнікі!". Ацаніў маю работу і выхавальнік-габрэй з суседняга атраду, настаўнік матэматыкі. Некалькі разоў ён асьцярожна скардзіўся: "Правільна робіце, малады чалавек, правільна. І вам, беларусам, цяжка, і нам, габрэям, таксама. Нашыя дзеці ня ведаюць ідыш, адмаўляюцца ад сваёй нацыянальнасьці, у інстытуты паступаюць адзінкі, толькі самыя падрыхтаваныя. Нас ня лічаць за людзей".**

А ў жніўні па запрашэньні Вінцука Вячоркі я паехаў на раскопкі ў Мірскі замак. Праводзіў раскопкі Ігар Чарняўскі, тады малады археоляг. Мы вялі раскопкі на дзядзінцы, а таксама пад вежамі й мурамі, аблазіўшы кожны закутак замку. Уражваў "пакой вавяра", да якога зь лёхаў быў доўгі зьвілісты праход, што выводзіў у маленькі пакойчык, літаральна метар на метар, з байніцай у цэнтральнай вежы. Найбольш цікавымі знаходкамі былі паліхромныя кафлі з радзівілаўскім гербам - арол са шчытом на грудзях, - у які былі ўпісаныя тры паляўнічыя рагі. Мы хадзілі на закінутыя татарскія, габрэйскія могілкі, залазілі ў закінуты касьцёл, у заняпалую каплічку на праваслаўных могілках, аглядалі майстэрні мірскіх ганчароў, з доўгімі падземнымі дымаходамі ад хатняй печы ў майстэрню, рабілі шурфы на цэнтральнай плошчы Міру, пакрытай брукам у некалькі слаёў, самы ніжэйшы і старажытны зь якіх знаходзіўся на двухмэтровай глыбіні. Гэта была нашая беларуская гісторыя, да якой можна было дакранууцца рукамі.

Аднойчы ў выходныя мы зь Вінцуком Вячоркам выехалі на роварах у Ішкалдзь, мястэчка за 15 кілямэтраў ад Міру, дзе знаходзіўся гатычны касьцёл XV стагодзьдзя, з заездам у мястэчка Паланэчку, дзе быў драўляны барочны касьцёл і палац.

Па дарозе Вінцук сказаў, што існуе падпольная група, якая паставіла сабе за мэту змагацца за незалежнасьць Беларусі і супраць камунізму. Ён запытаўся, ці не пагаджуся і я ўвайсьці ў групу, сябрамі якой ёсьць толькі праверaныя людзі - трэба было захаваць яе ад КДБ.

Я цудоўна ведаў, наколькі гэта небясьпечна. Па "Свабодзе" ўвесь час перадавалі інфармацыю пра расейскіх праваабаронцаў, пра ўкраінскіх і літоўскіх незалежнікаў, якія сядзелі ў турме. Хадзілі чуткі, што і ў Беларусі такіх групаў было шмат (на жаль, гэта было ня так). Тым ня менш, я разумеў, якое адказнае рашэньне павінен быў прыняць у той дзень. Бо за словам "так", верагодна, таксама былі допыты ў КДБ і ўсё астатняе, што выпісвалі тады людзям, якія змагаліся з камуністычным рэжымам. Я ўжо ведаў пра рэпрэсіі ў дачыненьні да дзядзькі Ігара - гісторыка Міхася Чарняўскага, які за некалькі гадоў перад гэтым пацярпеў "за беларушчыну". А з другога боку я адчуваў гонар за тое, што ўва мне бачылі асобу, вартую даверу. Было адчуваньне, што я скачу ў вялікую прорву. Было страшна, але ня бачыў іншага выйсьця: я разумеў, што для такой дзейнасьці мець у душы беларускасьць недастаткова - да яе трэба далучаць і ахвярнасьць. Але як можна было змагацца за Беларусь паасобку? І калі б такой групы не было, дык раней ці пазьней я сам прапанаваў бы яе стварыць. Таму з палёгкаю сказаў: "Так".

Калі я запытаўся, ці ўваходзіць у гэтую групу Ігар Чарняўскі, Вінцук адмоўна пакачаў галавой. Тым ня менш, нас траіх на тых раскопках аб'яднала адная таямніца, пра якую сёньня, мабыць, ужо можна напісаць. На замкавым дзядзінцы мы зрабілі раскоп метраў на пяць з паловай у глыбіню - шукалі мацерыковую глебу. Знайшлі яе, а таксама тонкі слой цёмнай глебы з кавалкамі керамікі яшчэ бронзавага веку, на які быў зроблены насып пры пабудове Мірскага замку. Аднойчы ўвечары на беразе замкавага возера каля вогнішча мы выпілі пляшку шампанскага, а пасьля склалі і запісалі тэкст "пасланьня", своеасаблівага прысяганьня, у якім абяцалі да канца жыцьця змагацца за незалежную Беларусь і супраць камуністаў. Падпісаўшы аркуш, мы залілі яго парафінам, скруцілі ў трубку і запячаталі ў пляшцы. Позьнім вечарам у раскопе зрабілі яшчэ глыбейшую ямку, у якой схавалі пляшку з "пасланьнем", вызначылі арыенцір, каб запомніць, у якім месцы дзядзінца яна ляжыць. А пасьля дамовіліся, што сваім сынам у іхнае шаснаццацігодзьдзе перадамо гэтыя арыенціры, каб яны ведалі пра "пасланьне" і пераянялі яго прынцыпы. Дарэчы, толькі ў Ігара Чарняўскага тады быў сын, які меў колькі месяцаў ад нараджэньня. Нават ня ведаю, ці езьдзіў Ігар са сваім Альгердам у Мірскі замак, але ў мяне такая паездка адбудзецца праз тры гады.

Там, у раскопе, сфатаграфаваў нас Ігар Гермянчук, практыкант у газэце "Голас Радзімы". Дзіва, як яму тады ўдалося зрабіць пра нашыя раскопкі фотарэпартаж.




У адведкі да Ігара Чарняўскага прыяжджаў Уладзя Арлоў. Да гэтага знаёмства я чытаў ягоныя першыя апавяданьні ў "Маладосьці" - адразу было відаць, што ў літаратуру прыйшоў яскрава таленавіты пісьменьнік. Нашае знаёмства зь ім пачалося з таго, што Уладзя выпхнуў у каршэнь з замку нейкага п'янога хлопца-местачкоўца. Арлоў прывёз Чарняўскаму зробленыя на фатаздымках самвыдат Міколы Ермаловіча "Па сьлядах аднаго міфа".

Тады ж я пазнаёміўся зь Ігаравым начальнікам - Анатолем Трусавым, які спрабаваў спалучыць беларускую работу зь сяброўствам у кампартыі. На гэты конт у іх была размова зь Вячоркам: той быў незадаволены пазыцыяй Трусава. Яны, даводзіў Анатоль, хочуць увайсьці ў партыю і там адстойваць інтарэсы беларушчыны. Але мы маем горкі досьвед дваццатых гадоў і ведаем, што ў выніку рабілі з нацыянальнымі камуністамі - Чарвяковым, Галадзедам, Ігнатоўскім. "Хутчэй партыя выкарыстае нас супраць беларусасьці, чым мы - партыю" - пярэчыў Трусаву Вячорка. Я быў зь ім згодны - прыйшоў час нонканфармізму. Я не разумеў, як можна было супрацоўнічаць з тымі, хто прыкладаў усе намаганьні, забараняў і хлусіў, каб затлуміць беларушчыну, зьнішчыць яе, перарабіць нас у савецкі народ.

На раскопках у Міры я пазнаёміўся з Генадзем Сагановічам, які прыехаў на пару дзён з групай студэнтаў-гісторыкаў. Яны ладзілі пасьвячэньне ў археолягі - сьвята з пераапрананьнем у старажытныя строі і жартаўлівымі іспытамі. Генадзь таксама на той час ужо быў беларускамоўным.

***

У гомельскім інтэрнаце па вуліцы Кірава, дзе я жыў у адным пакоі з Толікам Казловым (цяпер ён празаік), мы зьбіралі зацікаўленых студэнтаў, ладзілі прагляд слайдаў з вандровак па гістарычных беларускіх мясьцінах, сьпявалі беларускія песьні. З маладзейшых курсаў да нас далучыліся Вольга Куртаніч (цяпер паэтка) і Ліля Плыгаўка (цяпер дэкан факультэту беларускай філялёгіі ў Віленскім пэдагагічным унівэрсытэце).

Неяк перад сном я пераконваў Казлова, што рана ці позна Беларусь будзе незалежнай, але ён зь недаверам пярэчыў мне. Тады гэта ўяўлялася недасяжнай фантазіяй. У 1991-м, калі Беларусь сапраўды атрымала незалежнасьць, я з усьмешкаю згадваў нашыя спрэчкі. Хіба маглі мы падумаць, што пройдзе ўсяго дзесяць гадоў і нашыя юнацкія мары зьдзейсьняцца.

Дзеля папулярызацыі беларушчыны мы шукалі асьветніцкія і культурніцкія формы. Менавіта тады, у 1981 годзе, узьнікла ідэя стварыць беларускамоўны рок-гурт - мы назвалі яго "Баскі". Музыку і словы для гурту пісаў Едрусь Акулін. Былі выступы на ўнівэрсытэцкіх канцэртах, выезды на дыскатэкі ў Веткаўскі і Хойніцкі раёны, але не было ўпэўненасьці ва ўласных сілах - гурт распаўся, калі мы скончылі ўнівэрсытэт.

Таксама не зусім удалай была ідэя стварыць гомельскую "Майстроўню" на ўзор менскай. Мы зьбіраліся некалькі разоў, сьпявалі народныя песьні, на чым праца "Майстроўні"-2 ціха спынілася. Але гэтыя арганізацыйныя спробы прыдаліся пазьней, у другой палове 80-х.

Больш пасьпяхова ішла праца ў літаратурнай творчасьці. Кожны з нас штосьці пісаў. Добра памятаю першы пачуты верш Толіка Сыса, які ён прачытаў нам зь Едрусем Акуліным. Гэта быў верш пра забітага дэльфіна, які гойдаўся на сініх марскіх хвалях, а побач зь ім гойдаліся ягоныя мазгі. Мы доўга потым сьмяяліся з гэтага аж занадта натуралістычнага сюжэту. Але вядомасьць і папулярнасьць Анатоля на факультэце была вялікай. І тое, што ён, старэйшы за нас на два курсы, пісаў па-беларуску, а потым, прыгледзеўшыся да нас, перайшоў пад нашым уплывам з трасянкі на літаратурную мову, засьцерагала нас ад некаторых праблемаў з боку русафілаў.

У 82-м годзе мы зь Едрусем пераехалі зь інтэрнату на Кірава ў інтэрнат кватэрнага тыпу на Савецкай, дзе ў кватэры жылі сем студэнтаў. Да нас падсялілі эканаміста і трох гісторыкаў-першакурсьнікаў. Як жа зьдзівіліся гэтыя звычайныя хлопцы з гомельскіх вёсак і мястэчак, калі мы настойліва папрасілі іх размаўляць у кватэры па-беларуску. Менавіта тады мы пераканаліся, што незалежна ад поглядаў, грамадзкай актыўнасьці для нашых суграмадзянаў дастаткова аднаго дня, каб пры неабходнасьці пачаць размаўляць на роднай мове. Хутка яны й самі ўвайшлі ў смак. З гэтага часу на працягу двух гадоў 61-я кватэра ў інтэрнаце па Савецкай была своеасаблівым рассаднікам беларушчыны.

Мы зь Едрусем пайшлі яшчэ далей: даволі часта хадзілі на лекцыі ў звычайных куфайках з кірзавымі лесьнікоўскімі торбамі на баку, у вышытых беларускіх кашулях. На агульных з рускімі філёлягамі і гісторыкамі лекцыях даставалі з торбаў рэзальную дошку, сала, хлеб, наразалі яго і дэманстратыўна елі, а затым сьпявалі беларускія народныя песьні. Любімай нашай песьняй была "Валы". Такім чынам мы прывучалі ў асноўным гарадзкіх студэнтаў з суседніх аддзяленьняў да беларушчыны. Рэагавалі яны нармальна, разумеючы, што гэта ўсё, як цяпер кажуць, рабілася "па прыколу". Некаторыя гісторыкі і рускія філёлягі таксама размаўлялі з намі па-беларуску. Цудоўна размаўляў па-беларуску Лёня Клімовіч з рускага аддзяленьня філфаку, зараз вядомы па праграме "Что, где, когда".

Пазьней я са зьдзіўленьнем прачытаў пра "этнаграфізм" Каруся Каганца, беларускага пісьменьніка: шляхціц па паходжаньні, ён хадзіў па Менску, адмыслова апрануты ў беларускую народную вопратку. Так жа рабілі і мы. Гэта быў своеасаблівы пратэст супраць русіфікацыі беларускага грамадзтва, зьнявагі з усяго беларускага.

Мы былі першымі, хто з трэцяга курсу здаваў усе іспыты па-беларуску. Нават на нашым беларускім аддзяленьні большасьць прадметаў тады выкладалася па-расейску, таму нашая беларускамоўнасьць была пэўным выклікам выкладчыкам. Дзякуй Богу, большасьць зь іх паводзіла сябе шляхетна, некаторыя нават адкрыта падтрымлівалі і, прынамсі, не зьніжалі за мову адзнакі. Хаця і мы выдатна разумелі, што ня мусім даваць нагодаў для прыніжэньня беларушчыны праз непадрыхтаванасьць. Але пэўныя канфлікты на глебе беларушчыны ўсё ж адбываліся.

У канцы 82-га году ва ўнівэрсытэце адбылася канфэрэнцыя, прымеркаваная да выхаду кнігі гістарычных эсэ расейскага пісьменьніка У.Чывіліхіна. Погляд на расейскую гісторыю ў яго быў больш рускім, чым савецкім, што выклікала пэўнае зацікаўленьне і спрэчкі ў колах тагачаснай інтэлігенцыі. Я выпадкова патрапіў на гэтую канфэрэнцыю, хаця прачытаў быў перад гэтым Чывіліхіна і нават рабіў выпіскі, дзе ён трактаваў Вялікае княства Літоўскае як варожую для Расеі дзяржаву. Перапіска з Алегам Трусавым, ягоныя падказкі па бібліяграфіі, што да беларускай гісторыі, асобныя артыкулы М. Ермаловіча, А.Грыцкевіча, А.Мальдзіса, іншых беларускіх гісторыкаў далі мне фактычны грунт, каб казаць пра нашую гісторыю як пра гісторыю асобнай дзяржавы з уласнымі інтарэсамі ў мінулым.

Наколькі памятаю, размова на канфэрэнцыі ішла пра рускі патрыятызм, пра расейскую гісторыю, як быццам бы канфэрэнцыя адбывалася ня ў Гомелі, а дзе-небудзь у Яраслаўлі. У спрэчках выступіў і я, падкрэсліўшы, што гісторыя Расеі мангольскага пэрыяду - менавіта гэты пэрыяд у асноўным дасьледаваў У.Чывіліхін - зусім ня нашая гісторыя. Што тычыцца беларускай гісторыі, то аўтар тут вельмі далёкі ад аб'ектыўнасьці. Напрыканцы я закінуў аднаму з выступоўцаў, які казаў пра "прызваных у гомельскія ваенкаматы рускіх мальчыкаў, каторыя ваююць у Афганістане, абараняючы Расію", што ў яго "штосьці з геаграфіяй не ў парадку, бо дзе ён мог знайсьці гэтых "рускіх мальчыкаў" у беларускім Гомелі". Адзіны выступ па-беларуску падтрымалі апляадысмэнтамі. Але літаральна назаўтра ва ўнівэрсытэцкім калідоры мяне спыніла адна з выкладчыц расейскай мовы і пачала гістэрычна даказваць, што расейскую мову любяць нават віетнамцы, якім яна выкладала. На ейнае пытаньне, чаму гэта я не люблю гэтай мовы, я адказаў, што мне ўсё адно, што там любяць віетнамцы, але мяне больш турбуе лёс роднай мовы.

У гэты ж час прыяжджалі да нас з Наваполацку Алег Мінкін і Вінцэсь Мудроў, якія пасьля знаёмства з намі дзівіліся, што тут, у Гомелі, ёсьць нейкае беларускае жыцьцё і ёсьць іхныя аднадумцы.





# БЕРАЖЫЦЕ ПРЫРОДУ-МАЦІ

## [БЕЛАРУСЬ ПАКУЛЬ ДАЛЁКАЯ АД ОРХУСУ]

*Юрась Чавусаў*

**29-30 красавіка ў Львове адбыўся сэмінар "Доступ да правасудзьдзя па пытаньнях навакольнага асяродзьдзя", арганізаваны дабрачынным фондам "Экоправо-Львів" пры ўдзеле ГА "Экоправо" (Менск) і Цэнтру экалягічнага права (Вроцлаў) у рамках праграмы рэалізацыі палажэньняў Орхускай Канвэнцыі "Пра доступ да інфармацыі, удзел грамадзкасьці ў працэсе прыняцьця рашэньняў і доступе да правасудзьдзя па пытаньнях, зьвязаных з навакольным асяродзьдзем".**

**За складанымі фармулёўкамі хаваецца мэханізм таго, як кожны з нас можа паўплываць на навакольнае асяродзьдзе.**

### ЧЫМ ЁСЬЦЬ ОРХУСКАЯ КАНВЭНЦЫЯ

Орхуская Канвэнцыя - "найбольш амбітны і сьмелы праект у працэсе пабудовы "экалягічнай дэмакратыі" - так ахарактарызаваў яе генэральны сакратар ААН Кофі Анан. Канвэнцыя, якая разьвівае права грамадзянаў на ўдзел у фармаваньні і рэалізацыі экалягічнай палітыкі, вядзе да паляпшэньня навакольнага асяродзьдзя і спрыяе ўдзелу грамадзянаў у дэмакратычных працэсах.

Канвэнцыя была падпісаная прадстаўнікамі 35-ці краінаў Эўропы, Цэнтральнай Азіі і Эўразьвязам на Канфэрэнцыі міністраў у дацкім горадзе Орхус 25 чэрвеня 1998 году. 30 кастрычніка 2001 году Канвэнцыя была ратыфікаваная 17 дзяржавамі і набыла сілу.

Орхуская Канвэнцыя, у адрозьненьне ад іншых міжнародных пагадненьняў, была падрыхтаваная праз актыўную працу няўрадавых экалягічных арганізацыяў: міжнародная кааліцыя НДА "ЭкаФорум" брала ўдзел ў распрацоўцы праекту тэксту і ў прыняцьці яго канчатковай рэдакцыі. Паказальна, што зараз менавіта грамадзкія арганізацыі, каардынуючы ў міжнародным маштабе сваю дзейнасьць, прымушаюць урады сваіх краінаў належным чынам рэалізаваць палажэньні Орхуса. Беларусы ў гэтым сэнсе не выключэньне.

У Канвэнцыі апісаны мэханізм фармаваньня і рэалізацыі экалягічнай палітыкі праз супрацоўніцтва дзяржаўных органаў, няўрадавых арганізацыяў і простых грамадзянаў.

Краіны-ўдзельніцы, падпісваючы пагадненьне, прымаюць на сябе абавязкі:

- Зрабіць адкрытымі для грамадзкасьці дзяржаўныя дасье, якія ўтрымліваюць экалягічную інфармацыю;

- Дазволіць грамадзкасьці браць удзел у працэсе прыняцьця дзяржаўных рашэньняў і зрабіць гэты працэс адкрытым;

- Прадаставіць грамадзкасьці права прыцягваць да суду дзяржаўныя органы альбо прыватныя прадпрыемствы, калі яны хаваюць экалягічна значную інфармацыю, не дапускаюць удзелу грамадзкасьці альбо іншымі спосабамі парушаюць экалягічнае заканадаўства.

Канвэнцыя прызнае права кожнага на здаровае навакольнае асяродзьдзе. Для абароны гэтага права яна дае грамадзянам іншыя правы, якія павінны забясьпечваць права ведаць, права ўдзельнічаць, права зьвяртацца да суду.

### ПРАВЫ І ЯК ІМІ КАРЫСТАЦЦА

*Права на экалягічную інфармацыю*. Сфэра гэтых правоў надзвычай шырокая - ад права ведаць пра стан элемэнтаў навакольнага асяродзьдзя (вада, атмасфэра, глеба, ляндшафт) і прыродных аб'ектаў да веданьня роўню шуму каля ўласнага дома. Права на атрыманьне падобнай інфармацыі мае любы грамадзянін, любая юрыдычная асоба, якая лічыць сябе зацікаўленай у гэтай інфармацыі. Гэтыя асобы (г. зн. грамадзкасьць) не абавязаныя фармуляваць сваю зацікаўленасьць.

Да каго трэба зьвяртацца па экалягічную інфармацыю? Гэта, перш за ўсё, тыя органы, якія згодна з заканадаўствам павінны зьбіраць, аналізаваць і апрацоўваць экалягічную інфармацыю. У нашым выпадку гэта Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя, Міністэрства аховы здароўя і іншыя органы, якія валодаюць падобнага кшталту інфармацыяй. Любы дзяржаўны орган не пазьней як за адзін месяц пасьля запыту павінен даць адказ у форме, якая патрабуецца грамадзянінам, ці паведаміць, які орган можа адказаць на гэты запыт.

Запыт можа быць адхілены, калі ён сфармуляваны занадта агульна (напрыклад, "паведаміце мне пра стан навакольнага асяродзьдзя ў Берасьцейскай вобласьці") ці ў выпадках, калі такая інфармацыя - дзяржаўная ці камэрцыйная таямніца. Але вам як запытальніку "пашанцуе", калі ваш запыт тычыцца інфармацыі пра шкодныя выкіды - гэта ня тайна.

На жаль, Орхуская Канвэнцыя дазваляе нацыянальнаму заканадаўству ствараць перашкоды ў доступе да экалягічнай інфармацыі і адхіляць запыты на надуманых падставах. У любым выпадку, адмова ў прадастаўленьні інфармацыі павінна ўяўляць сабой пісьмовае абгрунтаваньне са спасылкамі на адпаведныя нормы заканадаўства ці Канвэнцыі.

У адпаведнасьці з артыкулам 5 Канвэнцыі, у выпадку ўзьнікненьня ў выніку чалавечай дзейнасьці альбо прыродных чыньнікаў небясьпекі здароўю чалавека ці навакольнаму асяродзьдзю, уся інфарамацыя, якая патэнцыйна можа дазволіць пазьбегнуць пагрозы шкоды, павінна неадкладна распаўсюджвацца кампэтэнтнымі дзяржаўнымі органамі сярод насельніцтва, закранутага небяспекай.

*Права грамадзкасьці* (любых фізычных і юрыдычных асобаў) *браць удзел у працэсе прыняцьця рашэньняў*. Гэтае палажэньне яскрава дэманструе, што Канвэнцыя належыць да ўзораў сучаснай дэмакратыі, якая па- ▸▸

трабуе прыцягненьня грамадзянскай супольнасьці да плянаваньня і праектаваньня дзейнасьці ўрадаў, да выпрацоўкі праектаў законаў і да т.п.

Зацікаўленая грамадзкасьць - гэта ўсе асобы, інтарэсы якіх могуць быць закранутыя наступствамі прыняцьця рашэньня. То бок экалягічныя НДА аўтаматычна адносяцца да зацікаўленай грамадзкасьці. На дзяржаўныя органы ўскладаецца абавязак напачатку працэдуры прыняцьця рашэньня па пытаньнях, датычных навакольнага асяродзьдзя, своечасова, адэкватна і эфэктыўна інфармаваць зацікаўленую грамадзкасьць адносна заплянаванай дзейнасьці.

Напрыклад, пры прыняцьці рашэньня пра пабудову нейкага прамысловага аб'екту ці пра пачатак любой іншай дзейнасьці, што ўплывае на стан наваколься, праз СМІ ці індывідуальна павінны быць прадстаўленыя: апісаньне прамысловага аб'екту і ягоных тэхнічных характарыстык, у тым ліку і прагназуемы ўзровень выкідаў; апісаньне мажлівага значнага ўзьдзеяньня на навакольнае асяродзьдзе; апісаньне сродкаў, накіраваных на памяншэньне ўзьдзеяньня, ў тым ліку выкідаў і да т.п. Пры гэтым грамадзтва мае права падаваць заявы, асобныя меркаваньні, інфармацыю і аналіз. Гэтыя факты павінныя адпаведным чынам адлюстроўвацца ў прынятым рашэньні.

Трэба адзначыць, што дзеяньне выкладзеных нормаў не абмяжоўваецца так званай "ацэнкай ўзьдзеяньня на навакольнае асяродзьдзе" ці экалягічнай экспэртызай. У першую чаргу Канвэнцыя патрабуе ўдзелу грамадзкасьці ў самім працэсе выдачы ліцэнзіяў ці дазволаў на ажыцьцяўленьне дзейнасьці.

Аналягічным чынам забясьпечваецца ўдзел грамадзкасьці ў падрыхтоўцы плянаў і праграмаў, якія датычацца навакольнага асяродзьдзя, а таксама і дзяржаўнай экалягічнай палітыкі.

_Доступ да правасудзьдзя_ - гэта трэці асноўны элемэнт Орхускай Канвэнцыі. Гэты разьдзел часьцяком разглядаецца як дадатковы, які забясьпечвае функцыянаваньне папярэдніх нормаў. Але варта памятаць, што толькі ўлік прававога мэханізму судовага ці адміністратыўнага разгляду парушэньняў Канвэнцыі дазваляе ў поўнай ступені карыстацца дадзенымі правамі.

Грамадзкасьць мае права зьвярнуцца ў суд ці іншы орган разгляду скаргаў з патрабаваньнем разгледзець выпадкі парушэньняў Канвэнцыі - асоба, якая незадаволеная вынікам разгляду свайго запыту па экалягічную інфармацыю, павінна мець доступ да судовага разгляду гэтай спрэчкі.

Хто мае права зьвярнуцца ў суд? Кожны чалавек, які запытваў інфармацыю, але не атрымаў яе, альбо атрымаў, на ягоную думку, не ў поўнай меры. Кожны чалавек, якому не дазволілі браць удзел у вырашэньні пытаньня, што ўплывае на навакольнае асяродзьдзе. Таксама такім правам валодаюць і прыродаахоўныя ГА. Пры гэтым Канвэнцыя гарантуе права звароту ў суд "зацікаўленай грамадзкасьці".

Істотным зьяўляецца палажэньне пра тое, што Канвэнцыя гарантуе доступ да правасудзьдзя ня толькі ў выпадках парушэньня нормаў самой Канвэнцыі, але і пры парушэньні нацыянальнага заканадаўства, незалежна ад таго, ці парушаецца пры гэтым права на інфармацыю і ўдзел грамадзкасьці.

Важным сродкам забесьпячэньня выкананьня экалягічнага заканадаўства можа быць папярэдняя судовая забарона. Напрыклад, падчас працэсу па спыненьні перавышэньня шкодных выкідаў прадпрыемства суд можа, па хадайніцтву істца, спыніць дзейнасьць прадпрыемства.




Магчымымі перашкодамі на шляху да правасудзьдзя ўдзельнікі львоўскай сустрэчы назвалі праблемы матывацыі насельніцтва (экалягічныя праблемы ўспрымаюцца як другарадныя, а страх і пасыўнасьць не спрыяюць абароне сваіх правоў), адукацыі грамадзянаў і чыноўнікаў (людзі ня ведаюць ня толькі Орхускай Канвэнцыі, але і асноўных экалягічных правоў, замацаваных Канстытуцыямі і базавымі законамі), інфармацыйнага поля (нацыянальныя СМІ зрэдку зьвяртаюць увагу на экалёгію, а дзяржава часьцяком зьмяшчае ілжывую інфармацыю), аматарскага роўню большасьці эколягаў і эка-НДА. Гэтыя праблемы збольшага зьяўляюцца агульнымі для краін Усходняй Эўропы.

Афіцыйны сайт Орхускай Канвэнцыі:
http://www.unece.org/env/pp/ (Тут Вы знойдзеце афіцыйныя тэксты Канвэнцыі на чатырох мовах (у тым ліку на расейскай).

Іншыя публікацыі па Орхусу глядзіце на:
http://www.rec.org/REC/Publications/
http://www.kiev2002.org/ru/prep/index.html
http://www.grida.no/soe/referenc.htm

Сайты арганізацыяў юрыстаў-эколягаў:
http://ecoharmony.org/ecoproject
http://ecopravo.lviv.ua/
http://www.geocities.com/ecopravo/index.htm
http://www.iatp.kharkov.ua/ecopravo
http://www.biotica-moldova.org
http://cpe.eco.org.pl

## НАШ РОДНЫ КУТ, ЯК ТЫ НАМ МІЛЫ?

Канвэнцыя ўступіла ў дзеяньне з 30 кастрычніка 2001 г., але да гэтага часу беларусы, чыя краіна, найбольш пацярпелая ад Чарнобылю, падпісала і ратыфікавала дакумэнт яшчэ ўвесну 2000 г., маюць мінімум уяўленьняў пра свае экалягічныя правы. А тым часам вядома, што наступствы чарнобыльскай катастрофы былі б менш маштабнымі, калі б дзяржаўныя органы своечасова паведамілі хаця б пра сам факт аварыі. ▸▸





У Беларусі працэс адаптацыі нацыянальнага заканадаўства да Канвэнцыі, уласна кажучы, адбыўся, але неяк незаўважна. Прынамсі, выкарыстаньне палажэньняў Орхусу абмежаванае тым, што было запісанае ў нацыянальным заканадаўстве. Так, людзі зьвяртаюцца па інфармацыю, але кіруюцца пры гэтым законамі пра ахову навакольнага асяродзьдзя і пра звароты грамадзян.

Не спрыяе паляпшэньню становішча і тое, што ў Беларусі адсутнічае трывалая сетка эколягаў-юрыстаў. Відаць што беларускаму ўраду яшчэ доўга ня будуць пагражаць праблемы ўкраінскага. Ва Ўкраіне і іншых краінах рэгіёну грамадзкія экалягічныя адвакатуры сталі дзейным сродкам, які проста прымусіў дзяржавы выконваць патрабаваньні Орхускай Канвэнцыі. Таксама вялікую ролю грае і інфарматыўная функцыя НДА, якія пашыраюць веды пра Канвэнцыю сярод насельніцтва.

Беларускія эколягі яшчэ толькі пачынаюць карыстацца Орхускімі нормамі, і наш досьвед тут небагаты. Але некаторыя дасягненьні ёсьць. Напрыклад, раней было невядома, хто павінен разглядаць зыскі, пададзеныя экалягічнымі НДА да іншых юрыдычных асобаў. Грамадзянскія суды не прымалі такія зыскі, бо спрэчкі паміж юрыдычнымі асобамі павінны вырашацца праз гаспадарчыя суды. У гаспадарчых судах адказвалі: "Мы ваш зыск ня возьмем, бо пра такія справы нават ня ўзгадваецца ў Гаспадарчапрацэсуальным кодэксе". Зараз Канстытуцыйны суд даў тлумачэньні, што такія спрэчкі павінен вырашаць усё ж такі Гаспадарчы. Лаўры такой маленькай перамогі належаць менскай ГА "Экаправа".

Практыка "Экаправа" паказвае, што большасьць беларускіх судзьдзяў нават і ня ведае пра існаваньне Орхускай Канвэнцыі. Вядома, гэта ня іх правіна - судзьдзя ня мусіць ведаць усяго заканадаўства. Больш непакоіць тое, што пра існаваньне Канвэнцыі ня ведаюць нават чыноўнікі - тыя, хто, у адпаведнасьці зь яе нормамі, нясе адказнасьць за яе выкананьне. Ня лепшым чынам інфармаваныя пра Орхус і экалягічныя НДА. Атрымліваецца, што Канвэнцыі ў Беларусі нібы няма. Будзем спадзявацца, хутка яе хаця б заўважаць.

КОНКУРС МОЛАДЗЕВАГА ІНФАРМАЦЫЙНАГА ЦЭНТРУ

## "ПАДТРЫМКА І РАЗЬВІЦЬЦЁ НЕЗАЛЕЖНЫХ МОЛАДЗЕВЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ У БЕЛАРУСІ"

**Умовы конкурсу:**
- Заяўкі прымаюцца ад зарэгістраваных і незарэгістраваных моладзевых аб'яднаньняў.
- Праекты прымаюцца толькі ад моладзевых арганізацыяў, дзейнасьць якіх распаўсюджваецца на канкрэтную лякальную мясцовасьць (мястэчка, раён, рэгіён і г.д.) альбо навучальную ўстанову.
- Дзеяньні кожнай арганізацыі мусяць быць накіраваныя на:
  - Падтрымку і абарону правоў моладзі;
  - Адукацыю лідэраў моладзевых грамадзкіх арганізацыяў;
  - На падтрымку выдавецкай дзейнасьці;
  - На захаваньне нацыянальнай культурнай і гістарычнай спадчыны.
- Тэрмін рэалізацыі праектаў - да 30 красавіка 2003 году.

**Сума грантаў мусіць быць да $1.500.**

**Інфармацыйная характарыстыка праекту:**
1. Назва праекту.
2. Назва арганізацыі альбо нефармальнай групы.
3. Імя і прозьвішча кіраўніка праекту.
4. Кантактны адрас, тэлефон, факс, e-mail.
5. Дата і месца рэгістрацыі або пастаноўкі на ўлік (для зарэгістраваных арганізацыяў і суполак).
6. Тэрмін выкананьня праекту і сума, якая запрошваецца.

**Заяўкі на грант мусяць уключаць наступныя разьдзелы:**
- абгрунтаваньне неабходнасьці фінансаваньня праекту (background);
- мэты праекту;
- апісаньне дзейнасьці (activity);
- якім вы бачыце працяг праекту (follow up);
- бюджэт з падрабязным апісаньнем кожнага артыкула (budget).

Заяўкі дасылаць толькі заказной поштай або прывозіць на адрас:
*вул. Дарашэвіча, д. 4, кв. 2, 220013, г. Менск.*
*Кожны заяўнік атрымае ад МІЦу афіцыйнае пацьверджаньне рэгістрацыі заяўкі на працягу тыдня ад моманту паступленьня заяўкі.*
*Кантактны тэлефон: (017) 219 47 11. Факс: (017) 239 31 17.*
*E-mail: yic@bsa.org.by*

Пажадана, каб арганізатары зьвярнуліся ў МІЦ па кансультацыю перад падачай заяўкі.
Апошні тэрмін падачы заявак - 2 чэрвеня 2002 году (уключна).
Вынікі конкурсу будуць вядомыя ў канцы чэрвеня 2002 году.

**Пры разглядзе заявак прыярытэт аддаецца:**
1. Арганізацыям зь невялікіх гарадоў і мястэчак.
2. Нованўзьніклым арганізацыям або арганізацыям, якія ня мелі падтрымкі ад спонсараў.
3. Праекты, якія не зьяўляюцца прыярытэтнымі для большасьці іншых фондаў, якія працуюць у Беларусі.
4. Праектам зь бюджэтам да $500.

**Не фінансуецца:**
- Набыцьцё аргтэхнікі (як правіла).
- Заробкі арганізатараў і ўдзельнікаў.

***Інфармацыя прадастаўленая МІЦам***

# ФОНД ГОТЛІБА ДАЙМЛЕРА І КАРЛА БЭНЦА

## маладым асьпірантам

**Фонд Готліба Даймлера і Карла Бэнца садзейнічае маладым асьпірантам у правядзеньні дасьледаваньняў у нямецкіх інстытутах. З гэтай мэтай штогод выдзяляюцца стыпэндыі па любых дысцыплінах і кірунках.**

Прэтэндэнты павінны прадставіць свой уласны праект ці праект, створаны ў супрацоўніцтве з арганізацыяй, якая прымае. Узрост кандыдата не павінен перавышаць 30 год. Апошнюю навуковую ступень (магістарскую ці спэцыяліста) кандыдат павінен атрымаць ня больш за год таму. Стыпэндыя прызначаецца на 2 гады. Трэці год можа фінансавацца толькі праз пазыку фонду.

Памер стыпэндыі - DM 1.500 марак штомесяц.

Тэрміны падачы заяваў - **1 красавіка і 1 кастрычніка.**

Пасьля папярэдняга адбору прэтэндэнты запрашаюцца на сэмінар у Ладэнбург (Нямеччына), дзе яны пэрсанальна прадставяць свае праекты. Тым стыпэндыятам, якія па фінансавых прычынах ня змогуць прыехаць на сэмінар, можа быць прысуджаная прэмія на 3 месяцы, каб яны маглі пачаць свой праект. Канчатковае рашэньне аб поўнай стыпэндыі прымаецца пасьля прадстаўленьня праекту на больш позьнім сэмінары ў часе знаходжаньня стыпэндыята ў Нямеччыне.

***Дадатковая інфармацыя: Міждзяржаўная асацыяцыя пасьлядыплёмнай адукацыі (Расея, Масква), тэл. (095) 434-24-38.***

*Паводле BARCnews*

*Грамадзкае аб'яднаньне "Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў" працягвае праграму, накіраваную на забесьпячэньне доступу некамэрцыйных арганізацыяў да кваліфікаванай юрыдычнай дапамогі ў рэгіянальных цэнтрах краіны. Мы рэкамэндуем вам зьвяртацца па прафэсійную падтрымку да:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Шалмакова Т. | Салігорск | Пр. (210) 2 06 22<br>Факс 2 00 59<br>Х. 2 37 47 | |
| Лапіцкі А. | Жодзіна | 8 (275) 75 91 0 | licviny@bzml.lingvo.minsk.by |
| Судаленка Л. | Гомель | 8 (029) 654 70 11<br>8 (0232) 55 13 78<br>55 93 71<br>77 70 38 | |
| Філіпская А. | Пінск | 8 (029) 653 13 36<br>8 (0165) 32 45 25 | pinsk2000@mail.ru |
| Малей У. | Берасьце | 8 (0162) 20 13 95 | |
| Жыжова А. | Віцебск | 8 (0212) 37 02 82<br>37 65 71 | alena__zhizova@mail.ru |
| Наваградзкі М. | Гарадзенская вобл.,<br>Воранаўскі р-н,<br>в. Заболаць | 8 (015) 949 72 99 | metok@pochtamt.ru |
| Клімчук Н. | Гародня | 8 (0152) 96 74 73<br>хатні: 25 01 45 | klimchuk@tut.by |
| Абадоўскі С. | Магілёў | 8 (029) 624 73 95 | mpc@krug.unibel.by |
| Гатавец А. | Бабруйск | 8 (02251) 47 25 3<br>пр.: 32 43 9<br>факс: 35 51 3 | compot@tut.by (для Гатавец) |
| Граблеўскі О. | Ворша | 8 (02161) 48 02 0<br>47 27 2<br>факс: 20 08 5 | oleggr@tut.by |





# ЩЕ НЕ ВМЕРЛІ

# УКРАІНСКІЯ ГА ДА І ПАСЬЛЯ ВЫБАРАЎ

***Увесну 2002 году беларускія НДА настальгічна скіроўвалі свае позіркі на Ўкраіну, якая перажывала тое, чым Беларусь жыла цягам лета 2001 году - выбарамі. Праўда, нашыя суседзі, калі заходзілі ў кабінкі для галасаваньня, сутыкаліся з праблемай выбару паміж сама мала пяцьцю кандыдатамі. Але досьвед выбараў дэпутатаў у Нацыянальную і мясцовыя Рады Ўкраіны тым больш цікавы для беларускага "трэцяга сэктару": калі пашанцуе, у 2003 годзе могуць адбыцца выбары ў мясцовыя саветы Беларусі. Мы папрасілі распавесьці пра сытуацыю ва ўкраінскім "трэцім сэктары" напярэдадні і падчас выбараў жытомірскага журналіста* Цімура НАГАЛЕЎСКАГА.**

**- Распавядзіце, калі ласка, пра выбарчую сыстэму Ўкраіны.**

- Выбары ў органы мясцовага кіраваньня праходзяць адпаведна з Законам Украіны "Аб выбарах дэпутатаў мясцовых радаў і сельскіх, гарадзскіх кіраўнікоў". Выбары адбываюцца паводле мажарытарнай сыстэмы. Высоўваньне кандыдатаў распачынаецца за 60 дзён і заканчваецца за 45 дзён да прызначанай даты выбараў. Высоўваньне кандыдатаў зьдзясьняецца праз зборы выбарцаў шляхам самавысоўваньня, мясцовымі асяродкамі палітычных партыяў ды грамадзкімі арганізацыямі (NGO).

31 сакавіка 2002 году мясцовыя выбары традыцыйна ладзіліся разам з парлямэнцкімі, таму камісіі ўсіх роўняў фармаваліся з прадстаўнікоў мясцовых асяродкаў палітычных партыяў згодна з Законам Украіны "Пра выбары народных дэпутатаў Украіны". Гэта значна дэмакратызавала выбарчы працэс у мясцовыя рады.

Сельскія, гарадзкія кіраўнікі абіраюцца наўпроставым галасаваньнем усёй тэрытарыяльнай грамадою. Старшыні раённых, абласных радаў абіраюцца на пленарных паседжаньнях большасьцю галасоў (50%+1голас) ад агульнай колькасьці дэпутацкага складу адпаведнай рады.

Дзейнасьць мясцовых радаў рэгулюецца Законам Украіны "Про місцеве самоврядування в Україні", дзейнасьць дэпутатаў радаў рэгулюецца Законам "Пра статус дэпутатаў радаў". Бюджэтныя адносіны рэгулююцца адпаведным кодэксам.

**- Што з сябе ўяўляе "трэці сэктар" Украіны на сёньняшні дзень?**

- Грамадзкія арганізацыі, як і палітычныя партыі, ва Ўкраіне дзейнічаюць на падставе закону "Пра аб'яднаньні грамадзянаў". Асобным заканадаўчым актам рэгулюецца і падтрымліваецца дзейнасьць моладзевых ГА.

Украінскія ГА падзяляюцца на праўладныя і незалежныя. Па вялікім рахунку такі статус вызначаецца кіраўніцтвам самой арганізацыі. Нямала арганізацыяў займаюцца разьвіцьцём мясцовага кіраваньня: арганізуюць адпаведныя сэмінары, круглыя сталы, падаюць у заканадаўчыя органы, парлямэнцкія камітэты прапановы па ўнясеньні зьменаў і дапаўненьняў у законы аб мясцовым кіраваньні. Так, улетку 2001 году быў падрыхтаваны законапраект з улікам прапарцыйных выбараў у мясцовыя рады. Гэта азначала, што права высоўваньня мелі тыя партыі, што выстаўляюць на выбары сьпісы сваіх кандыдатаў. Такі закон быў прыняты парлямэнтам краіны, але прэзыдэнт Леанід Кучма наклаў на яго вета, якое парлямэнт ня змог пераадолець.

**- Якую ролю адыгрывалі ўкраінскія NGO ў выбарах?**

- У сакавіцкіх выбарах NGO ўзялі досыць актыўны ўдзел. Па-першае, багата дзеячоў грамадзкіх арганізацыяў выступалі на выбарах як кандыдаты ў дэпутаты. Па-другое, сябры ГА зьдзяйсьнялі маніторынг выбарчай кампаніі, выстаўляючы сваіх назіральнікаў на выбарчыя ўчасткі. Падчас выбараў існавалі кааліцыі "За чесні выбори", "За прозорі выбори", "Центр політичної просвіти для молоді" і інш.

Наогул, украінскія ГА можна назваць прыпартыйнымі, таму да выбараў яны ішлі досыць падрыхтаванымі. Кожная партыя хацела мець пад сабою не адно, а некалькі ГА розных накірункаў дзейнасьці. Сябры арганізацый працавалі ў выбарчых штабах партый і блёкаў, ажыцьцяўляючы сувязі з грамадзтвам.

**- Ці маюць права NGO агітаваць за партыі ці кандыдатаў?**

- Так, маюць. Гэта іхная асабістая справа. ГА таксама маюць права браць фінансавы ўдзел у кампаніі кандыдата, але найчасьцей кандыдат робіць ахвяраваньні на дзейнасьць NGO.

**- Як востра паўставала на гэтых выбарах пытаньне фальсыфікацыяў?**

- Досыць востра. Назіральнікамі былі выяўленыя выпадкі фальсыфікацыяў, а пасьля яны былі задакумэнтаваныя і перададзеныя ў суды.

**- Якія адносіны скламіся ў NGO са СМІ падчас выбарчай кампаніі?**

- Плаціш грошы - друкуеш усё, што пажадаеш. Адмысловай, але натуральнай была пазыцыя дзяржаўнай

прэсы: у іх нельга было друкаваць інфармацыю, якая была накіраваная супраць прэзыдэнта Кучмы, Адміністрацыі Прэзыдэнта, але гэта можна было надрукаваць у апазыцыйных газэтах. Былі вялікія праблемы з радыё і тэлевізіяй, якія збольшага працавалі на дзейны палітычны рэжым.

Улада была актыўным суб'ектам выбараў, хоць гэта і забаронена законам. Таму яна працавала толькі са сваімі NGO.

**– Колькі кандыдатаў-сябраў NGO ці пэрспэктыўных лабістаў прайшло ў мясцовыя саветы?**

- Сярод 50-ці наноў абраных дэпутатаў Жытомірскай гарадзкой рады ёсьць восем прадстаўнікоў NGO, зь іх чацьвера - сябры моладзевых арганізацыяў.

***Напрыканцы красавіка прадстаўнікі беларускіх НДА былі запрошаныя ва Украіну, дзе мелі сустрэчы са сваімі ўкраінскімі калегамі, якія бралі ўдзел у сакавіцкай выбарчай кампаніі ў парлямэнт і мясцовыя органы кіраваньня. Сваімі ўражаньнямі ад сустрэчаў у Кіеве і Львове дзеліцца старшыня ГА "БНФ "Адраджэньне" Вінцук ВЯЧОРКА.***

**– Якая сытуацыі склалася ва Украіне да выбараў?**

- З аднаго боку, ва Украіне ёсьць тысячы зарэгістраваных няўрадавых арганізацыяў, асабліва лякальных, і многія зь іх эфэктыўна працуюць у сваіх галінах. Паводле Freedom House, 13,5% украінцаў ёсьць сябрамі пэўнай няўрадавай арганізацыі (невядома, праўда, ці ўваходзяць у іх лік прафсаюзы).

З другога боку, украінскія грамадзкія актывісты да гэтага часу не змаглі стварыць нічога нават аддалена падобнага да нашае Асамблеі. Няма там кааліцыяў няўрадавых арганізацыяў, скіраваных на дасягненьне дэмакратыі ў краіне, дый іншых вялікіх кааліцыяў таксама няма.

Зь няўрадавых арганізацыяў ва Украіне найлепш чуваць "мазгавыя цэнтры" (гэта больш дакладны пераклад ангельскага think tanks, чым прыняты ў нас варыянт "фабрыкі думкі"), напрыклад, кіеўскі Цэнтар эканамічных і палітычных дасьледаваньняў імя Разумкова. Але яго абазнанасьць у значнай ступені вынікае з блізкасьці да дзяржаўных сілавых структураў.

Гэтак званыя рэсурсавыя цэнтры адыгрываюць пэўную ролю ў сваіх рэгіёнах, але ня гэткую значную, як у нас. Станоўчы прыклад - Товариство Лева ў Львове, якое было арганізатарам 17-й Сустрэчы Цэнтраў плюралізму (CfP) у красавіку сёлета. Але ў іх зноў жа няма сваёй сеткі аднадумцаў.

Дарэчы, Цэнтрам плюралізму ва Украіне не шанцуе. Інстытут Пылыпа Орлыка, які спачатку быў украінскім апорным пунктам CfP, спыніў існаваньне. Потым Інстытут дзяржаўнасьці й дэмакратыі замарозіў дзейнасьць пасьля сыходу яго дырэктара Івана Лазавога на дзяржаўную службу. Цяпер вось Товариство Лева бярэцца. Пабачым.

**– Якая роля адводзіліся НДА падчас перадвыбарчай кампаніі?**

- Украінскія няўрадавыя арганізацыі агульнаграмадзкіх кірункаў дзейнасьці рыхтаваліся да выбараў па-рознаму. Некаторыя, асабліва г.зв. BuNGO (Business NGOs), разглядалі выбары як магчымасьць банальна падзарабіць на агітацыйнай кампаніі. Некаторыя няўрадавыя арганізацыі былі выкарыстаныя для палітычнай барацьбы ўладамі. Так, пэўныя жаночыя арганізацыі зарэгістраваліся як блёкі (напр., "Жанчыны за будучыню"), і лідэры "Нашай Украіны" меркавалі, што рабілася гэта з мэтаю забраць галасы ў блёку Юшчанкі.

Было цікава прачытаць у газэце ровенскага аддзелу вядомага ў нас Камітэту выбарцаў Украіны, што кучмаўскі блёк За єдину Україну (у народзе - За єдУ) таксама дзяржаўніцкі. Думаю, гэта тлумачыла, чаму КВУ стараўся захоўваць бесстароннасьць ва ўмовах відавочнага адміністрацыйнага ціску на выбарнікаў.

Прыпартыйныя няўрадавыя арганізацыі (як Фонд падтрымкі рэформаў І.Грыніва з партыі "Рэформы й парадак") працавалі на свае партыі.

**– Ці існавала нейкая агульная стратэгія ўдзелу ўкраінскіх ГА ў выбарах?**

- Што тычыцца агульнанацыянальнай мабілізацыйнай кампаніі, то яе не было. Былі спрэчкі, ці яна трэба. Прыкладам, мы сталі сьведкамі палемікі паміж прадстаўнікамі дзьвюх арганізацыяў крымскіх татараў. Адны, капіюючы сэрбаў, вырашылі праводзіць татальную мабілізацыйную кампанію ў вёсках. Другія слушна заўважылі, што крымскі сельскі электарат прыйдзе на выбары і так - і прагаласуе за камуністаў і прарасейскія сілы. Так што выбарчай стратэгіі НА не было.

**– Наколькі я ведаю, самым распаўсюджаным варыянтам супрацоўніцтва паміж прадстаўнікамі НДА і кандыдатамі было прасоўваньне сваіх інтарэсаў.**

- Так. Мы чулі, як на дзіва аднолькава прадстаўнікі рэсурсавых цэнтраў Луганска й Роўнага "нападалі" на Тараса Чарнавола (дэпутата ад "Нашай Украіны"): "Што вы нам дасьцё? Ці дасьцё грамадзкім арганізацыям дзяржаўныя грошы? Дасьцё - будзем за вас агітаваць". Нязвыкла было гэта чуць, бо мне ўсё ж здаецца, што на постсавецкай прасторы, у тым ліку ва Украіне, патрэбныя рашучыя крокі дзеля незваротнасьці дэмакратычных рэформаў і замацаваньня незалежнасьці нашых дзяржаваў. Такі прыватны лябізм, магчыма, дарэчны дзе-небудзь у Брытаніі, але ня тут.

**– Наколькі актуальнай была для ўкраінскіх выбараў праблема фальсыфікацыяў?**

- Украінскія наглядальнікі ад партыяў і НА найперш кажуць пра "адмінрэсурс": агітацыя за дзяржаўны кошт; завоз людзей з правінцыі з адмацаванымі талёнамі галасаваць у гарады; фальсыфікацыі на этапе перадачы зьвестак "угару"; укідваньне бюлетэняў. Вынікі фальсыфікацыяў ацэньваюць на 5-7%. Але параўнаньня з намі ня можа быць: у іх у камісіях было поўна людзей з розных партыяў, і адсотак фальсыфікаваньня ў нас у 5-6 разоў большы.

**– Сп. Вячорка, ці павінныя, на Вашую думку, беларускія НДА браць удзел у мясцовых выбарах? Якім чынам павінна выбудоўвацца стратэгія паводзінаў арганізацыяў на мясцовых выбарах?**

- Павінныя - менавіта як дэмакратычныя няўрадавыя арганізацыі, што разам з калегамі па шырокай кааліцыі удзельнічаюць у падрыхтоўцы й правядзеньні кампаніяў узьнясеньня й вырашэньня мясцовых праблемаў. Вучачы, дасьледуючы, ладзячы акцыі. Але кандыдатаў хай выстаўляюць тыя, каму гэта належыць - партыі.



СУСЕДЗІ

## ІНСТРУКЦЫЯ ДЛЯ НДА

# ЩО РОБИТИ?

*Анатоль Ткачук,*
*удзельнік выбарчых гонак з 1989 году,*
*народны дэпутат Украіны 1990-1994 гг.;*
*Старшыня Інстытуту грамадзкай супольнасьці*

*"Ну чертовски хочется поработать..."*
*(мудрасьць члена Палітбюро часоў Перабудовы)*

**1. Стань люстрам!**

Дэмакратыя - гэта магчымасьць выбраць найлепшага з множства падобных. Але як можна выбраць найлепшага, калі ня ведаеш параліку "множства падобных" і ня маеш магчымасьці пагледзець на кожны з аб'ектаў множства пад розным вуглом?

Як наш выбаршчык можа зрабіць выбар, калі некаторыя партыі й палітыкі стаяць "па-за законам", ім не даюць выступаць ні па радыё, ні па тэлевізіі, ні ў прэсе, у той час як "выбраныя" не вылазяць з тэлеэкрану?

Таму грамадзкая аргнізацыя павінна быць люстрам, у якім выбаршчык зможа ўбачыць палітыка ці партыю ў поўнай іхнай красе. Арганізацыя ня кажа, што вось гэта - наш сябар, таварыш і брат, а гэта - вораг. Выбарцы павінны вызначацца самі, а ГА - даваць аб'ектыўную інфармацыю.

Гэта звычайна складана, ня ўсім гэта пад сілу, гэта ня вельмі бясьпечна, але як прыемна!

**2. Прымусь палітыка ўключыць у праграму абяцанкі, якія супадаюць з мэтамі тваёй арганізацыі.**

Кандыдаты ладзяць сустрэчы з выбаршчыкамі, выступаюць у адкрытых тэле- і радыёдэбатах. Гэта дае шанец дасьведчаным арганізацыям так павесьці ход публічнай сустрэчы, задаваць такія пытаньні, што палітык будзе згодны з вашымі ідэямі і вымушаны будзе адкрыта пра гэта засьведчыць. Запішыце дату і месца абяцанкі, якую даў палітык. Гэта дапаможа вам у вашай дзейнасьці, асабліва калі кандыдат пераможа.

Аргумэнтаваць свае вымогі па прасоўваньні досыць проста: "Калі ў вашай праграме няма (тут трэба ўказаць, чаго канкрэтна), значыць, вы ня думаеце пра ўсіх выбаршчыкаў (народ), значыць, вашая ідэалёгія ня можа быць падтрыманая сябрамі нашай арганізацыі".

Праўда, існуе небясьпека, калі зьбіраюцца грамадзкія арганізацыі і прылюдна кажуць, што падтрымліваюць выбарчы блёк "А" яшчэ да таго, як гэты самы блёк агалошвае сваю перадвыбарчую праграму. І сьмех і грэх: як потым тлумачыць сваім сябрам па арганізацыі, што ў дадзенай праграме няма нічога, што супадала б з мэтамі арганізацыі...

**3. Хочаш якога-кольвек кандыдата "патапіць" - тапі, хочаш хваліць - хвалі, але рабі гэта як прыватная асоба.**

Партыю ці блёк могуць падтрымліваць сябры арганізацыі як грамадзяне Украіны, а не арганізацыя як юрыдычная асоба. Які-небудзь сябар якой-небудзь арганізацыі як грамадзянін Украіны мае права браць удзел у выбарчай кампаніі у якой-небудзь іпастасі ў рамках закону. Ня варта на этапе кампаніі прывязваць свой удзел у працы штабу кандыдата ці ў якасьці агітатара да дзейнасьці сваёй арганізацыі. Лепей пра гэта весьці размову пасьля выбараў і ў тым выпадку, калі ваш кандыдат пераможа.

**Грамадзкая арганізацыя павінна быць люстрам, у якім выбаршчык зможа ўбачыць палітыка ці партыю ў поўнай іхнай красе.**

Калі арганізацыя ёсьць суб'ектам выбарчага працэсу на мясцовых выбарах, то яна можа высоўваць і агітаваць за сваіх кандыдатаў. На нацыянальным роўні, дзе круцяцца асноўныя грошы і дзе сапраўды можна зарабіць, напрыклад, на арэндзе сваёй тэхнікі пад выбарчыя справы, можна атрымаць велічэзныя непрыемнасьці з боку і падаткавай адміністрацыі, і пракуратуры, і рэгіструючых органаў.

**4. Хто каму плаціць: партыя – грамадзкай арганізацыі ці наадварот (пытаньне рытарычнае, але досыць важнае)?**

Украінскае заканадаўства ў прынцыпе дазваляе фінансаваць партыям арганізацыі і наадварот, але... Варта памятаць, што закон пра палітычныя партыі забараняе фінансаваньне партый замежнымі дзяржавамі і іхнымі грамадзянамі. Апроч таго, закон "Аб выбарах народных дэпутатаў Украіны" дае забарону, якая тычыцца фармаваньня выбарчага фонду партыі ці кандыдата. Таму варта дакладна ведаць: калі вы маеце замежныя, перадусім грантавыя, грошы, не намагайцеся фінансава дапамагаць ні партыям, ні кандыдатам!

Тыповая сытуацыя. ГА атрымала грант і арганізуе навучаньне для выбарчага штабу кандыдата ці блёку "А". Ці гэта фінансаваньне? Вы думаеце, што не, але ці думаюць так кантралюючыя органы? Навучаньне - гэта паслугі, паслугі маюць вартасны кошт, штаб іх не аплачвае, бо выдаткі аплачаныя замежным грантам... Фактычна штаб атрымаў фінансаваньне за кошт замежнікаў. Давесьці адваротнае будзе вельмі складана. Лепей дапамагай выбаршчыкам распазнаць "лахатрон". Напрыклад, чалавек балатуецца ў мясцовую раду і першым пунктам праграмы зазначае: "Вярну ўклады насельніцтву." Ну хлусіць жа людзям, бо ён у прынцыпе ня можа гэтага зрабіць - не ягоная кампэтэнцыя! Але людзі хочуць мець надзею і галасуюць за хлуса, а пасьля маюць яшчэ болей расчараваньняў.

Дайце людзям інструмэнт, як распазнаць сярод палітыкаў "лахатроншчыкаў" па іхных праграмах.

***Пераклад з украінскай (паводле www.irf.kiev.ua)***

# ПАДАТКААБКЛАДАНЬНЕ

## ЗАМЕЖНАЙ БЯЗВЫПЛАТНАЙ ДАПАМОГІ

**Вольга Смалянка,**
*ГА "Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў",*
islr@infonet.by

***Адной з крыніцаў фармаваньня сродкаў і маёмасьці грамадзкага аб'яднаньня ў адпаведнасьці з Законам РБ "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях" ад 4 кастрычніка 1994, N 3254-XII (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 22 чэрвеня 2001) зьяўляюцца добраахвотныя ахвяраваньні. Большая частка некамэрцыйных арганізацыяў існуе толькі за кошт ахвяраваньняў, якія прадастаўляюць замежныя юрыдычныя і фізычныя асобы, за г.зв. "замежную бязвыплатную дапамогу" (ЗБД).***

***У адпаведнасьці з заканадаўствам РБ, замежная бязвыплатная дапамога (ЗБД) - гэта грашовыя сродкі, у тым ліку ў замежнай валюце, тавары (маёмасьць), якія бескарысна прэзэнтуюцца ў карыстаньне, валоданьне, выкарыстаньне юрыдычнымі і фізычнымі асобамі РБ, замежнымі дзяржавамі, міжнароднымі арганізацыямі, замежнымі арганізацыямі і грамадзянамі, а таксама асобамі без грамадзянства і ананімнымі ахвярадаўцамі. Гуманітарная дапамога зьяўляецца складовай часткаю ЗБД.***

Асноўнымі нарматыўнымі актамі, якія рэгулююць пытаньні падаткаабкладаньня ЗБД, ёсьць:

1. Пагадненьне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Праграмай разьвіцьця ААН (ПРААН) ад 24.09.1992 (Закон аб ратыфікацыі №318-З ад 09.11.1999 г.);

2. Пагадненьне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Ўрадам ЗША, што тычыцца супрацоўніцтва па аблягчэньні прадастаўленьня дапамогі ад 18.07.1996 (Закон аб ратыфікацыі №8-З ад 07.02.1997);

3. Мэмарандум аб фінансаваньні паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Камісіяй Эўрапейскіх Супольнасьцяў (са зьменамі і дапаўненьнямі) з дадаткамі (не праходзілі працэдуру ратыфікацыі);

4. Дэкрэт Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь № 8 ад 12.03.2001 г. "Аб некаторых мерах па ўдасканаленьні парадку атрыманьня і выкарыстаньня ЗБД";

5. Пастанова Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь № 1145 ад 06.08.2001 "Аб ухвале праграмаў дапамогі ЗША, якая прадастаўляецца Рэспубліцы Беларусь";

6. П. 1.8.1. арт. 4 Закону Рэспублікі Беларусь "Аб падатку на даданы кошт " ад 19 сьнежня 1991 г. N 1319-XII (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 8 студзеня 2002 г.);

7. П. 1.16 арт. 3 Закону Рэспублікі Беларусь "Аб падаходным падатку зь фізычных асобаў" ад 21 сьнежня 1991 г. N 1327-XII (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 8 студзеня 2002 г.);

8. Дэкрэт Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь № 11 ад 19.04.2002 г. "Аб адмене індывідуальных ільготаў па падатках, зборах і мытных плацяжах і аб удасканаленьні дзяржаўнай падтрымкі юрыдычных асобаў і індывідуальных прадпрымальнікаў ".

### ПАДАТКААБКЛАДАНЬНЕ ЗБД

Кажучы пра падаткаабкладаньне ахвяраваньняў (грантаў), якія прадастаўляюцца беларускім ГА замежнымі юрыдычнымі і фізычнымі асобамі, неабходна падзяляць:

1) ЗБД, якая прадастаўляецца па праектах і праграмах, ухваленых Прэзыдэнтам і Ўрадам РБ, а таксама ў адпаведнасьці зь міжнароднымі дамовамі РБ;

2) ЗБД, якая прадастаўляецца іншымі асобамі, напрыклад, прыватнымі фондамі.

Разгледзім кожны з прыведзеных варыянтаў.

1) Разглядаючы пытаньне пра падаткаабкладаньне ЗБД, якая прадастаўляецца па праектах і праграмах, ухваленых Прэзыдэнтам і Ўрадам РБ, а таксама ў адпаведнасьці зь міжнароднымі дамовамі РБ, неабходна, перш за ўсё, улічваць палажэньні дадзеных міжнародных дамоваў.

Да ліку такіх міжнародных дамоваў можна аднесьці Пагадненьне паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Ўрадам ЗША, што тычыцца супрацоўніцтва па аблягчэньні прадастаўленьня дапамогі ад 18.07.1996 (Закон аб ратыфікацыі № 8-З ад 7 лютага 1997 году). У адпаведнасьці з дадзеным пагадненьнем тавары, пастаўкі ці іншая маёмасьць, якія прадастаўляюцца ці выкарыстоўваюцца ў сувязі з ажыцьцяўленьнем праграмаў дапамогі ЗША, могуць увозіцца, вывозіцца ці выкарыстоўвацца ў Рэспубліцы Беларусь вольна ад уплаты любых ставак, збораў, мыты, імпартовых падаткаў і іншых падобных падаткаў ці збораў, якія прымяняюцца ў Беларусі. Бакі разумеюць, што палажэньні дадзенага пункту забясьпечваюць вызваленьне ад абкладаньня любымі падаткамі і зборамі, уключна з падаткамі на дабаўлены кошт на пакупкі, зробленыя ў Беларусі, з мэтай выкананьня праграмаў дапамогі Злучаных Штатаў Амэрыкі. Такім чынам, падатак на дабаўлены кошт, які сплочаны з абаротаў па рэалізацыі (абмене, бязвыплатнай перадачы) тавараў (работаў, паслугаў) на тэрыторыі РБ пры выкарыстаньні сродкаў у рамах праграмаў дапамогі ЗША мусіць пакрывацца. Неабходна разумець, што ў адпаведнасьці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь да маёмасьці адносяцца таксама грашовыя сродкі.

Пастановай Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 06.08.2001 г. № 1145 "Аб ухваленьні праграмаў дапамогі Злучаных Штатаў Амэрыкі, якая прадастаўляецца Рэспубліцы Беларусь " вызначаныя наступныя праграмы дапамогі (***глядзі табліцу***).

У рамах Мэмарандуму аб фінансаваньні, падпісаным Урадам РБ і Камісіяй Эўрапейскіх Супольнасьцяў, і агульных правілаў, якія ўжываюцца да Мэмарандуму аб фінансаваньні, фізычныя і юрыдычныя асобы, уключаючы служачых-экспатрыянтаў, якія працуюць па кантрактах тэхнічнага супрацоўніцтва, што фінансуюцца з субсыдыяў ЭС, вызваляюцца ад наступных уплатаў, якія зьбіраюцца ў РБ урадам ці якім-кольвек падначаленым яму органам:

- адлічэньняў на сацыяльнае страхаваньне (г.зн. адлічэньняў у Фонд сацыяльнай абароны на- ▸▸

| № | Назва праграмы | Арганізацыя, адказная за выкананьне праграмы | Мэта праграмы |
|---|---|---|---|
| 1 | Цэнтральна- і Ўсходнеэўрапейская прававая ініцыятыва | Амэрыканская асацыяцыя адвакатаў / Цэнтральна- і Ўсходнеэўрапейскі прававы інстытут *(American Bar Association/Central East European Law Institute)* | Дапамога дзяржаўным і недзяржаўным арганізацыям у іх вымаганьнях па паляпшэньні прававога навакольля праз арганізацыю канфэрэнцыяў, сэмінараў, лекцый, праз ажыцьцяўленьне тэхнічнай дапамогі |
| 2 | Валянтэры ў замежнай сумеснай дапамозе | Міжнародная асацыяцыя разьвіцьця супрацоўніцтва ў вобласьці сельскай гаспадаркі / Валянтэры ў замежнай сумеснай дапамозе *(Agricultural Cooperative Development International/ Volunteers in Overseas Cooperative Assistanse)* | Кансультацыі ў вобласьці ўмацаваньня пазыцыяў жанчынаў у эканоміцы і навучаньне навыкам лідэрства |
| 3 | Валянтэры ў аграрнай справе | Грамадзкая супольнасьць па міжнародных справах *(Citizens Network for Fo-reign Affairs)* | Садзейнічаньне беларускім фэрмерам і прадпрымальнікам у вобласьці аграрнай справы ў павелічэньні іх прыбыткаў ад рынкава арыентаванай дзейнасьці праз навучаньне стварэньню асацыяцыяў, кіраваньню фэрмэрамі і бізнэсам, стварэньню каапэратываў і паляпшэньню вытворчасьці |
| 4 | Праграма дапамогі "Каўнтэрпарт" | Альянс Партнэрства "Каўнтэрпарт" *(Counterpart Alliance for Partnership)*; Праграма гуманітарнай дапамогі "Каўнтэрпарт" *(Counterpart Humanitarian Assistance Program)* | Аказаньне гуманітарнай і тэхнічнай дапамогі беларускім арганізацыям і грамадзянам праз праграмы выдачы грантаў і адукацыйнае навучаньне |
| 5 | Разьвіцьцё малога і сярэдняга бізнэсу ў Беларусі | Міжнародная фінансавая карпарацыя *(International Finance Corporation)* | Падтрымка стварэньня спраўных асацыяцыяў, перадача прававой інфармацыі і аказаньне кансультацыйных паслугаў прыватным кампаніям і прадпрымальнікам |
| 6 | Інтэрньюс Нэтуорк | Інтэрньюс Нэтуорк *(Internews Network)* | Разьвіцьцё прафэсійных магчымасьцяў і дасьведчанасьці працаўнікоў незалежных беларускіх тэлестанцыяў у тэлевізійнай журналістыцы, падтрымка стварэньня асацыяцыяў |
| 7 | Айрэкс Прамэдыя | Рада міжнародных дасьледаваньняў і абменаў *(International Research and Exchanges Board)* | Разьвіцьцё прафэсійных СМІ праз умацаваньне прафэсійных навыкаў, вывучэньне заканадаўства пра СМІ, тэхнічную дапамогу, перадачу досьведу працы ў вобласьці навыкаў "он-лайн" і дзейнасьць інфармацыйных цэнтраў |
| 8 | Ініцыятыва па сацыяльных дзеяньнях і абнаўленьні ў Эўразіі | Ініцыятыва па сацыяльных дзеяньнях і абнаўленьні *(Initiative on Social Actions and Renewal)* | Падтрымка арыентаваных на мясцовы ровень праектаў арганізацыяў, якія працуюць у вобласьці аховы навакольнага асяродзьдзя праз выдачу малых грантаў |
| 9 | Праграма Фонду прадпрымальніцтва для заходніх новых незалежных дзяржаваў | Фонд прадпрымальніцтва для заходніх новых незалежных дзяржаваў *(Western Newly Independant States Enterprise Fund)* | Падтрымка разьвіцьця малых і сярэдніх прыватных прадпрыемстваў праз забесьпячэньне фінансаваньня і сродкаў кіраваньня для пашырэньня прыватнага прадпрымальніцтва |

сельніцтва);

- падатку на дзейнасьць прадпрымальніка (г.зн. падатку на прыбытак) і падаходнага падатку ці збораў аналягічнага характару з прыбытку, які атрыманы ад Супольнасьці ці арганізацыі, зь якой супольнасьць заключыла кантракт, за дзейнасьць, прадугледжаную Мэмарандумам аб фінансаваньні КЭС.

Трэба зьвярнуць увагу кіраўнікоў грамадзкіх аб'яднаньяў, якія працуюць па праграме TACIC, на той факт, што сродкі Фонду сацыяльнай аховы насельніцтва Міністэрства накіроўваюцца ў тым ліку на:

-выплату пэнсіяў па ўзросьце, па інваліднасьці, па выпадку згубы карміцьца, за выслугу гадоў;

-выплату дапамогі па дзяржаўным сацыяльным страхаваньні (па часовай непрацаздольнасьці, па цяжарнасьці і родах, у сувязі з нараджэньнем дзіцяці, у сувязі з доглядам за дзіцем да дасягненьня ім узросту трох гадоў, на пахаваньне і да т.п. ).

Такім чынам, з заробку працаўнікоў, зь якімі заключаная працоўная дамова па асноўнай працы, для непагаршэньня іх стану, лепей рабіць адлічэньні ў Фонд сацахоўы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны РБ.

Заключаная Дамова паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Праграмай разьвіцьця ААН (ПРААН) ад 24.09.1992 (Закон аб ратыфікацыі №318-З ад 09.11.1999 г.). У дадзенай Дамове няма ўзгадак пра падатковыя ільготы, як ва ўказаных вышэй актах. Але практыка паказвае, што падатковыя ільготы ГА-атрымальнікам ЗБД па праграмах ААН ёсьць.

Хацелася б яшчэ раз падкрэсьліць, што сродкі, якія паступаюць беларускім ГА ад узгаданых вышэй арганізацыяў на выкананьне праграмаў, не абкладаюцца падаткам на прыбытак і мясцовымі падаткамі і зборамі (напрыклад, транспартным зборам).

У адпаведнасьці з тлумачэньнямі інспэкцыяў Міністэрства па падатках і зборах, для атрыманьня падатковых ільготаў гэтым грамадзкім аб'яднаньням трэба прадаставіць у падатковы орган па месцы рэгістрацыі заяву ў адвольнай форме з указаньнем, што грашовыя сродкі атрыманыя ад замежнай арганізацыі ў рамах праграмы дапамогі ЗША (напрыклад) і ўказаць назву праграмы.

У адпаведнасьці з Дамовай аб сумеснай дзейнасьці ў адносінах да гуманітарнай дапамогі, якая паступае з-за мяжы (ратыфікавана 10 чэрвеня 1993 году), заключанаи паміж Урадамі Азэрбайджанскай Рэспублікі, Рэспублікі Армэнія, Рэспублікі Беларусь, Рэспублікі Казахстан, Рэспублікі Кыргызстан, Рэспублікі Малдова, Расейскай Фэдэрацыі, Рэспублікі Таджыкістан, Рэспублікі Ўзбэкістан, Украіны грузы, якія маюць характар гуманітарнай дапамогі, і асобы, якія іх суправаджаюць, вызваленыя ад мытных пошлінаў, падаткаў і збораў.

Неабходна таксама нагадаць, што заканадаўства Рэспублікі Беларусь устанаўлівае таксама агульныя ільготы для атрымальнікаў ЗБД.

У адпаведнасьці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб падаходным падатку зь фізычных асобаў " не трапляюць пад падаткаабкладаньне тэхнічная дапамога і іншыя віды ЗБД, якія прадастаўляюцца фізычным асобам па праектах і праграмах, ухваленых Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь ці Ўрадам РБ, а таксама ў адпаведнасьці зь міжнароднымі дамовамі Рэспублікі Беларусь.

Пры ўвозе на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь ад уплаты на дабаўлены кошт вызваляюцца тавары (за выключэньнем падакцызных), набытыя на сродкі ЗБД, якая аказваецца за кошт замежных дзяржаваў ці міжнародных арганізацыяў у парадку, вызначаным Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

13.07.2000 г. Пастановай Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь № 1047 было зацьверджанае Палажэньне аб парадку аднясеньня тавараў, якія ўвозяцца на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, да тавараў, набытых на сродкі ЗБД, якая аказваецца за кошт замежных дзяржаваў ці міжнародных арганізацыяў. Дадзены нарматыўны акт распаўсюджваецца на тавары (за выключэньнем падакцызных), якія ўвозяцца на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь у рамах рэалізацыі праектаў ці праграмаў мінароднага тэхнічнага супрацоўніцтва нашай краіны. У адпаведнасьці з дадзеным Палажэньнем для вызначэньня канкрэтнага пераліку тавараў, вызваленых ад уплаты падатку на дабаўлены кошт пры іхным увозе на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь як тавараў, набытых на сродкі ЗБД, якая аказваецца юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі за кошт замежных дзяржаваў, праекты ці праграмы мусяць прайсьці экспэртызу ў Міністэрстве эканомікі Рэспублікі Беларусь. Парадак рэгістрацыі праграмаў і праектаў міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва вызначаны Палажэньнем аб парадку рэгістрацыі праграмаў і праектаў міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь, а таксама кантролю за іхнай рэалізацыяй, зацьверджаным Пастановай Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь і Міністэрства замежных справаў Рэспублікі Беларусь № 37/142 ад 13.02.2002 году.

***Грамадзкія арганізацыі-атрымальнікі ЗБД будуць плацельшчыкамі некаторых падаткаў у выпадку наяўнасьці аб'екту падаткаабкладаньня.***

*Падатак на нерухомую маёмасьць*

У адпаведнасьці з Законам "Аб падатку на нерухомую маёмасьць" ад 22 сьнежня 1991 году № 1337-XII з коштаў асноўных фондаў, увезеных на тэрыторыю РБ па дамовах арэнды і іншых дамовах з замежнымі юрыдычнымі ці фізычнымі асобамі, якія прадугледжваюць уцягеньне ўвезенай маёмасьці ў грамадзкі абарот, падатак сплочваецца незалежна ад умоваў дамовы асобай, якая выкарыстоўвае ўвезеную маёмасьць. Але неабходна мець на ўвазе, што ў адпаведнасьці з пагадненьнем паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Ўрадам ЗША, што тычыцца супрацоўніцтва па аблягчэньні прадастаўленьня дапамогі, тавары, пастаўкі ці іншая маёмасьць, якія прадастаўляюцца ці выкарыстоўваюцца ў сувязі з ажыцьцяўленьнем праграмаў дапамогі Злучаных Штатаў Амэрыкі, могуць увозіцца, вывозіцца ці выкарыстоўвацца ў РБ вольна ад уплаты любых ставак, збораў, падатковых пошлінаў, імпартовых падаткаў і іншых падаткаў ці збораў, якія прымяняюцца ў РБ.

Гадавая стаўка падатку на нерухомую маёмасьць для юрыдычных сродкаў устаноўленая ў памеры 1%.

Але ў адпаведнасьці з заканадаўствам вызваленыя ад абкладаньня падаткам на нерухомую маёмасьць аб'екты сацыяльна-культурнага прызначэньня юрыдычных асобаў незалежна ад формаў уласнасьці. Да аб'ектаў сацыяльна-культурнага прызначэньня варта адносіць асноўныя фонды, якія выкарыстоўваюцца для аховы здароўя, турызму і адпачынку, фізычнай культуры і спорту, сацыяльнага забесьпячэньня, адукацыі, культуры і мастацтва.

Вызваляюцца ад выплаты падатку на маёмасьць таксама асноўныя вытворчыя фонды юрыдычных асобаў ГА "Беларускае таварыства інвалідаў па зроку", "Беларускае таварыства глухіх", "Беларускае таварыства інвалідаў", а таксама асобных падзелаў гэтых юрыдычных асобаў пры ўмове, што колькасьць інвалідаў ва ўказаных юрыдычных асобаў ці асобных падразьдзяленьнях складае ня менш за 50% ад сьвіскавай колькасьці ў сярэднім за пэрыяд.

*Адлічэньні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва*

Адлічэньні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва робяцца ГА-атрымальнікамі ЗБД, калі ў міжнароднай дамове не прадугледжана іншае.

Пад абавязковае сацыяльнае страхаваньне падпадаюць: грамадзяне, якія працуюць на аснове працоўных дамоваў (кантрактаў), сяброўства (удзел) у юрыдычных асобах любых арганізацыйна-прававых формаў; грамадзянска-прававых дамоваў, прадметам якіх ёсьць выкананьне працы і стварэньне аб'ектаў інтэлектуальнай уласнасьці.

Грамадзкія арганізацыі робяць адлічэньні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва ў памеры 35% ад фонду заработнай платы. ГА інвалідаў і пэнсіянэраў, а таксама прадпрыемствы, установы, аб'яднаньні, якія цалкам належаць да ўказаных аб'яднаньняў на правах уласнасьці, у якіх працуе ня меней за 50% інвалідаў і пэнсіянэраў ад сярэднесьпіскавай колькасьці працаўнікоў плацяць адлічэньні ў памеры 4,7%. Для наймальнікаў, у якіх працуе ня менш за 50% інвалідаў ад сярэднесьпіскавай колькасьці працаўнікоў, абавязковыя страхавыя ўзносы ўстаноўленыя ў памеры 20,4%, за выключэньнем прадпрыемстваў, якія цалкам належаць грамадзкім аб'яднаньням інвалідаў і пэнсіянэраў на правах уласнасьці. Працаўнікі ГА робяць адлічэньні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва ў памеры 1%.

*Адлічэньні ў дзяржаўны фонд садзейнічаньня занятасьці*

У адпаведнасьці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь надзвычайны падатак і абавязковыя адлічэньні ў дзяржаўны фонд садзейнічаньня занятасьці ўплочваюцца адзіным плацяжом.

Але ў адпаведнасьці зь Інструкцыяй аб парадку адлічэньня і тэрмінах уплаты ў рэспубліканскі бюджэт надзвычайнага падатку і абавязковых адлічэньняў у дзяржаўны фонд садзейнічаньня занятасьці ў 2002 годзе адзіным плацяжом, зацьверджаным Пастановай Міністэрства па падатках і зборах РБ, Міністэрства фінансаў ад 28.02.2002 г. № 21/27 грамадзкія аб'яднаньні, якія не ажыцьцяўляюць прадпрымальніцкай дзейнасьці, вызваляюцца ад уплаты надзвычайнага падатку з фонду заработнай платы. Але яны абавязаныя вылічваць і выплочваць у бюджэт абавязковыя адлічэньні ў дзяржаўны фонд садзейнічаньня занятасьці ў памеры 1 % ад фонду заработнай платы.

*Падатак на набыцьцё аўтатранспартных сродкаў*

Падатак на набыцьцё аўтатранспартных сродкаў вылічваецца і ўплочваецца па стаўцы ў памеры 5% ад продажнага кошту без падатку на дабаўлены кошт (пры ўмове выдзяленьня сумы падатку на дабаўлены кошт у разьліковых дакумэнтах, якія пацьвярджаюць набыцьцё транспартных сродкаў).

Ад уплаты падатку на набыцьцё аўтатранспартных сродкаў вызваляюцца ў тым ліку грамадзкія аб'яднаньні інвалідаў, якія набываць аўтатранспартныя сродкі для ажыцьцяўленьня сваёй статутнай дзейнасьці.

*Экалягічны падатак*

Гарамадзкія аб'яднані, якія выкарыстоўваюць аўтатранспартныя сродкі, выплочваюць экалягічны падатак на выкід у атмасфэру шкодных рэчываў у агульнаўстаноўленым парадку.

Стаўкі экалягічнага падатку зацьверджаныя Пастановай Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 5 лютага 2002 г. № 146 "Пра стаўкі экалягічнага падатку, ліміты здабываньня прыродных рэсурсаў і дапушчальныя выкіды брудных рэчываў".

***Падаткаабкладаньне ЗБД, якая рэгіструецца ў Дэпартамэнце па гу-***

***манітарнай дзейнасьці Кіраўніцтва справамі Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь***

У выпадку, калі ЗБД (грашовыя сродкі, у тым ліку ў замежнай валюце, тавары, маёмасьць, якія бескарысна прадастаўляюцца ў карыстаньне, валоданьне, распараджэньне юрыдычным і фізычным асобам РБ замежнымі дзяржавамі, міжнароднымі арганізацыямі, замежнымі арганізацыямі і грамадзянамі, а таксама асобамі без грамадзянства і ананімнымі ахвярадаўцамі), прадастаўляецца не ў такім парадку, які быў азначаны вышэй, яна рэгіструецца ў Дэпартамэнце па гуманітрнай дзейнасьці Кіраўніцтва справамі Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Яе трэба рэгістраваць у Дэпартамэнце ЗБД у выглядзе грашовых сродкаў, тавараў (маёмасьці) у памеры (кошце), які не перавышае 30 мінімальных заробкаў на месяц, ці ў эквівалентнай суме ў замежнай валюце, што скіраваная на выкарыстаньне малામаёмаснымі, пэнсіянэрамі, інвалідамі I і II групаў, шматдзетнымі і няпоўнымі сем'ямі, уцекачамі. Ня трэба рэгістраваць грашовыя сродкі, у тым ліку ў замежнай валюце, якія прадастаўляюцца для выкарыстаньня юрыдычнымі асобамі-атрымальнікамі ЗБД у памеры, які не перавышае 50 мінімальных заробкаў ці ў эквівалентнай суме ў замежнай валюце, атрыманыя адзіначасова, але ня болей чым 1 раз на месяц.

ЗБД, атрыманая наяўнымі грашыма, у тым ліку ў замежнай валюце, якую трэба рэгістраваць у Дэпартамэнце, мусіць быць унесеная атрымальнікамі на рахунак у банк Рэспублікі Беларусь цягам пяці банкаўскіх дзён з дня яе атрыманьня ці ўвозу на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь. Асновай для рэгістрацыі ЗБД зьяўляецца дамова, заключаная ў пісьмовай форме, ці дарсьцьвенны сэртыфікат, які прадугледжвае ўмовы і мэты выкарыстаньня ЗБД. Юрыдычныя асобы, якія атрымалі ва ўстаноўленым парадку ліцэнзіі Дэпатамэнту на ажыцьцяўленьне дзейнасьці, зьвязанай з атрыманьнем і разьмеркаваньнем гуманітарнай дапамогі, а таксама арганізацыі, якія фінансуюцца за кошт бюджэтных сродкаў, маюць права атрымліваць ЗБД на асновe ўзгодненых з Дэпатамэнтам прагрмаў.

Пры заключэньні доўгатэрміновай дамовы і пры ўказаньні агульнай сумы дамовы юрыдычная асоба мае права зьвярнуцца ў Дэпартамэнт з просьбай зарэгістраваць ЗБД у выглядзе грашовых сродкаў да атрыманьня дакумэнту, які пацьвярджае ўнясеньне ЗБД на рахунку банкаў РБ. Пасьля паступленьня грашовых сродкаў на рахункі банкаў юрыдычная ці фізычная асоба абавязаная прадаставіць у Дэпартамэнт банкаўскі дакумэнт, які пацьвярджае дадзенае паступленьне. ЗБД, якая паступіла ў выглядзе грошай, залічваецца на дабрачынны рахунак, які адкрыты ў выглядзе грошай, залічваецца на дабрачынны рахунак, які адкрыты ў банку юрыдычнай ці фізычнай асобай-атрымальнікам дапамогі *(1)*.

<u>*Льготы па падатках і мытных плацяжах для атрымальнікаў ЗБД прадастаўляюцца Прэзыдэнтам РБ паводле прадастаўленьня Дэпартамэнтам па гуманітарнай дзейнасьці на аснове пісьмовых заяваў атрымальнікаў.*</u>

Варта падкрэсьліць, што да 1 студзеня 2002 году ў склад прыбыткаў ад пазарэалізацыйных апэрацыяў для мэтаў падаткаабкладаньня не ўключаліся маёмасьць і грашовыя сродкі, бязвыплатна атрыманыя, у тым ліку ГА, ад юрыдычных і фізычных асобаў замежных дзяржаваў і выкарыстаныя па мэтавым прызначэньні. Але з унясеньнем зьменаў у Закон "Аб падатках на даходы і прыбытак" (Закон Рэспублікі Беларусь ад 8 студзеня 2002 г. № 86-З "Аб унясеньні зьменаў і дапаўненьняў у некаторыя заканадаўчыя акты РБ па пытаньнях падаткаабкладаньня") дадзеная норма была прыбраная. У сувязі з гэтым ГА-атрымальнікі ЗБД, якая прадастаўляецца не ў адпаведнасьці зь міжнароднымі дамовамі, што прадугледжваюць падатковыя ільготы, надзвычай важна рэгістраваць ЗБД з "прадастаўленьнем падатковых ільготаў", у іншым выпадку яны будуць выплочваць падатак на прыбытак са сродкаў гранту, які будзе разглядацца як парэалізацыйны падыход.

На заканчэньне хочацца адзначыць, што заканадаўства, якое тычыцца ЗБД, сыстэматычна зьмяняецца. 19 красавіка 2002 году быў падпісаны Дэкрэт Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь № 11 "Аб адмене індывідуальных ільготаў па падатках, зборах і мытных плацяжах і аб удасканаленьні дзяржаўнай падтрымкі юрыдычных асобаў і індывідуальных прадпрымальнікаў". У адпаведнасьці з дадзеным дэкрэтам ЗБД, зарэгістраваная ў Дэпартамэнце па гуманітарнай дзейнасьці і накіраваная на мэты, вызначаныя заканадаўствам, вызваляецца ва ўстаноўленым парадку ад падатковых плацяжоў, а таксама да абкладаньня падаткам на прыбытак і падаткам на дабаўлены кошт. Ураду краіны даручана ўнесьці праект нарматыўнага прававога акту Прэзыдэнта аб зацьверджаньні парадку вызваленьня ЗБД, зарэгістраванай у Дэпартамэнце па гуманітарнай дзейнасьці і накіраваная на мэты, вызначаныя заканадаўствам, ад мытных плацяжоў, а таксама да абкладаньня падаткам на прыбытак і на дабаўлены кошт.

*(1) У адпаведнасьці з тлумачэньнямі Нацыянальнага Банку Рэспублікі Беларусь, калі на ЗБД, што атрымліваецца, не распаўсюджваюцца нормы Дэкрэту Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 12.03.2001 г. "Аб некаторых мерах па ўдасканаленьні парадку атрыманьня і выкарыстаньня ЗБД", магчымае налічэньне ЗБД на бягучы рахунак.*





**"Bulletin" is a monthly edition of the Assembly of Belarusian Pro-democratic Non-Governmental Organizations uniting more than 500 public associations and initiative groups all over Belarus. The main principle of the edition is giving information "about and for" Belarusian NGOs. The Bulletin contains information on the most urgent NGOs' events and regional activities, answers stirring questions, provides readers with legal advice, shares with foreign NGO experience, etc.**

# “Бюлетэнь”

шукае рэгіянальных карэспандэнтаў,

**здольных пісаць пра падзеі ў “трэцім сэктары”.**

**Усе падрабязнасьці - па электроннай пошце:**

***ngo@user.unibel.by***
**(rezume)**



© Бюлетэнь Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі

**Рэдактар** Сяргей Сахараў

**Карэктар** Алесь Кастыка

**Вёрстка** Mikalaus

Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна

Кантакты:
А/с 82, 220030, Менск-30, БЕЛАРУСЬ
(Для Натальлі Казлоўскай)
тэл. (017) 225 51 10
факс (017) 206 59 09
ngo@user.unibel.by
www.ngo.unibel.by